# САВЕЦКАЯ КРАІНА



ОРГАН ЦЭНТРАЛЬНАГА БЮРО
КРАЯЗНАЎСТВА ПРЫ
БЕЛАРУСКАЙ
АКАДЭМІІ
НАВУК

...ОТЫ
...о 2
(16)

1932

*Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!*

# САВЕЦКАЯ КРАЇНА

ШТОМЕСЯЧНЫ ОРГАН

ЦЭНТРАЛЬНАГА БЮРО КРАЯЗНАЎСТВА

ПРЫ

БЕЛАРУСКАЙ АКАДЭМІІ НАВУК



ГОД ВЫДАНЬНЯ ТРЭЦІ

ЛЮТЫ

№ 2 (16)



МЕНСК — 1932

В. Серафімаў

# Краязнаўцы на барацьбу за выкананьне пляну прамысловасьці 1932 заключнага году пяцігодкі

XVII партыйная конфэрэнцыя і XIV зьезд КП(б)Б падвялі ітогі разьвіцьця прамысловасьці ў 1931, рашаючым годзе пяцігодкі і намецілі асноўныя задачы 1932—заключнага году пяцігодкі. Продукцыя соцыялістычнай прамысловасьці ў 1931 годзе складала 27 мільярдаў, што дае 21 проц. прыросту ў параўнаньні з 1930 годам. Такога гіганцкага росту „ня ведала ні адна капіталістычная дзяржава, нават у лепшыя гады капіталізму“ (з пастановы XVII партконфэрэнцыі). Рад кіруючых галін у нашай прамысловасьці, па-бальшавіцку змагаючыся за лёзунг рабочае клясы „пяцігодка ў 4 гады“, выканалі і перавыканалі свае заданьні ў $2^1/_2$-3 гады (нафтавая, электратэхніка, машынабудаўніцтва і інш.). Пасьпяховае выкананьне і перавыкананьне пляну 1931 году забясьпечвае выкананьне пяцігадовага пляну прамысловасьці ў 4 гады. Рост соцыялістычнай прамысловасьці забясьпечыў рост матар'яльнага становішча рабочае клясы, у той час як у капіталістычных краінах „1931 год быў годам працягу і паглыбленьня жорсткага, нябачанага яшчэ ў гісторыі капіталізму крызісу, які прывёў да вялізарнага згортваньня вытворчасьці і амаль поўнага спыненьня будаўніцтва“. У той час як у капіталістычных краінах з кожным днём расьце беспрацоўе (а колькасьць беспрацоўных у Эўропе і Амэрыцы перавысіла 25 мільёнаў), у Савецкім саюзе канчаткова ліквідавана беспрацоўе. 1931 год даў прырост рабочае клясы на 2 млн чалавек, а заработная плата, у параўнаньні з 1930 годам, вырасла на 16 проц. „Яшчэ раз бліскуча падкрэсьлена перавага соцыялістычнай сыстэмы гаспадаркі перад сыстэмай капіталістычнай“ (з пастаноў XVII партконфэрэнцыі).

У падвядзеньні ітогаў разгортваньня прамысловасьці ў 1931 годзе XVII партконфэрэнцыя асабліва адзначае тыя вялізарнейшыя якасныя зрухі, якія адбываліся ў разгортваньні прамысловасьці, вялізарнейшую барацьбу партыйных, гаспадарчых, профсаюзных організацый за аўладаньне тэхнікай, за асваеньне новай вытворчасьці. „Аўладаньнем тэхнікай вытворчасьці на Сталінградзкім трактарным заводзе і „Чырвоным пуцілаўцы“, пускам і пасьпяховым разгортваньнем Харкаўскага трактарнага заводу, рэконструкцыяй усяго машынабудаўніцтва, пускам і разгортваньнем заводаў па вытворчасьці комбайнаў, пускам Маскоўскага і Ніжагародзкага аўтомобільных заводаў — усім гэтым створана моцная вытворчая база, якая забясьпечвае далейшае тэхнічнае пераўзбраеньне народнае гаспадаркі, у тым ліку сельскае гаспадаркі“.

1931 год быў годам нябачных маштабаў падрыхтоўкі рабочых і тэхнічных кадраў, што складае важнейшую ўмову для далейшага разгортваньня соцыялістычнай прамысловасьці. 1931 год па лініі ВСНГ даў 1,8 млн вучнёўства. „Калі ў 1931 годзе выпушчана 21 тыс. маладых інжынэраў і тэхнікаў, дык у 1932 годзе будзе выпушчана 38.000 і ў 33 г.—85.000; калі школамі ФЗВ выпушчана ў 1931 годзе 51.000 чал., дык у 1932 годзе будзе выпушчана 350 тыс. чал."

XVII партыйная конфэрэнцыя адзначыла той паварот навукова-дасьледчай работы да соцыялістычнага будаўніцтва, які адбыўся ў 1931 годзе і вялізарнейшы рост навукова-дасьледчых інстытутаў па абслугоўваньню запатрабаваньняў соцыялістычнае прамысловасьці. Навукова-дасьледчыя адзінкі з 141 узрасьлі да 205, а лік навуковых працаўнікоў, занятых у прамысловасьці, узрос з 6 тыс. да $12^1/_2$ тыс.

1931 год быў пачаткам перабудовы прамысловасьці і організацыі працы на аснове бальшавіцкага ажыцьцяўленьня 6 гістарычных умоў т. Сталіна. Тыя недахопы, якія мы мелі ў прамысловасьці ў 1931 годзе, як дрэнная работа транспорту ў першым квартале, недахоп у організацыі працы, недастатковасьць конкрэтнага кіраўніцтва з боку аб'яднаньняў, невыкананьне плянаў па зьніжэньню сабекошту, недастатковае ўкараненьне гаспадарчага разрахунку, недастатковая праверка выкананьня,—патрабуюць мобілізацыі ўвагі і энэргіі нашай партыі, мобілізацыі энэргіі рабочае клясы на ліквідацыю гэтых галоўнейшых недахопаў і на поўнае выкананьне пляну 1932 году. Конфэрэнцыя падкрэсьлівае, што і далейшае пасьпяховае выкананьне пляну і пасьпяховае разьвіцьцё прамысловасьці і зьнішчэньне недахопаў магчыма пры рашучай перабудове работы на аснове 6 умоў т. Сталіна. „Перабудова сыстэмы заработнай платы, барацьба з ураўнілаўкай і абязьлічкай, барацьба з цякучасьцю рабочай сілы, барацьба за організаванае прыцягненьне рабочай сілы ў прамысловасьць і за далейшае паляпшэньне жыльлёва-бытавых умоў рабочых; укараненьне і ўмацаваньне гаспадарчага разрахунку, разбуйненьне аб'яднаньняў з мэтай набліжэньня іх да прадпрыемстваў і ўзмацненьне конкрэтнага кіраўніцтва; далейшае разгортваньне работы па падрыхтоўцы пролетарскай вытворча-тэхнічнай інтэлігенцыі і зьмена адносін да інжынэрна-тэхнічных сіл старой школы ў бок большай увагі да іх і клопату аб іх, у бок большага прыцягненьня іх да работы і падахвочваньня іх ініцыятывы".

XVII партконфэрэнцыя з усёй катэгорычнасьцю ставіць пытаньне перад навукова-дасьледчымі інстытутамі аб актыўнейшым удзеле ў барацьбе за выкананьне пляну, як аднэй з галоўнейшых умоў барацьбы за выкананьне і перавыкананьне колькасных і якасных паказчыкаў пляну, за сталы ўдзел у барацьбе заводу і фабрыкі. „Работа навукова-дасьледчых інстытутаў не павінна абмяжоўвацца сьценамі лябораторыі, а абавязкова павінна даводзіцца да фабрык і заводаў" (з пастановы XVII партконфэрэнцыі). Гэтая яскравая дырэктыва XVII партыйнай конфэрэнцыі патрабуе ад навукова-дасьледчых інстытутаў безадкладных рашучых крокаў у разгортваньні масавай навукова-дасьледчай работы на заводзе, фабрыцы. Разгортваньне масавай навукова-дасьледчай работы на заводзе патрабуе шырачэйшай мобілізацыі заводзкіх організацый, мобілізацыі рабочых мас на ўдзел у навукова-дасьледчай рабоце. Організацыю і разгортваньне заводзкіх лябораторый трэба зьвязаць з організацыяй рабочых мас на штодзенны ўдзел у навукова-дасьледчай рабоце. Шырокая організацыя краязнаўчых ячэек, усямерная мэтодычная дапамога ім з боку навукова-дасьледчых інстытутаў,

арганізацыя і плянаваньне іх работы па конкрэтных пытаньнях барацьбы за выкананьне і перавыкананьне прамфінпляну, на шырачэйшы абмен практыкаю лепшых посьпехаў вынаходніцтва і г. д.

Выкананьне пляну разгортваньня бальшавіцкіх тэмпаў у соцыялістычным будаўніцтве патрабуе вялізарнейшага прыросту кваліфікаваных і тэхнічных кадраў, што ня можа быць задаволена стацыянарнай падрыхтоўкай і патрабуе вялізарнейшага разгортваньня тэхнічнай пропаганды, разгортваньня навукова-тэхнічнай грамадзкасьці. „Конфэрэнцыя зварочвае асаблівую ўвагу на неабходнасьць разьвіцьця шырокай навукова-тэхнічнай грамадзкасьці, ад рабочага актыву на прадпрыемствах (ударнікі, вынаходцы, рацыяналізатары) да навукова-тэхнічных таварыстваў. Толькі пры разгортваньні гэтай грамадзкасьці, у сувязі з ростам соцыялістычнага спаборніцтва, шырокага абмену практыкаю і г. д. можа быць паскораны процэс масавага росту тэхнічных кадраў соцыялістычнай прамысловасьці".

Краязнаўчая ячэйка на заводзе, на фабрыцы — адна з масавых формаў арганізацыі ўдарнікаў, вынаходцаў, рацыяналізатараў на навукова-тэхнічную работу, на сыстэматычную масавую падрыхтоўку навукова-тэхнічных кадраў. Організацыя тэхнічнай пропаганды на заводзе — галоўнейшая задача кожнай краязнаўчай ячэйкі. Навукова-дасьледчыя інстытуты, вышэйшыя навучальныя ўстановы разам з профорганізацыямі павінны разьмеркаваць свае сілы, каб, выходзячы з адпаведнай спэцыялізацыі па сваёй галіне, максымальна організавана скарыстаць іх як для тэхнічнай пропаганды, так і для мэтодычнай дапамогі рабочаму актыву ў організацыі навукова-тэхнічнай пропаганды на заводзе, у організацыі масавай падрыхтоўкі кадраў.

Зараз Беларуская Акадэмія Навук прымацоўвае ўсіх навуковых працаўнікоў да фабрык, заводаў, колгасаў для організацыі дапамогі ў навукова-дасьледчай рабоце. Пры разьмеркаваньні прадугледжваецца спэцыяльнасьць таго ці іншага працаўніка, прычым да некаторых заводаў (Комунар, Варашылаў, Бальшавік і інш.) прымацоўваюцца брыгады навуковых працаўнікоў. Бясспрэчна, што на гэтым справа ня кончыцца: патрэбна максымальнае скарыстаньне гэтых таварышоў заводзкімі організацыямі, патрэбна іх плянавая работа ў жыцьці ўсяго прадпрыемства, патрэбна поўная адказнасьць з боку саміх заводзкіх організацый. Конфэрэнцыя, адзначаючы недаацэнку тэхнічнай пропаганды з боку профсаюзных, гаспадарчых органаў, дала дырэктыву аб матар'яльным забесьпячэньні разгортваньня гэтай справы ў 1932 годзе. Гэтая дырэктыва партыі павінна безадкладна зьнішчыць тыя рагаткі, якія сёньня спатыкае на сваім шляху разгортваньне тэхнічнай пропаганды з боку заводзкіх організацый. Мы маем зусім недапушчальнае становішча ў Менску. Пляны масавай, навукова-тэхнічнай пропаганды Беларускай Акадэміі Навук, па ўзгадненьню з Гарпрофсаветам, даведзены да 8 прадпрыемстваў г. Менску, аднак-жа і на сёньня актуальнейшыя тэмы Фізыка-тэхнічнага інстытуту БАН, як, напрыклад, „змаганьне за паляпшэньне коэфіцыенту магутнасьці электраўстановак" рэалізаваны з нацяжкай толькі на электрычнай станцыі, другія заводы ня могуць знайсьці часу для гэтае справы, заяўляючы: „усе дні і гадзіны заняты і для навукі нічога не засталося". Такім настроям цяпер трэба палажыць канец. Барацьба за навуку і тэхніку на заводзе—адна з галоўнейшых умоў пасьпяховага выкананьня і перавыкананьня пляну. Заводзкі трыкутнік адказвае за тэхнічную пропаганду на заводзе, за організацыю краязнаўчай ячэйкі на заводзе, за ўсямерную дапамогу масавай навукова-дасьледчай

рабоце і павінен уключыць гэтую работу ў свой плян. Бязумоўна, ня меншую коснасьць, непаваротнасьць трэба ліквідаваць і навуковым установам, культасьветным установам, якія павінны аказваць усямерную дапамогу заводам. Мы павінны разгарнуць масавую навукова-дасьледчую работу БАН, выходзячы з пастаноў ЦК КП(б)Б аб рабоце БАН. Пастанова ЦК КП(б)Б таксама рашуча ставіць перад БАН (гэта значыцца перад усёй навукова-дасьледчай работай у БССР) пытаньне аб разгортваньні тэхнічнай пропаганды. Трэба, каб ня толькі БАН, а каб і кожная навукова-дасьледчая ўстанова, навучальныя ўстановы прымацавалі сваіх навуковых работнікаў да пэўных заводаў, фабрык, каб прымацаваныя конкрэтна дапамаглі заводу ў разгортваньні тэхнічнай пропаганды, у разгортваньні масавай навукова-дасьледчай работы. Трэба шырока разгарнуць соцыялістычнае спаборніцтва паміж навукова-дасьледчымі ўстановамі і заводзкімі організацыямі, паміж самімі заводамі, паміж самімі навукова-дасьледчымі ўстановамі і організацыямі на лепшую пастаноўку навукова-тэхнічнай пропаганды на заводах, на большае ўцягненьне рабочых у гэтую справу, на лепшы эфэкт ад прыстасаваньня навуковых дасягненьняў і вынаходніцтва ў рабоце заводаў і г. д.

Масавы сэктар і Цэнтральнае бюро краязнаўства заключылі ўмову на соцыялістычнае спаборніцтва з комсамольскім колектывам заводу Комунар (умова надрукавана ў № 1 „Савецкай Краіны" за 1932 год). Гэты пачатак павінен быць падхоплены другімі заводамі, навукова-дасьледчымі ўстановамі і краязнаўчымі організацыямі. Раённыя, гарадзкія краязнаўчыя організацыі, выходзячы з пастаноў XVII партыйнай конфэрэнцыі, павінны безадкладна перабудаваць сваю работу, рашуча біць па хвасьцізму, самацёку і опортуністычнай недаацэнцы неабходнасьці разгортваньня савецкага краязнаўства. Мы лічым зусім недапушчальным, што Менскае гарадзкое краязнаўчае бюро, маючы вялізарнейшы актыў, да гэтага часу бязьдзейнічае і ня зьвязана з заводамі. Мы лічым зусім недапушчальным, што дырэктыва НКА аб разгортваньні краязнаўчай работы навучальнымі ўстановамі ігноруецца. Трэба праверыць сваю дырэктыву НКА і больш рашуча запытаць аб прычынах невыкананьня гэтай дырэктывы. Па лініі профсаюзаў трэба таксама організаваць праверку дырэктыў ЦСПСБ і УсеЦСПС, дабіваючыся рашучага пералому і разгортваньня работы па выкананьню пастаноў XVII партконфэрэнцыі.

Перад краязнаўчымі і навукова-дасьледчымі ўстановамі надзвычайна адказьнейшая задача—быць лепшымі ўдарнікамі ў барацьбе за большавіцкі плян 4-га заключнага году пяцігодкі, за яго поўнае выкананьне і перавыкананьне.

Асноўнай задачай, на вырашэньне якой павінна быць згуртавана энэргія краяведных організацый—барацьба за поўнае выкананьне дырэктывы XIV зьезду КП(б)Б аб торфаздабычы, „гэта задача шчыльна зьвязана і выцякае з задач выкананьня пляну народнай гаспадаркі БССР у цэлым" (з паст. XIV зьезду КП(б)Б).

В. Самцэвіч

# Пастанова ЦК КП(б)Б аб рабоце Беларускай Акадэміі Навук і задачы краязнаўчых організацый

Пастанова ЦК КП(б)Б „Аб рабоце Беларускай Акадэміі Навук“ зьяўляецца баявой програмай дзейнасьці ў навукава-дасьледчай рабоце ня толькі Акадэміі Навук, але і ўсіх навукова-дасьледчых установ і організацый БССР, у тым ліку і краязнаўчых організацый, якія праз Цэнтральнае бюро краязнаўства непасрэдна зьвязваюцца з Акадэміяй Навук, зьяўляючыся яе пярвічнымі дасьледчымі ячэйкамі на прамысловых прадпрыемствах, у савгасах, колгасах, МТС, пры навучальных установах і інш. Краязнаўчыя організацыі, пачынаючы ад ЦБК і канчаючы кожнай ячэйкай, павінны належным чынам прапрацаваць пастанову ЦК КП(б)Б аб рабоце Беларускай Акадэміі Навук і ўсю сваю работу перабудаваць на аснове конкрэтных указаньняў аб зьмесьце і задачах дасьледчае работы на даным этапе соцыялістычнага будаўніцтва.

Краязнаўчыя організацыі павінны зьяўляцца сапраўднымі асяродкамі соцыялістычнай культуры ў кожным раёне, у кожным сельсавеце, на кожным прадпрыемстве і ў кожным населеным пункце. Проблема навукі, проблема разгортваньня масавай навукова-дасьледчай работы цяпер, у пэрыод грандыёзьнейшага соцыялістычнага будаўніцтва, набываюць выключна вялікае значэньне, і таму задача разгортваньня краязнаўчай работы, як масавай дасьледчай работы, павінна быць баявой задачай усіх партыйных, профсаюзных і комсамольскіх організацый. Савецкія плянуючыя і гаспадарчыя ўстановы павінны зьвярнуць максымум увагі на разгортваньне масавай дасьледчай работы і на выкарыстаньне вынікаў гэтае работы для соцыялістычнага будаўніцтва.

На аснове пастановы ЦК КП(б)Б краязнаўчыя організацыі ў сваёй рабоце павінны ўзяцца за распрацоўку конкрэтных проблем, „зьвязаных з сучаснымі задачамі партыі і пролетарыяту, з уступленьнем у пэрыод соцыялізму і задачамі выкананьня пяцігодкі за чатыры гады, на аснове соцыялістычнай рэконструкцыі ўсёй народнай гаспадаркі, з задачамі культурнай рэволюцыі і ў цэлым—з клясавай барацьбой сусьветнага пролетарыяту на даным этапе“. Навукова-дасьледчая работа Беларускай Акадэміі Навук, у тым ліку і ЦБК, павінна праводзіцца ў напрамку „распрацоўкі пытаньняў, зьвязаных з організацыйна-гаспадарчым умацаваньнем колгасаў, павышэньня ўраджайнасьці і таварнасьці сельскае гаспадаркі, вывучэньня характару і формаў клясавае барацьбы на даным этапе, распрацоўкі пытаньняў, зьвязаных з ажыць-

цяўленьнем ленінскай нацыянальнай палітыкі ва ўмовах БССР, вывучэньня вытворчых сіл краіны, скарыстаньня сыравінных рэсурсаў у соцыялістычным будаўніцтве, распрацоўкі проблем, зьвязаных з рэконструкцыяй комунальнай гаспадаркі і г. д.“. (З пастановы ЦК КП(б)Б). Зусім відавочна, што гэтыя актуальнейшыя задачы навукова-дасьледчае работы павінны быць асноўнымі і стрыжанёвымі задачамі і ў рабоце ўсіх краязнаўчых організацый. Трэба каб кожная краязнаўчая організацыя па-сапраўднаму, па-бальшавіцку ўзялася за сыстэматычнае і дасканалае вывучэньне конкрэтных задач соцыялістычнага будаўніцтва, за популярызацыю практыкі лепшых прадпрыемстваў, колгасаў і саўгасаў, за выяўленьне сыравіны для нашай прамысловасьці і вывучэньне ўсіх мясцовых рэсурсаў для максымальнага разьвіцьця ўсіх галін народнае гаспадаркі ў кожным раёне.

Краязнаўчыя організацыі ўсю сваю дасьледчую работу павінны праводзіць на аснове марксысцка-ленінскай мэтодолёгіі і бязьлітаснай барацьбы на два фронты з клясава-варожымі пролетарыяту ўстаноўкамі ў краязнаўстве, на аснове рашучага змаганьня за партыйнасьць ва ўсёй навукова-дасьледчай рабоце.

Партыяй нанесены руйнуючы, зьніштажаючы ўдар контррэволюцыйнаму беларускаму нацыянал-дэмократызму, выкрыты конкрэтныя носьбіты вялікадзяржаўніцкіх ухілаў, пад кіраўніцтвам партыі праведзена вялікая работа па ачыстцы краязнаўчых організацый ад шкодных і варожых элемэнтаў, але клясавая барацьба ў краязнаўстве канчаткова не ліквідавана, яна прыняла толькі новыя формы. Частка краяведаў, якія раней, у часы росквіту нацдэмаўшчыны, актыўна працавалі на краязнаўчым фронце, цяпер, у часе карэннай перабудовы ўсёй краязнаўчай работы, нібы зусім адышлі ад краязнаўчай работы, але на самай справе об'ктыўна і суб'ектыўна ідуць супроць разгортваньня савецкага, пролетарскага краязнаўства. Па-за вугламі, цішком яны злосна сычаць супроць суровай бальшавіцкай крытыкі буржуазнага зьместу краязнаўчай работы за мінулы пэрыод; барацьбу супроць контррэволюцыйнага беларускага нацыянал-дэмократызму яны імкнуцца прадставіць як паход супроць беларускай нацыянальнай культуры, яны паціраюць рукі ад задаваленьня, што савецкі пролетарскі краязнаўчы рух яшчэ пакуль сустракае рад перашкод на шляху свайго росту і разьвіцьця, яны трусьліва, паціханьку, дзе могуць шкодзяць разьвіцьцю масавай дасьледчай работы. Мы маем і яўныя спробы працягваньня нацыянал-дэмократычных і яўна буржуазных установак у краязнаўстве праз краязнаўчы друк. Краязнаўчыя організацыі павінны ўзмацніць клясавую пільнасьць у краязнаўчай рабоце, выкрыць новыя завуаляваныя формы клясавай барацьбы і весьці самую жорсткую бязьлітасную барацьбу на два фронты з усякімі варожымі плынямі ў краязнаўстве, прыцягваючы да актыўнай работы тых краяведаў, якія хочуць і могуць працаваць на карысьць соцыялістычнага будаўніцтва. Мы павінны рашуча пакончыць з гнілым лібэралізмам у краязнаўстве і разгарнуць сапраўдную бальшавіцкую самакрытыку, выкрываючы і даючы рашучы адпор усім, хто тармозіць, перашкаджае разгортваньню масавай дасьледчай работы і ідзе супроць пастаноў партыі і ўраду. Барацьба за чыстату марксысцка-ленінскай мэтодолёгіі, за генэральную лінію партыі, за ажыцьцяўленьне ленінскай нацыянальнай політыкі, за рэалізацыю пастаноў партыі па пытаньням навукова-дасьледчай работы — адна з галоўнейшых задач, якая выцякае з пастановы ЦК КП(б)Б.

Пастанова ЦК КП(б)Б ва ўвесь рост ставіць перад Масавым сэктарам і ЦКБ задачу „шырока зьвязацца з рабочымі масамі і колгасьнікамі, усялякім чынам уцягваючы іх, разам з уцягненьнем савецкай інтэлігенцыі, у масавую навукова-дасьледчую работу". (З пастановы ЦК КП(б)Б). Аднэй з формаў разгортваньня масавай дасьледчай работы і зьяўляецца краязнаўчы рух. Пастанова ЦК, такім чынам, ускладае на Акадэмію, на яе Масавы сэктар і ЦБК і на ўсе краязнаўчыя арганізацыі задачу ўзмацненьня тэмпаў па разгортваньню краязнаўчых ячэек на прадпрыемствах, у колгасах, саўгасах, МТС, пры асьветных установах і інш. Выконваючы пастанову ЦК КП(б)Б, мы павінны дабіцца, каб краязнаўчы рух стаў сапраўды масавым рухам, каб на кожным заводзе, у кожным саўгасе і колгасе былі арганізаваны дасьледчыя ячэйкі. Праз уцягненьне ў масавую дасьледчую работу рабочых і колгасьнікаў мы павінны забясьпечыць падрыхтоўку і рост пролетарскіх краязнаўчых кадраў.

У разгортваньні краязнаўчай работы пэўную організуючую ролю павінен адыграць масавы краязнаўчы часопіс „Савецкая Краіна". Неабходна дабіцца, каб часопіс „Савецкая Краіна" стаў сапраўды масавым краязнаўчым часопісам, каб ён стымуляваў і даваў пэўны кірунак разгортваньню масавай дасьледчай работы, узбройваў масы марксысцка-ленінскай мэтодолёгіяй, популярызаваў дасягненьні навукі і тэхнікі сярод шырокіх рабочых і колгасьніцкіх мас, быў організатарам дасьледчае работы на заводзе, у колгасе, саўгасе. Краязнаўчыя організацыі павінны прыняць актыўны ўдзел у супрацоўніцтве часопісу „Савецкая Краіна" шляхам вылучэньня лепшых корэспондэнтаў-краяведаў. Разам з гэтым трэба зьвярнуць вялікую ўвагу на якасьць матар'ялу, які зьмяшчаецца ў часопісу, і карыснасьць яго для соцыялістычнага будаўніцтва. Запатрабаваньні да якасьці навукова-дасьледчай работы з усёй сур'ёзнасьцю ставяць перад усімі краязнаўчымі організацыямі і перад кожным краяведам пытаньне аб падвышэньні кваліфікацыі, аб спэцыялізацыі ў рабоце кожнага краяведа, аб аўладаньні марксысцка-ленінскай мэтодолёгіяй.

Аўладаньне тэхнікай, вывучэньне агро- і зоотэхнікі, спэцыялізаваных галін сельскае гаспадаркі і разгортваньне масавай тэхнічнай і агротэхнічнай пропаганды сярод шырокіх рабочых і колгасьніцкіх мас зьяўляецца асноўнай і неад'емнай часткай усёй рэботы краязнаўчых організацый. Толькі ўключыўшыся ў вырашэньне актуальных задач, пастаўленых партыяй перад рабочымі і ўсімі працоўнымі масамі нашай краіны, краязнаўчыя організацыі зоймуць належнае ім месца і зьявяцца сапраўднымі асяродкамі культурнае рэволюцыі.

Пастанова ЦК КП(б)Б абавязвае і ставіць перад Беларускай Акадэміяй Навук, як „адзіным навуковым рэспубліканскім цэнтрам, у якім концэнтруецца агульнае кіраўніцтва ўсёй навукова-дасьледчай работы БССР" (з пастановы СНК БССР ад 13/V-1931 г.) задачу плянаваньня ўсёй навукова-дасьледчай работы ў БССР і контролю над выкананьнем гэтае работы. Плянаваньне дасьледчае работы краязнаўчых організацый зьяўляецца таксама неабходным і абавязковым для ўсіх краязнаўчых ячэек і раённых бюро краязнаўства. Аднак, пераважная большасьць краязнаўчых оранізацый працуе яшчэ бяз усякіх плянаў, а складзеныя пляны ня выконваюцца. Бясплянавасьці і безадказнасьці ў дасьледчай рабоце павінен быць паложаны канец. Кожная краязнаўчая організацыя павінна мець свой рэальны і конкрэтны плян дасьледчае работы, які павінен зьяўляцца часткай агульнага пляну дасьледчае

работы ў БССР. Выкананьне пляну кожнай організацыяй, кожнай брыгадай і кожным краяведам зьяўляецца абавязковым. Плян і заданьні дасьледчай работы ў 1932 г. павінны быць выкананы поўнасьцю, для чаго ўсю работу краязнаўчых організацый трэба рашуча перабудаваць на аснове шасьці ўмоў тав. Сталіна.

Задачы навукова-дасьледчае работы, пастаўленыя партыяй, павінны быць выкананы.

**Проф. Кайгародаў А. І.**

# Кліматычныя ўмовы зімы і ўплыў іх на ўраджай азімых

*(з дакладаў на конфэрэнцыі пры БАН па пытаньню „Ўплыў зімы на ўраджай“)*

Характарызуючы ўмовы, пры якіх азімыя культуры знаходзяцца ў першай палове свайго вэгетацыйнага пэрыоду, г. зн. ад сяўбы да аднаўленьня росту вясной, трэба разгледзець паасобна два пэрыоды: першы ад сяўбы і зьяўленьня руні да выпадзеньня сьнегавога акрыцьця, другі пэрыод—зімовы, на працягу якога расьліны знаходзяцца ў становішчы прымушанага супакою, прычым фізыолёгічныя функцыі іх у гэты час зьведзены да крайняга мінімуму. Разгляду гэтых дзьвюх стадый жыцьця азімых з пункту погляду пануючых на працягу іх гідромэтэоролёгічных умоў і будзе, галоўным чынам, прысьвечаны мой даклад.

Такім чынам, таварышы, першая стадыя ад сяўбы да захоўваньня пад сьнег, чым яна характарызуецца ў нашых умовах—у ўмовах БССР? Я буду разглядаць гэтыя ўмовы вельмі схематычна, з поўначы на поўдзень, пачынаючы з найбольш паўночных раёнаў Полаччыны і Віцебшчыны і канчаючы паўднёвымі—Мазыршчынай і Магілеўшчынай. Прыблізна канец жніўня трэба лічыць парогам перабудовы нашых кліматычных умоў на васеньні лад; але калі самыя раньнія замаразкі здараюцца ў нас у першых чыслах верасьня, дык усё-ж такі яшчэ ўся першая палова верасьня павінна лічыцца канцом, па сутнасьці, летняга пэрыоду. У гэты час мы маем яшчэ нязначную хмарнасьць, досыць высокі процант сонечнага зьзяньня, дастатковую колькасьць цёплых дзён. Калі мы лічым, што ў нас канец лета прыпадае на пачатак верасьня, дык сярэдняя сутачная тэмпэратура вышэй $10^0$ у паўночных раёнах заканчваецца нормальна 15—19 верасьня, цэнтральных—23—27 верасьня і ў паўднёвых—26—28 верасьня. Выходзіць, сярэдняя тэмпэратура вышэй $10^0$ трымаецца амаль да канца верасьня.

Кастрычнік дае рэзкі пералом у бок пераходу ад лета да восені і зімы. Моцна павялічваецца хмарнасьць і замаразкі зьяўляюцца ўжо нормальным зьявішчам. У першай дэкадзе кастрычніка, паміж 1 і 10 па ўсёй тэрыторыі нормальна надыходзяць васеньнія замаразкі. Прычым павінен зазначыць, што замаразкі ў нас ня зьвязаны абавязкова паўночнымі ці паўднёвымі раёнамі ў сэнсе часу надыходу, яны звычайна настаюць адначасна па ўсёй тэрыторыі. Гэта зразумела, бо рэзкія зьніжэньні тэмпэратуры зьвязаны з зьяўленьнем хваляў холаду, якія

пракатваюцца з поўначы на поўдзень на працягу аднаго-двух дзён. Такім чынам, тут паўднёвыя раёны асаблівай перавагі ня маюць.

Можна лічыць што сярэдняя тэмпэратура, пры якой біолёгічныя функцыі расьліны ўжо значна зьніжаюцца, калі ня зусім спыняюцца,—гэта прыкладна +5°. Выходзіць, сярэднюю сутачную тэмпэратуру +5° можна прызнаць тым этапам, пры якім належыць лічыць расьліны перайшоўшымі ўжо да пэрыоду зімовага супакою, ува ўсякім разе для пшаніцы гэта будзе ў поўнай меры верна, для жыта можа быць яшчэ—2-3° і можна ўзяць ніжэй, але ў сярэднім каля 5°. Сярэдняя сутачная тэмпэратура 5° у бок зьніжэньня наступае ў нас нормальна ў паўночных раёнах паміж 10 і 13 кастрычніка, у сярэдняй частцы—паміж 16 і 20 кастрычніка і ў паднёвай паміж 18 і 22 кастрычніка. Выходзіць, пачынаючы з 10-га і канчаючы 22, сярэдняя дэкада кастрычніка зьяўляецца тым пераходам, які павінен лічыцца этапам перабудовы расьлін на зімовы рэжым. У сярэдзіне кастрычніка, бліжэй да 20-га, абавязкова, на 100 проц., самыя спозьненыя замаразкі данага году ўсё-такі надыходзяць. Такім чынам, з 20-га кастрычніка можна лічыць, што пераход на зімовы рэжым канчаткова вызначыўся.

Але ёсьць яшчэ адна дата, якая формальна для нас вызначае пачатак зімы—гэта пераход сярэдняй сутачнай тэмпэратуры праз 0° у бок адмоўнай тэмпэратуры. Гэта дата настае ў нас, на поўначы, паміж 6—10 лістапада, у цэнтральнай частцы 8—12 лістапада, і ў паўднёвай частцы паміж 12—17 лістапада.

Такім чынам, формальна трэба лічыць, што наша зіма ў сярэднім устанаўліваецца паміж 6 і 17 лістапада па ўсёй рэспубліцы, але да гэтага, як мы бачылі, часова, на працягу амаль месяца, тэмпэратура трымаецца ў межах ад +5 да 0° і расьліннасьць ужо, па сутнасьці, замірае, яе біолёгічныя функцыі спыняюцца. Гэтыя моманты вызначаюць сабою ўмовы васеньняе сяўбы, якая павінна лічыцца з тым, што, прыкладна, да 20 кастрычніка разьвіцьцё расьліннасьці пачынае заміраць. Выходзіць—рунь, якая пачынае кусьціцца да гэтага часу, нормальна, паміж 10 і 20 кастрычніка будзе паслабляць сваё разьвіцьцё, якое канчаткова спыніцца пры нормальных умовах у сярэдзіне лістапада.

Сьнегавое акрыцьцё ўстанаўляецца некалькі раней, чым сутачная тэмпэратура пераходзіць праз 0°. Нормальна ў нашых умовах сьнегавое акрыцьцё ўстанаўляецца ў першых чыслах лістапада, калі ўзяць вельмі запозьненыя выпадкі, дык гэта зьява перасоўваецца роўна на месяц—на пачатак сьнежня; калі-ж узяць выключна раньняе зьявішча, дык у паасобныя гады сустракаецца сьнегавое акрыцьцё ў самым пачатку кастрычніка, але гэта, канечне, яшчэ няўстойлівае палажэньне. Будзем лічыць, што прыкладна з 10-га лістапада пры нормальных умовах зіма канчаткова і поўнасьцю ўступае ў свае правы. Гэткія тэмпэратурныя этапы перадзімовага пэрыоду. З іх мы бачым, што ў нашым распараджэньні маюцца прыблізна 15 ці 20 дзён добрага верасьнёўскага надвор'я і каля 40 дзён ужо спахмурнага надвор'я, са зьніжанай тэмпэратурай. Раўняючыся па гэтым тычкам, мы і павінны плянаваць нормальна сяўбу. Біолёгам і аграномам лепш відаць і яны, скажуць, колькі часу нормальна патрэбна насеньню жыта і пшаніцы для таго, каб скончыць увесь цыкль свайго васеньняга разьвіцьця; але мы, кліматолёгі, папярэджваем, што ў іх распараджэньні для гэтага маецца нормальна каля 50—60 дзён. Калі гэтага даволі, а гэта, пэўна, якраз і ёсьць тыя нормы, у межах якіх вагаецца оптымум васеньняга разьвіцьця расьліны, дык адкладаньне васеньняе сяўбы за пачатак

верасьня трэба лічыць немэтазгодным. Трэба думаць нават, што, пэўна, апошнія лічбы жніўня і першая дэкада верасьня—вось лепшы адрэзак часу, на працягу якога павінна адбывацца васеньняя сяўба, але скрозь і ўсюды яна зацягваецца бадай што да пачатку кастрычніка, што зусім недапусьціма.

Другім важнейшым момантам зімоўкі і веснавога разьвіцьця азімых зьяўляецца балянс вільгаці, з якім расьліна хаваецца пад сьнег. Трэба мець на ўвазе, што ў нашых умовах,—у ўмовах БССР і наогул паўсюды, у краінах мернага пасу, балянс вільгаці складаецца, галоўным чынам, з таго, што назапашваецца за восень і за зіму, бо вясной і летам мы ніякага прыбытку эфэктыўнай вільгаці ня маем. Трэба лічыць, што ападкі амаль цалкам выдаткоўваюцца вясной і летам на выпарваньне і на сток, а ўсё, што застаецца ў глебе, усё, з чым ажываючая вясной расьліннасьць уступае ў рашаючы этап свайго разьвіцьця, вядучы нас да ўраджаю,—усё гэта робіцца за кошт васеньніх і зімовых запасаў вільгаці. Што мы маем у нас у БССР? Калі мы падлічым ападкі, якія выпадаюць за кастрычнік і лістапад—тыя ападкі, якія яшчэ ў значнай частцы выпадаюць у вадкім выглядзе і, магчыма, на няўмерзлую глебу, дык мы атрымаем вельмі роўнамернае разьмеркаваньне гэтага прыбытку вільгаці па ўсёй рэспубліцы.

З поўначы на поўдзень колькасьць ападкаў у кастрычніку і лістападзе амаль аднолькава, а менавіта, у кастрычніку ад 40 да 50 мм, на поўдзень можа быць крыху больш, у лістападзе ад 30 да 40 мм. У агульнай суме можна лічыць, што нормальна каля 70 мм ападкаў за гэтыя 2 месяцы атрымлівае наша глеба ў лік будучага ўраджаю. Ня можна лічыць, што абсолютна ўсё гэта ў глебе захоўваецца таму, што ўсё-такі некаторае выпараваньне адбываецца, некаторы паверхоўны сток мае месца, але ўсё-ж такі ў васеньні час гэта зьведзена да мінімуму, дзякуючы зьніжэньню тэмпэратуры, моцнай хмарнасьці і нязначнай інтэнсыўнасьці выпадаючых дажджоў. Чым дажджы інтэнсыўней, чым бліжэй яны па свайму характару да ўлевы, тым большы процант паверхоўнага стоку бескарысны для глебы. А тут якраз складаюцца спрыяючыя ўмовы для захаваньня глебай выпаўшай вільгаці, якая яшчэ даволі прапушчальная і ўмовы стоку, як я сказаў, зьведзены да мінімуму.

Далей назапашваньне ўжо ідзе амаль выключна ў форме цьвёрдых ападкаў, а г. зн. у выглядзе сьнегавога акрыцьця. Гэты запас, плюс усё тое, што прасачылася восеньню ў глебу, і зьяўляецца тым запасам, з якім пачынаецца вясновае разьвіцьцё азімых і новае жыцьцё яравых расьлін, якія засяваюцца ўвосень.

Што нам дае наша сьнегавое акрыцьцё за месяц сьнежань, бо толькі ў сьнежні можна гаварыць аб устойлівым сьнегавым акрыцьці, у студзені, лютым і сакавіку, г. зн. 4 месяцы ўжо бязумоўна зімовых? Калі разглядзець даныя па сьнегавому акрыцьцю БССР, узятыя за многа гадоў, у выглядзе сярэдніх лічбаў, а ў нас гэтыя даныя маюцца ў даволі надзейным выглядзе, дык выявіцца надзвычайна правільны, у нормальныя зімы, рост сьнегавога акрыцьця. Графічна ён ідзе амаль як па лінейцы ўверх да сярэдзіны лютага і нават да канца лютага, пасьля чаго наступае пералом да зьніжэньня. Дазвольце зачытаць адзін рад па шматгодным даным Горацкай станцыі, які характарызуе ў нашых умовах зьмены сьнегавога акрыцьця па дэкадам кожнага месяца.

Лістапад, — вышыня ў см: 1-я дэкада—1 см, 2—2 см і 3—5 см, сьнежань 1—9 см, 2—12, 3—17 см, студзень 1—27, 2—29 і 3—32 см,

люты 1—37, 2—40 і 3—42. Затым у канцы лютага ідзе пералом, сакавік 1—41, 2—40, 3—36, красавік 1—20 і сярэдняя дэкада—5 см. Гэтыя даныя вельмі характэрны для ілюстрацыі нормальнага росту сьнегавога акрыцьця. І ў той-жа час рост гэты вельмі ўдала злучаецца са зьніжэньнем зімовых тэмпэратур і ахоўнаю роляю сьнегу, паралізуючы шкодныя вынікі, якія могуць мець месца пры моцных маразох. Вы ведаеце, што сьнег зьяўляецца вялізарнай важнасьці ахоўваючым фактарам, які ўплывае на тэмпэратуру глебы, — чым ён вышэй, чым больш ён пухкі, тым меншаю будзе цеплаправоднасьць, тым менш пранікае да паверхні зямлі моцнае зьніжэньне тэмпэратуры. Тут гэтае адзінства супроцьлегласьцяў выяўлена надзвычайна рэльефна і ўдала ў той час, калі мы ў лютым маем найбольш моцныя звароты халадоў, якраз у гэты час сьнегавое акрыцьцё выяўляе найбольшую абаронную дзейнасьць. Трэба сказаць, што па вызначэньню біолёгаў сьнегавое акрыцьцё ўжо ў 30 см вышынёй зьяўляецца дастатковым, каб ліквідаваць шкодныя вынікі моцных і ўстойлівых маразоў на расьліннасьць. БССР мае той мінімум сьнегу ў сваёй паўночнай і сярэдняй частцы, які ў нормальных умовах выключае ўсякага роду шкодныя зьявішчы на азімых расьлінах ад маразоў. Калі падыйсьці да гэтага чыста тэорытычна, як да тэндэнцыі клімату, дык мы павінны сказаць, што ў нас усё знаходзіцца ў парадку: але, на жаль, прырода на ёсьць няруховы комплекс устойлівых нормальных умоў. Гэта організм, які бязупынна рухаецца, мяняецца і вар'іруе ў сваіх праявах. І таму адны гады прыносяць неспадзеўкі, падобна да сучаснага, а другія—наадварот, падобна да мінулай зімы, калі сьнегавое акрыцьцё даходзіць да аднаго мэтра ў некаторых мясцох. Такія крайнасьці зарэгістраваны і ў кліматычных матар'ялах мінулых гадоў, а менавіта, указваецца ў нас, што максымум сьнегавога акрыцьця даходзіць да 80 см і мінімум даходзіць да 0; у паўднёвых раёнах бываюць гады, калі сьнег зусім не выпадае. Трэба ўсё-такі агаварыцца, што калі ў нормах ападкаў, якія выпадаюць на нашай тэрыторыі, не зьяўляюць якіх-нібудзь асабліва рэзкіх розьніц, дык у сьнегавым акрыцьці гэтыя розьніцы выяўляюцца вельмі яскрава. БССР — гэта апошні форпост на мяжы Заходняй Эўропы. Заходняя Эўропа ня ведае ўстойлівага сьнегавога акрыцьця. Там сьнег — эпізодычнае зьявішча, у нас сьнег — зьявішча характэрнае і канечна патрэбнае. БССР атабражае ў гэтым свой выразна пераходны характар. Калі ўзяць карту разьмеркаваньня вышыні сьнегавога акрыцьця, дык пабачым, што на паўночны ўсход, на Віцебшчыну насоўваецца паласа заляганьня сьнегавога акрыцьця ў 50 см—вышыня нормальная. Далей па лініі, якая ідзе праз Бабруйск, маем ужо 30 см і, нарэшце, на поўдзень мы маем усяго 20—15 см, як нормальную вышыню. Выходзіць, тут розьніца істотная і тое, што для поўдню ня дзіва, для шырыні 54 і паўночней зьяўляецца ненормальным. Але ўва ўсякім выпадку, калі раўняецца па ўмовах нормальных, дык за зіму мы маем у сярэдзіне лютага 30—40 см сьнегавога акрыцьця. Калі ўлічыць шчыльнасьць гэтага сьнегу ў сярэднім у канцы зімы, прыкладна каля 0,3 у параўнаньні з вадою, дык гэтыя 30 см даюць каля 100 мм у пераводзе на ападкі. Калі дадамо да гэтага тыя 70—60 см, якія атрымалі з восені, дык атрымаем у суме 150 мм. Гэта нібы той фонд, пры якім наша расьліннасьць уступае ў вясновы пэрыод, ці можа ўступіць, калі зіма забясьпечыць гэты фонд. Гэты фонд ня дрэнны, гэта — добрая норма. Калі мы здолеем захаваць для нашых пасеваў да вясны запас вільгаці, які прасачыўся з восені ў глебу і які дадае зіма ў выглядзе сьнега-

вога акрыцьця, мы, зможам сказаць, што наша расьліна, і азімая, і яравая, будзе разьвівацца забясьпечанай у здавальняючай колькасьці. Пры гэтым трэба асьцерагацца вельмі распаўсюджанай памылкі, якая заключаецца ў тым, што СССР прынята лічыць краінай, багатаю на вільгаць. Гэтае абыватэльскае ўражаньне стварылася дзякуючы таму, што ў нас ёсьць вялізарныя плошчы балот, але наяўнасьць балот не даводзіць таго, што даная тэрыторыя знаходзіцца ва ўмовах вялікай колькасьці вільгаці, бо балоты разьмеркаваны і па вадападзелах, дзе, здавалася-б, вада не павінна застайвацца і затрымлівацца. Гэты момант — ня столькі зьявішча кліматычнае, колькі зьявішча рэльефу і цэлага раду іншых умоў, глебавых пераважна, і не зьяўляецца вынікам абсолютнага збытку ападкаў. Дзеля таго пытаньне аб захаваньні вільгаці для нашых расьлін вясною мае для нас самую рашучую і актуальную вастрату, бо, пачынаючы з красавіка месяца, мы ня толькі ня маем прыбытку ад тых ападкаў, якія выпадаюць з красавіка па жнівень, але бязумоўную страту запасаў вільгаці з глебы.

Дазвольце затрымацца на гэтым важным моманце. Прывяду даныя ў балянсе вільгаці ў глебах паводле падлікаў станцый Эбэрсвальдэ ў Германіі, што можна перавесьці, без асаблівых агаворак, на нашы ўмовы. Маецца просты прыбытак — перавага ападкаў над выпарваньнем і стокам +29 мм у кастрычніку, +27 мм у лістападзе, +33—у сьнежні, +24—у студзені, +23—у лютым, +19 у сакавіку, красавік—14, май—16 і чэрвень—6. Вось зусім яскравы малюнак таго, што мы маем да вясны ў глебе, а менавіта, усё тое, што захоўваецца да вясны—усё гэта назапашана з восені і за зіму, з красавіка месяца пачынаецца стратак: выпараваньне і сток перавышае ападкі. Значыць, трэба раўняцца па васеньнім і зімовым запасам вільгаці. Затым, набывае асабліва важнае значэньне пытаньне аб тым, у якім выглядзе мы атрымліваем гэтыя васеньнія ападкі, як затрымаць і захаваць іх? Паглядзім, калі ў нас наступае зімовы пералом сярэдняй сутачнай тэмпэратуры — пераход праз 0⁰ і пабачым, што гэты пераход праз 0⁰ наступае паміж 6 і 17 лістапада, а першае сьнегавое акрыцьцё ўстанаўляецца ў пачатку лістапада, так што *сьнег нормальна кладзецца на няўмёрзлую глебу*. Таму можна лічыць, што ў першай стадыі сьнег, ня гледзячы на адлігі, усё-ж захоўваецца ў глебе і павялічвае наяўны запас вільгаці. Затым, як я паказваў, васеньнія нямоцныя дажджы падаюць пры малых умовах выпараваньня і стоку — усё гэта складае ў поўнай меры спрыяючыя ўмовы і да вясны ствараецца ў глебе належны запас вільгаці, і там у азімыя, якія знаходзяцца ў зямлі, умацаваўшыся там, выкарыстоўваюць гэтыя спрыяючыя ўмовы і забясьпечваюцца на ўвесь пэрыод свайго разьвіцьця. Назіраньні гавораць аб тым, што дажджы для азімых у чэрвені і ліпні, у пэрыод пасьпяваньня, не адыгрываюць вялікай ролі. Трэба сказаць, што мы да гэтага часу дарэмна трацім гэтыя запасы вільгаці, бо значна позьнімся з вясноваю сяўбою і расьцягваем яе на месяц і болей. Гэта зусім недапушчальна і аб гэтым трэба крычаць і бесьперастанку ажыцьцяўляць лёзунг — „сейце раней, сейце хутчэй", не зацягвайце сяўбы да чэрвеня месяца, як гэта нярэдка бывае ў нас. З гэтым лёзунгам давайце пойдзем сёньня з конфэрэнцыі і будзем пропагандаваць яго ўсякімі спосабамі. Трэба сеяць як-мага раней і як-мага хутчэй, гэта адносна яравых, а азімыя, паўтараю, к вясьне нормальна знаходзяцца ў даволі спрыяючых умовах у сэнсе запасу вільгаці.

Калі мы падвядзем кароткае падсумаваньне ўсяго сказанага, дык выявіцца, што пры нормальных кліматычных умовах у БССР усё

добра. Калі мы здолеем у час праводзіць сяўбу і калі сьнегавое акрыцьцё ўстановіцца такое, якое палагаецца нам ад прыроды, дык разьвіцьцё азімых расьлін будзе адбывацца ў нас у зусім нормальных умовах і, я-бы сказаў нават, у оптымальных, бо сьнегавое акрыцьцё па сваёй вышыні забясьпечыць расьліны дастатковаю колькасьцю вільгаці і ў той-жа час ня будзе пагражаць зімуючым расьлінам сваёй залішняй вышынёй. Але бываюць выпадкі, калі сьнегавое акрыцьцё дасягае вельмі вялікай магутнасьці і тады біолёгі кажуць, што адбываецца выправаньне расьліны—яна задыхаецца пад сьнегам. Праўда, я не бяруся даць канчатковае вырашэньне пытаньня, але будзем лічыць, што занадта магутнае сьнегавое акрыцьцё—зьявішча адмоўнае. Зьвернемся цяпер да супроцьлеглых умоў, якія мы маем цяпер, гэта значыць — пяройдзем да бягучай зімы.

Я вельмі ўважна праглядзеў усе матар'ялы, якія маюцца па гэтаму пытаньню, а матар'ялаў даволі. Трэба сказаць, што я быў некалькі зьдзіўлены пры падагульненьні іх: настолькі знадворнае ўражаньне не адпавядае об'ектыўным лічбам, што нічога асаблівага, ненормальнага да пачатку студзеня наша зіма ня мае, і калі ёсьць ненормальнае, дык на маю думку хутчэй у добры бок. Менавіта— гэтая ненормальнасьць выявілася толькі ў багатай колькасьці ападкаў, якія выпалі за месяцы кастрычнік і лістапад; з тэмпэратурай справа стаіць зусім нормальна. Сярэдняя тэмпэратура кастрычніка і лістапада месяцаў ад нормальнай зусім не адхілялася: у кастрычніку мы мелі ад 5—2°, так нормальна і палагаецца. А вось па ападкам мы мелі вялізарную перавагу. Я вам паказваў ужо норму за лістапад—гэта 30—40 мм, а на поўдні ў гэтым годзе мы мелі да 140 см. Добра гэта ці дрэнна будзе залежаць ад таго, як і ў якіх умовах выпалі гэтыя ападкі, але прырода вяла сябе добра, яна выліла ўсе запасы ў апошнюю пяцідзёнку на талую, гатовую да ўспрыняцьця вільгаці глебу. Увесь актыўны балянс вільгаці да вясны, такім чынам, быў забясьпечаны. Як толькі выліліся апошнія, надзвычайна моцныя дажджы, а гэта здарылася паміж 10—15 лістапада, або паміж 16 і 17, адразу-ж надышлі халады, глеба замерзла і захавала ў сябе ўсю гэтую вільгаць. Так што ўсё ў гэтых адносінах нібы-та было добра. Сьнегавое акрыцьцё, праўда, запазьнілася, але зноў такі ў межах, прадугледжаных кліматычнымі нормамі. Я зазначаў, што самы позьні тэрмін каля першага сьнежня, так у гэтым годзе і здарылася, з першых чыслаў сьнежня ўстанаўляецца сьнегавое акрыцьцё, якое разьвіваецца зусім нормальна на працягу ўсяго месяца. Паступальны рост, падлічаны па пяцідзёнкам, такі: 3 см, 10, 17 і 19 см. Але з студзеня пачынаецца пералом, і калі гаварыць аб ненормальных умовах гэтай зімы, дык трэба мець на ўвазе студзеньскія ўмовы. Пад уплывам рэзкага падвышэньня тэмпэратуры, якое адбылося з другой пяцідзёнкі студзеня, сьнегавое акрыцьцё пачало хутка раставаць і ўшчыльняцца. Шчыльнасьць яго ў пачатку 0,0, 0,2, пазьней пачала пераходзіць у 0,2, 0,3, 0,4 і нават, у асобных выпадках—0,5, словам 25 дзён студзеня былі не нормальна цёплымі і сьнегавое акрыцьцё пачало ліквідавацца шпаркім тэмпам. Гэта выклікала ўшчыльненьне сьнегу і ўтварэньнем лядзяной скарынкі і разам з тым моцны разьліў вады, бо глеба засталася ўмерзлай. Значыць, нашы азімыя, калі адчуваюць на сябе адмоўныя ўплывы, дык за апошнія 25 дзён студзеня, плюс першая пяцідзёнка лютага, інакш кажучы на працягу месяца. Ці можа лічыць, што гэта гаворыць аб небясьпецы ўжо ў даны момант? Няхай на гэта пытаньне адкажуць у больш катэгорычнай форме біолёгі, мне ўсё-такі здаецца,

што лядзяная скарынка сама-па-сабе гэта ня ёсьць нешта зусім новае для азімых у ўмовах нашых зім.

Зіма ня можа прайсьці без лядзянай скарынкі з тае прычыны, што сьнегавое акрыцьцё зьнізу ўшчыльняецца, бо ніводнай зімы ў нас ня бывае без адлігаў, яны ў нас—зьява звычайная. Затым, мне здаецца, што гэта яшчэ не вырашае справы.

Дазвольце зрабіць падсумаваньне прапробленага аналізу: сучасная зіма значна адрозьніваецца ад нормальнай, але толькі пачынаючы з студзеня, г. зн. на працягу апошняга месяца. Гэтая ненормальнасьць заключаецца ў павышанай тэмпэратуры, якая выклікала раставаньне сьнегавога акрыцьця, утварэньне мясцамі лядзянае скарынкі і разьліў вады, якая застаялася на ўмерзлай глебе. Ува ўсім іншым да студзеня месяца зіма праходзіла ў межах нормальных умоў і з некаторым спазьненьнем сьнегавога акрыцьця. У вельмі добрых умовах праходзіла таксама восень, бо яна дала вялізарную колькасьць ападкаў, што трэба лічыць фактарам у нашых умовах; бязумоўна, станоўчым.

Такім чынам, увага пры выпрацоўцы розных мер барацьбы павінна сконцэнтравацца менавіта на апошнім моманце. Змагацца трэба з застоем вады, які выклікае вымаканьне і з лядзянай скарынкай, калі ў далейшым ёсьць падстава прадбачыць пасіленьне адмоўных фактараў. Што мы маем у далейшым? Дазвольце агаласіць доўгатэрміновы прогноз, які атрыманы Гідрамэтэаролёгічным інстытутам з Масквы. Прогноз гаворыць, што паводле першапачатковых даных сэктару доўгатэрміновых прараканьняў Цэнтральнага бюро надвор'я ў Маскве, па БССР чакаецца мяцеліца каля 7-га лютага, а таксама і 20-га лютага, асабліва ў пэрыод ад 25 да 1-га сакавіка; гэты пэрыод (?) будзе вызначацца веснавым цяплом у раёнах, якія знаходзяцца на захад, і холадам у раёнах, якія ляжаць на ўсход ад Дняпра. Зварот халадоў чакаецца ў пэрыодзе з 17 па 20 сакавіка, гэта значыць, што ўсё такі няўстойлівае надвор'е, пераважна цёплае, будзе цягнуцца ў лютым і сакавіку. Такім чынам, судзячы па гэтым даным, можна лічыць, што сьнегавое акрыцьцё пухкім і ўстойлівым у нас амаль ужо ня будзе. Значыць пытаньне аб лядзянай скарынцы і разьлівах вады будзе стаяць у парадку дня. Проф. Афанасьеў у сваім дакладзе затрымаецца на тым, якую ролю адыгрываюць глебавыя ўмовы, умовы рэльефу, у гэтых застоях вады і адзначыць тыя памылкі, якія робяць у нас пры выбары засеўных плошчаў. Я на гэтым затрымлівацца ня буду. Ясна, што барацьба з лядзянай скарынкай і застайваньнем вады вясной абавязкова. Але з утварэньнем лядзянай скарынкі нічога ня зробіш, можна толькі прабаваць яе зьнішчыць. Як гэта робіцца і ці эфэктыўны гэты спосаб—на гэта, магчыма, адкажуць агратэхнікі і агрономы.

Падкрэслю ўсё-ж такі ў заключэньне, што кліматычныя ўмовы БССР спрыяючыя для зімоўкі азімых і ніякіх асабліва адмоўных момантаў я ня бачу, за выключэньнем часамі надзвычайна высокага сьнегавога акрыцьця, што, аднак, здараецца рэдка, і не даведзена, каб менавіта гэтая зьява мела адмоўнае значэньне. Ува ўсім іншым правядзеньне агротэхнічных мерапрыемстваў і выбар гатункаў павінны канчаткова ліквідаваць сумную зьяву гібелі азімых. Да такіх мерапрыемстваў належыць вапнаваньне глебы, якое ў вялікай ступені падвышае яе прапускную здольнасьць. Такім чынам, адно толькі паляпшэньне структуры глебы ўжо на 75 проц. вырашае ў дадатны бок пытаньне аб застайваньні вады і збытку павярховай вільгаці, што залежыць у значнай ступені ад недастатковай агротэхнічнай апрацоўкі нашых палёў.

Шчуцкі

# Аб перабудове работы Віцебскага музэю

Пагляд на музэй як установу, якая зьбірае і захоўвае розныя „каштоўнасьці“, яшчэ глыбака ўкаранёны ў многіх нават музэйных працаўнікоў. Гэты пагляд, а адсюль і адпаведная практыка работы музэяў прыводзіць да таго, што музэі і да гэтага часу зьяўляюцца адарванымі ад соцбудаўніцтва, ад рабочых і колгасных мас установамі. Яшчэ і да апошняга часу ня толькі мясцовыя, але нават і цэнтральныя музэі зьяўляліся ўстановамі, „зьбіраючымі і захоўваючымі старыну і мастацтва“. Самыя актуальныя проблемы соцбудаўніцтва ў музэі зусім не адбываліся, часам „вучоныя мужы“ ператваралі іх у рассаднікі варожых нам ідэй, выкарыстоўвалі іх супроць інтарэсаў працоўных мас (Менскі Дзярж. музэй, Віцебскі інш.).

Такім прыблізна быў да канца 1930 г. і Беларускі дзяржаўны культурна-гістарычны музэй у г. Віцебску. Заснаваны ў 1924 г. з рэштак розных прыватных музэяў на Віцебшчыне, ён за 6 год свайго існаваньня ня толькі ня здолеў перабудавацца адпаведна з жыцьцём, з соцбудаўніцтвам, з ажыцьцяўленьнем задач культурнае рэволюцыі, але, дзякуючы контррэволюцыйнаму нацыянал-дэмократычнаму кіраўніцтву, музэй зьяўляўся базай контррэволюцыйных беларускіх нацдэмаў у іх барацьбе супроць соцбудаўніцтва за рэстаўрацыю капіталізму на Беларусі. Вось чаму ні гісторыя клясавае барацьбы пролетарыяту, ні індустрыялізацыя краіны, ні соцыялістычная рэконструкцыя сельскай гаспадаркі не знайшлі адбітку ў сьценах музэю. Паказаць, што было раней, а што ёсьць цяпер, ва ўмовах дыктатуры пролетарыяту — гэта не ўваходзіла ў абавязкі музэю, фактычна музэй імкнуўся паказаць, што пры дыктатуры пролетарыяту няма культуры, працоўныя не разумеюць яе. Так прыблізна ў 1930 г. былы дырэктар Васілевіч заявіў на паседжаньні Прэзыдыуму Віцгарсавету: „рабочы не разумее музэйнай справы, тым больш не разумее мастацтва“.

Зьяўляючыся гістарычным, музэй зусім не даваў гледачу ўяўленьня аб гісторыі разьвіцьця грамады. Дынаміка грамады, дыялектыка яе разьвіцьця, зьмены грамадзкіх формацый ня былі адбіты зусім.

Найбольш поўна была прадстаўлена культура і быт эпохі прыгоньніцтва ў спэцыяльна ўтвораным аддзеле „быту прывілейных станаў“(!). У гэтым аддзеле былі сабраны амаль выключна прадметы раскошы, якімі карысталіся прыгоньнікі: (маёліка, шкло, вышыўкі, бісэр, разьба і г. д.). Прыгоннае сялянства, рабочыя і рамесьнікі, якія гэтыя рэчы выраблялі, былі няўмысьля працаўнікамі музэю выдалены, каб паказаць выключна багацьце „добрай панскай культуры“. Нацыя-

нал-дэмакраты ў музэі ўпарта арыентавалі наведвальнікаў на „старую вёску“, на прышчэпаўшчыну, на кулацкую гаспадарку. Спэцыяльна ўтвораны аддзел „старой вёскі“, з яго сахой, кроснамі і інш. прыладамі старое вёскі быў прадстаўлены так, каб паказаць усю прыгожасьць аднаасобнай гаспадаркі. Вёска прадстаўлялася адзінай, бяз клясавай яе дыфэрэнцыяцыі. Наяўнасьць спэцыяльнага аддзелу „царкоўнай старыны“ пры ўмовах адсутнасьці антырэлігійнага аддзелу, наяўнасьць элемэнтаў рэлігіі амаль без выключэньня ва ўсіх аддзелах, вывучэньне пытаньня аб машчох, саборах і сьвятых — усё фактычна служыла на карысьць рэлігійнасьці.

Ува ўсёй экспозыцыі ўсё савецкае, пролетарскае, усё рэволюцыянізуючае масы музэй імкнуўся зусім не выяўляць.

Пад націскам пролетарскае грамадзкасьці яшчэ з 1928-29 гг. ужо пачалася адпаведная барацьба супроць консэрватызму і нацдэмаўшчыны ў музэі. Але былое нацдэмаўскае кіраўніцтва Беларускай Акадэміі Навук і Народнага Камісарыяту Асьветы гэтую барацьбу затушоўвала і толькі ў канцы 1930 і пачатку 1931 г., калі нацдэмаўшчына была выкрыта, абноўлена кіраўніцтва НКА і БАН, удалося выкрыць контррэволюцыйную групу беларускага нацыянал-дэмократызму ў Віцебскім музэі.

Віцебскі Музэй за апошні год сваёй работы ліхаманкава змагаўся за перабудаваньне экспозыцыі і ўсёй работы ў адпаведнасьці з задачамі соцыялістынага будаўніцтва.

Утварэньне перыодычных выставак: па гісторыі рэволюцыі 1905 г. у сувязі з 25-цігодзьдзем, па гісторыі Кастрычнікаўскай рэволюцыі, па гісторыі грамадзянскай вайны, да гадавіны вызваленьня Беларусі ад белапалякаў, нарэшце вялікай выстаўкі па гаспадарчаму і нацыянальна-культурнаму будаўніцтву ў г. Віцебску за 3 гады пяцігодкі, утварэньне сталага антырэлігійнага аддзелу, у якім дасканала выкрываюцца соцыяльныя карэньні рэлігіі і яе клясавая сутнасьць, як ідэолёгіі пануючых эксплёататарскіх клясаў, утварэньне аддзелу соц. будаўніцтва, у якім прадстаўлены ўсе галоўныя прадпрыемствы Віцебску, утварэньне разьдзелу соцрэконструкцыі сельскай гаспадаркі, падрыхтоўка матар‘ялаў да адчыненьня вялікага аддзелу па гісторыі рэволюцыйнага руху, з адбіткам рэвруху на Беларусі і на Віцебшчыне, — вось той шлях, па якому пайшла соцыялістычная рэконструкцыя работы Віцебскага музэю, гэта шлях падвядзеньня соцыяльнае базы пад усю экспозыцыю на аснове марксысцка-ленінскае мэтодолёгіі. Вялікая ўвага аддаецца пытаньням выкарчоўваньня рэштак нацдэмаўшчыны, аполітычнасьці, ператварэньня музэю ў установу асабліва політычную, клясавую, пролетарскую.

За гэты год перабудова работы музэю пайшла ў кірунку перанясеньня масавае політычна-культурнае работы з сьцен музэю непасрэдна ў цэх і лягер (выстаўкі, шырокая популярызацыя работы музэю на рабочых і колгасных сходах (34 даклады), шырокая популярызацыя работы ў мясцовым і цэнтральным друку, праз трансьляцыйны радыё-вузел), у кірунку практычнай дапамогі ў ажыцьцяўленьні конкрэтных гаспадарча-політычных мерапрыемстваў партыі і ўлады, колектывізацыі, організацыйна - гаспадарчага ўмацаваньня колгасаў і г. д. Гэта наблізіла музэй да рабоча-колгасных мас. Масы пачалі разумець музэй, які становіцца блізкім да іх, масы пайшлі ў музэй, музэй пачынае задавальняць іх патрабаваньні. Калі ў 1925 г. музэй наведала 12.818 асоб, у 1930 23.011, дык у 1931 г. яго наведала 48.998 асоб. Галоўным наведвальнікам музэю зьяўляюцца рабочы,

чырвонаармеец. Калі сярэдняе наведваньне музэю ў 1930 г. было ад 10 да 40 асоб, дык у 1931 г. ад 75 да 250 чал. Калі раней глядач прыходзіў у музэй, каб пабачыць „диковики“, дык зараз рабочы, чырвонаармец, вучань політэхнічнай школы ідзе ў музэй з мэтай распрацоўкі патрэбнай тэмы, патрэбнага кругу пытаньняў, якія яго хвалююць, якія зьвязаны з барацьбой за прамфінплян, за новы быт, за пабудову соцыялістычнай грамады. Уключыўся музэй у гэтым годзе ў адзіны плян навукова-дасьледчае работы Акадэміі Навук СССР. Музэй намячае і ўжо часткова распачаў работу па арганізацыі работы па вывучэньню вытворчых сіл раёну ў сувязі з складаньнем пляну народнагаспадарчага разьвіцьця на 1932 г. і пляну другой пяцігодкі па распрацоўцы пытаньняў дынамікі соцыялістычнае прамысловасьці ў горадзе, па арганізацыі работы ў колгасах, проблемы зьдзельшчыны і разьмеркаваньня ўраджаю ў колгасах, соцспаборніцтва і ўдарніцтва ў сэктары на вёсцы.

Задача перабудовы работы па-новаму — задача надзвычайна складаная, цяжкая і адказная тым больш, што практыкі ў гэтым кірунку вельмі мала. Віцебскі музэй ставіць сабе мэтай ператварыцца з унівэрсальнага музэю ў культурна-гістарычны з пэўнай мэтавай устаноўкай. Зьяўляючыся унівэрсальным, музэй ня можа сконцэнтраваць увагу на пэўных проблемах гісторыі і сучаснага жыцьця, а распыляе ўвагу іх на дробязях. Устаноўкі амаль усіх музэяў БССР, унівэрсалізм іх (як і Віцебскага) уносіць вялікі паралелізм як у работу асобных музэяў, так і ўсёй музэйнай сеткі Беларусі. Прыблізна ўсе музэі БССР займаліся аднымі і тымі-ж пытаньнямі. Унівэрсальны музэй ня можа даць таго эфэкту ў рабоце, які мог-бы атрымацца пры разьмежаваньні функцый між музэямі, бо распыляецца матар'ял, сродкі, час і сілы.

Выходзячы з гэтага, самае жыцьцё патрабуе:

а) самага рашучага разьмежаваньня функцый паміж дзяржаўнымі музэямі Беларусі;

б) разьмежаваньня функцый паміж музэямі на мясцох у сувязі з гаспадарчымі асаблівасьцямі раёну;

в) сталага вызначэньня мэтавай устаноўкі для кожнага музэю;

г) пабудовы музэяў па комплекснай сыстэме;

д) перагляду фондаў ва ўсіх музэях з мэтаю папаўненьня за іх кошт другіх музэяў.

Наркамасьветы павінен перамяніць свае адносіны да музэйнага будаўніцтва, якое ён да гэтага часу лічыў не сваёй справай. Ён не павінен дапусьціць самацёку, які наглядаецца ў музэйнай рабоце і на сёнешні дзень, калі музэі фактычна працуюць „без руля и без ветрил“. НКА павінен падтрымаць ініцыятыву і забясьпечыць сваім кіраўніцтвам распачатую работу на мясцох па перабудове музэяў.

Віцебскі музэй на нашу думку павінен быць музэем гісторыі грамадзкіх формаў. Ён павінен у сваёй экспозыцыі паказаць дынаміку разьвіцця грамады, паказаць разьвіцьцё вытворчых сіл яе, паказаць як на базе гэтага зьмяняюцца вытворчыя адносіны і дзяржаўна-палітычны лад і інш. Ён павінен паказаць як адбываецца процэс зьмены грамадзкіх формацый, што рухаючай сілай клясавай грамады зьяўляецца клясавая барацьба. Ён павінен наглядна паказаць на падставе папярэдняе гісторыі грамадзтва нямінучасьць пагібелі капіталізму, у выніку пролетарскай рэволюцыі і будаўніцтва соцыялізму. Віцебскі музэй ужо становіцца на шлях перабудовы ў адпаведнасьці з гэтай задачай. У 1932 годзе павінна ў асноўным быць скончана работа па гэтай перабудове. Музэй пакуль што мае на ўвазе запас экспонатаў

разьбіць па грамадзкім формацыям, аддзелы маецца на ўвазе зусім ліквідаваць. Кожная грамадзкая форма фактычна будзе дастаткова прадстаўлена, каб глядач мог вынесьці аб ёй пэўнае ўражаньне. Кожная грамадзкая форма будзе прадстаўлена ў яе дынаміцы і ў сувязі з папярэднімі формацыямі. Гэта дасьць магчымасьць выкарыстаць ня толькі экспанаванае ў музэі зараз, але і тое, што ляжыць на складах, чаго нельга было раней скарыстаць. Комплексны падыход да экспанаваньня матар'ялаў зусім не выключае, а наадварот абавязкова вымагае тэматычнага разьмяшчэньня экспанатаў.

Гісторыя грамадзкіх формаў таму павінна быць прадстаўлена ў экспозыцыі як гісторыя клясавае барацьбы. Экспанаваньне матар'ялаў у музэі павінна быць іншым, чым было да гэтага часу. Не паказаць эпоху наогул, а паказаць эпоху з падзелам яе на клясы, паказаць экономічныя інтарэсы розных клясаў, клясавую барацьбу, — вось шлях, на які стаў Віцебскі музэй у перабудове зьместу свае работы.

Музэю рэволюцыі ў Віцебску няма. 6.000 членаў партыі, 13.000 комсамольцаў у Віцебскім раёне, новыя рабочыя, нядаўна ўліўшыяся ў прамысловасьць, патрабуюць рэволюцыйнага выхаваньня. У музэі трэба адбіць барацьбу за генэральную лінію партыі. Вельмі вялікую ролю ў выхаваньні мас мае гісторыя бальшавіцкае партыі. Музэй павінен паказаць яе, ён павінен быць музэем гісторыі пролетарскай рэволюцыі, павінен усебакова адбіць рэволюцыйную барацьбу рабочае клясы, пэрыод пролетарскай рэволюцыі і грамадзянскай вайны. У музэі павінна будзе знайсьці яскравы адбітак і соцыялістычнае будаўніцтва.

Зараз само жыцьцё выклікае неабходнасьць організацыі ў Віцебску двух новых музэяў. Лёзунг партыі аб аўладаньні тэхнікай, аб політэхнізацыі школы рашуча ставіць перад намі пытаньне аб укараненьні тэхнікі ў масы. Таму вельмі неабходна організаваць у Віцебску дом тэхнікі. Ён будзе зьяўляцца адным з сродкаў укараненьня тэхнікі ў гушчы мас. Нарэшце без асабліва вялікіх выдаткаў прадстаўляецца магчымасьць адчыніць зусім самастойны антырэлігійны музэй, скарыстаўшы для гэтага экспонаты антырэлігійнага аддзелу і рэчы зачыненых цэркваў, зьмясьціўшы яго ў адной з зачыненых цэркваў. Інтарэс мас да барацьбы з рэлігіяй расьце. Самастойны музэй, дзе будзе прадстаўлена ўсебакова клясавая сутнасьць рэлігіі, яе эксплёататарская роля, шкодніцкая роля ў соцбудаўніцтве, навукова будзе даведзена нікчэмнасьць рэлігійных баек — будзе зьяўляцца вялікім агітацыйным і выхаваўчым сродкам у стварэньні марксысцка-ленінскага сьветапогляду працоўных мас.

Плян перабудовы Віцебскага музэю складзены з такім разьлікам, каб да канца 1932 г., прытрымліваючыся гістарычнай пасьлядоўнасьці ад сучаснасьці да мінулага, — скончыць перабудову экспонатаў да эпохі фэўдалізму.

Гэта патрабуе ад пролетарскай грамадзкасьці належнай увагі, дапамогі. Рабоча-колгасныя масы павінны дапамагчы нам працаваць па-новаму, павінны папераджаць магчымыя памылкі. Гэта будзе магчыма толькі тады, калі музэй будзе блізкім да заводу, колгасу, да Чырвонай арміі.

**Ад рэдакцыі:** Прыдаючы вельмі важнае значэньне рабоце музэяў, як магутных фактараў соцбудаўніцтва, рэдакцыя просіць работнікаў музэяў выказацца на старонках часопісу „Савецкая Краіна“ па закранутым т. Шчуцкім у гэтым артыкуле пытаньням. Асабліва па пытаньням спэцыялізацыі музэяў і ліквідацыі аддзелаў музэяў.

Т. Кулакоў, М. Патапаў і П. Васіленка[1])

# На заводзе „Комунар“

### Кароткія агульныя весткі

Чыгунна-ліцейны, машына-будаўнічы завод „Комунар“ зьяўляецца адным з буйнейшых мэталяапрацоўчых прадпрыемстваў БССР. Завод уваходзіць у склад Беларускага мэталяаб'яднаньня. Пабудаваны завод у 1928 годзе на базе былых сельска-гаспадарчых майстэрняў і невялічкіх заводаў: „Усход“, „Мэтал“. Пасьля організацыі заводу на ім працавала 540 чалавек рабочых і 37 адміністрацыйна-тэхнічнага пэрсоналу. Завод тады вырабляў пераважна сельска-гаспадарчыя машыны і прылады: веялкі, сячкарні, плугі, акучнікі і інш., а таксама асобныя часткі да іх і рабіў рамонт старых машын і прылад. У 1929 годзе на аснове ажыцьцяўленьня пяцігадовага пляну соцыялістычнага будаўніцтва завод пашыраны і занава пераабсталяваны. Лік рабочых на заводзе павялічыўся на 160 чалавек, замест 540 чалавек у 1929 годзе на заводзе ўжо працавала 700 чал. рабочых і 70 адміністрацыйна-тэхнічнага пэрсоналу. Ад вырабу сельска-гаспадарчых машын і прылад завод перайшоў да вырабу сьвідравальных варштатаў, варштатаў Сьміранова, камнедрабілак, соледрабілак, кувырак, скатаў, цялежак і інш. прылад для абсталяваньня буйных індустрыяльных прадпрыемстваў СССР. Завод вырабляе ціскі 8, 16, 24 і 32 кілёграмныя для мэталяапрацоўчых прадпрыемстваў; помпы розныя для абсталяваньня крухмальных заводаў, розныя бляшаныя рэчы для гаспадарчага ўжытку, а таксама робіць розныя рамонтныя работы па заданьням Белмэталяаб'яднаньня і паасобных організацый.

У сучасны момант завод мае наступныя цэхі: ліцейна-модэльны, які падрыхтоўвае і адлівае модэлі для мэханічнага цэху, такарна-сьлясарны і зборачны цэх для канчатковай апраўкі і зборкі прылад; бляшаны цэх, дзе вырабляюцца розныя бляшаныя рэчы, кавальскі цэх для вырабу ціскоў і іншых кавальскіх прылад і мэханічны цэх для абслугоўваньня ўсіх процэсаў вытворчасьці на заводзе.

Сыравінаю, як чыгуном, жалезам і стальлю завод забясьпечваецца з уральскіх капальняў, вугаль атрымлівае з Донбасу, а драўляныя матар'ялы з Беларусі. Патрэбную энэргію для прывядзеньня ў рух варштатаў і машын завод атрымлівае з Менскай цэнтральнай электрычнай станцыі.

Карэнная рэконструкцыя заводу і яго пашырэньне вымагала пабудовы цэлага раду асноўных і дапаможных памяшканьняў, бо

[1]) Брыгада краязнаўчай ячэйкі заводу „Комунар“.

атрыманыя будынкі ад былых заводаў і сельска-гаспадарчых майстэрняў далёка не забясьпечвалі запатрабаваньняў заводу. У гэтых адносінах завод па працягу 3-х папярэдніх гадоў пяцігодкі, пад кіраўніцтвам партколектыву і пры дапамозе адпаведных організацый і ўстаноў дабіўся значных посьпехаў. У 1930 годзе пабудавана новая кузьня, новыя памяшканьні для складаў, абрубачны цэх, перабудавана старое памяшканьне для зборачнага і ліцейнага цэху, абсталявана канюшня на 20 коняй і сьвінарнік. Распачатае ў 1929 г. будаўніцтва сталоўкі скончана да 14 гадавіны Кастрычнікаўскай рэволюцыі, заканчваецца будаўніцтва мэханічнага цэху. Такім чынам, завод у сучасны момант у асноўным забясьпечаны патрэбнымі будынкамі, што ў сваю чаргу забясьпечвае нормальную работу на заводзе.

У 1931 годзе завод пераведзены на 7-гадзінны рабочы дзень. Работа ў такарным цэху адбываецца ў тры зьмены, у ліцейным і кавальскім цэхах—у дзьве зьмены, а ва ўсіх астатніх цэхах—у адну зьмену. Пры трохзьменнай рабоце рабочы дзень разьмяркоўваецца так: першая зьмена пачынае работу а 8 гадзіне раніцы і канчае а 4 гадзіне, другая зьмена з 4 да 12 гадзіны і трэцяя зьмена з 12 да 8 гадзіны раніцы, прычым паміж кожнаю зьменаю адводзіцца адна гадзіна на абедзены перапынак і ў гэты час праводзіцца ўборка, праветрываньне памяшканьня, змазка і чыстка машын і інструмантаў. Пры дзьвюхзьменнай рабоце пачатак рабочага дня для першай зьмены з 8 гадзіны да 4 і другой зьмены з чацьвертай да 12. Работа пры аднэй зьмене пачынаецца а 8 гадзіне і канчаецца а 4 гадзіне. У сьнежні месяцы мінулага году завод перайшоў на 6-дзёнку і агульнымі выходнымі днямі для ўсяго заводу зьяўляюцца 6, 12, 18, 24 і 30 числы кожнага месяца.

## Рабочая сіла

Рух рабочых на заводзе ад пачатку яго організацыі і да сучаснага моманту характарызуецца наступнымі лічбовымі данымі:

| Г А Д Ы | 1928 г. | 1929 г. | 1930 г. | 1931 г. | На 1/I 1932 г. |
|---|---|---|---|---|---|
| Рабочых . . . . . | 540 | 700 | 760 | 790 | 854 |
| Адм.-тэх. пэрсоналу . . | 37 | 70 | 100 | 110 | 150 |
| Усяго . . . . | 577 | 770 | 860 | 900 | 974 |

Як відаць, лік рабочых прогрэсыўна павялічваецца, за 4 гады ён павялічыўся на 397 чалавек.

Па вытворчым стажы рабочыя падзяляюцца наступным чынам: ад 1 да 3 год—265, ад 3 да 5—348, ад 5 да 10—128, ад 10 да 15—71 і ад 15 і вышэй 42. Прыведзеныя лічбы гавораць за тое, што зараз на заводзе пераважная большасьць маладых рабочых, якія нядаўна прышлі на прадпрыемства. Папаўненьне рабочай сілы ішло праз профшколу, цэнтральны інстытут працы і за кошт колгасьнікаў і бядняцка-серадняцкіх мас вёскі. Па кваліфікацыі рабочыя падзяляюцца: кваліфікаваных—634 чал. і некваліфікаваных—190 чал., апошняе стаіць ва ўсю шырыню пытаньне перад усімі заводзкімі органі-

зацыямі аб разгортваньні штодзеннай сыстэматычнай работы ў галіне падвышэньня кваліфікацыі рабочых.

З агульнага ліку рабочых на заводзе маем мужчын—782 чал. і жанчын 42 чал. або 5,3 проц.; апошняе гаворыць за недастатковае ўцягненьне жанчын у вытворчасьць. Па нацыянальнасьці рабочыя падзяляюцца: беларусаў—380 чал., яўрэяў—417, расійцаў—102, палякаў—70, і інш. 5, членаў і кандыдатаў КП(б)Б—212 чал., комсамольцаў—340 чал. і беспартыйных 272 чал. Прыведзеныя лічбы гавораць за тое, што завод мае досыць значнае партыйнае ядро, якое здольна змагацца за бальшавіцкія тэмпы работы заводу і кіраваць усёй масай рабочых заводу.

Па адукацыі рабочыя падзяляюцца: няпісьменных—6, малапісьменных—41, скончыўшых лікпункты — 25, скончыўшых школу першай ступені—697, скончыўшых сямігодку—17 і профшколу—35.

## Комунараўцы ў барацьбе за прамфінплян

Шырока разгорнутае соцыялістычнае будаўніцтва, якое пасьпяхова вядзе рабочая кляса і колгаснае сялянства Савецкага саюзу пад вырабаваным кіраўніцтвам ленінскай комуністычнай партыі, дасягнула нябачаных у гісторыі размахаў. Ажыцьцяўляючы лёзунг партыі і рабочае клясы „Пяцігодка ў чатыры гады“, комунараўцы, пад кіраўніцтвам партыйнага колектыву заводу, таксама дасягнулі значных посьпехаў у сваёй рабоце. Завод „Комунар“ у выніках упартай і адданай работы на фронце індустыялізацыі краіны за першыя тры гады пяцігодкі мае наступныя вынікі:

| Гады | Плян выпуску продукцыі ў рублёх | Фактычнае выкананьне пляну ў рублёх | % % | Продукцыя на 1 рабочага ў рублёх |
|---|---|---|---|---|
| 1929 . . . . . | 3.048.000 | 3.142 000 | 103 | 4.080 |
| 1930 [1]) . . . . . | 3.728.000 | 3.956.000 | 106 | 4.600 |
| Асобы квартал 1930 году . | 1.294.000 | 1.366.200 | 104 | 1.588 |
| 1931 . . . . . | 1.890.000 | 4.260.000 | 72,3 | 4.383 |

З прыведзенай табліцы відаць, што асаблівыя поспехі ў выкананьні прамфінпляну завод меў у першыя 2 гады пяцігодкі, дзе мы бачым перавыкананьне пляну на 3—5 проц. і значны рост продукцыі на аднаго рабочага. У 3-м рашаючым годзе пяцігодкі, як бачым, завод мае значны прарыў у выкананьні прамфінпляну—завод недавыканаў свайго пляну на 27,7 проц., што часткова тлумачыцца перабоямі ў дастаўцы сыравіны, а галоўная прычына тая, што не мобілізавана ўвага ўсёй рабочай масы на скарыстаньне ўнутраных рэсурсаў.

Гэты прарыў дастакова ўлічаны партколектывам заводу і ўсімі заводзкімі організацыямі пры распрацоўцы плянавых заданьняў на 1932 год. На распрацоўку пляну і яго абмеркаваньне, пад кіраўніцтвам партколектыву, мобілізавана ўся заводзкая грамадзкасьць. Для ліквідацыі прарываў мінулага году з боку рабочых-ударнікаў высунуты сустрэчныя пляны да пляну 1932 году, якія па асобным цэхам

1 За 3 кварталы.

даходзяць ад 110 да 120 і 125 проц. Рабочая маса комунараўцаў з патроенай энэргіяй сустрэла чацьверты заключны год пяцігодкі і будзе змагацца за выкананьне і перавыкананьне прамфінпляну 1932 гаду, які вызначаны для заводу ў суме 4.703.000 руб. продукцыі. Комунараўцы паставілі перад сабою задачу конкрэтнай ліквідацыі ўсіх прарываў на грунце бальшавіцкай рэалізацыі шасьці гістарычных умоў т. Сталіна.

## Соцспаборніцтва і ўдарніцтва

Лепшыя соцыялістычныя мэтоды работы—соцспаборніцтва і ўдарніцтва сярод комунараўцаў занялі належнае месца. З 974 рабочых на заводзе—ударнікаў 783 або 80,4 проц. Праверка якасьці і эфэктыўнасьці работы ўдарнікаў выявіла ядро ў 225 чалавек лепшых ударнікаў, атрымаўшых прэміі. Самазаконтрактаваных на заводзе маецца 618 чал. або 63 проц. з агульнага ліку рабочых. Восем брыгад пераведзены на гаспадарчы разрахунак — вышэйшую форму соцспаборніцтва і ўдарніцтва. Разгорнута работа па зборы рабочых прапаноў, якіх у 1931 годзе паступіла 722 і з іх прынята і праведзена ў жыцьцё 212, што дало экономіі заводу на 14.000 р. На заводзе работае 14 ударных брыгад, большасьць якіх штомесячна перавыконвае свае плянавыя заданьні, зьніжае процант браку, як ударныя брыгады ліцейнага, кавальскага і інш. цэхаў. У выніку ўдарнай работы брыгады Кандратовіча і Крыштаносава ў мэханічным цэху дабіліся памяншэньня браку з 13 да 7 проц., што дало экономіі для заводу 655 р. Такое становішча назіраецца і ў брыгадзе заліўшчыкаў, якая дабілася экономіі за кошт зьніжэньня браку на 458 р. Прыведзенае сьведчыць аб тым, што там, дзе соцспаборніцтва і ўдарніцтва зрабіліся асноўнымі, сапраўднымі мэтодамі работы, там маюцца пэўныя вынікі сапраўднай бальшавіцкай работы. Асабліва гэта тычыцца такарнага і інструмэнтальнага цэхаў, дзе на працягу 1931 году ўвесь час назіраліся значныя прарывы ў выкананьні прамфінпляну. Перад усімі заводзкімі організацыямі паўстаюць у сувязі з гэтым неадкладныя задачы замацаваць дасягнутыя посьпехі лепшых ударнікаў, пашырыць іх практыку на астатнюю масу рабочых, забясьпечыць штодзеннае опэрацыйнае кіраўніцтва ўдарніцкім рухам, наладзіць сыстэматычную праверку выкананьня дагавароў ударных брыгад, забясьпечыць усямернае падахвочваньне ўдарнікаў, выяўляць ілжэўдарнікаў, што ў сваю чаргу будзе садзейнічаць і дапамагаць пасьпяховаму выкананьню прамфінпляну.

## Ліквідацыя абязьлічкі і ўраўнілаўкі

У адносінах ліквідацыі абязьлічкі і ўраўнілаўкі комунараўцы таксама маюць пэўныя дасягненьні. 90 проц. рабочых пераведзена на прэміяльна-зьдзельную аплату. Да кожнай брыгады прымацаваны пэўныя машыны, інструмэнт і даведзены вызначаныя нормы выпрацоўкі. За брак, які робіцца па віне рабочага або цэлай брыгады, робяць вылічэньні з зарплаты, за перавыкананьне нормы выдаецца прэмія. Прэміяльна-прогрэсыўная сыстэма зарплаты зрабіла адпаведны ўплыў на павышэньне вытворчасьці работы, якая па асобным цэхам у 1931 годзе дасягнула 156 проц. і дала зьніжэньне браку ў ліцейным цэху з 13 на 7 проц. Маюцца пэўныя дасягненьні ў плянаваньні і ўчоце работы. Сваечасова даюцца зводкі выкананьня прамфінпляну

па асобным цэхам і брыгадам, асьвятляюцца вузкія месцы, якія перашкаджаюць даць пэўную колькасьць продукцыі. Наладжваюцца суботнікі па ліквідацыі прарываў. Плянавыя групы вядуць учот браку, вывучаюць яго прычыны і мэтоды зьнішчэньня браку, а таксама сочаць за выкананьнем прынятых рацыяналізатарскіх прапаноў. Прэміяльна-зьдзельная сыстэма аплаты садзейнічае падвышэньню зарплаты рабочых, так, напрыклад, рабочы ў брыгадзе па вырабу кувыркаў пры групавой зьдзельшчыне меў заработак 120—130 р. у месяц, пры пераходзе на прэміяльна-зьдзельную аплату яго заработак дасягнуў 180—190 р. Маючы такія посьпехі ў ліквідацыі абязьлічкі і ўраўнілаўкі, комунараўцы павінны яшчэ больш мобілізаваць свае сілы на далейшае замацаваньне, удасканаленьне і 100-процантную ліквідацыю абязьлічкі ва ўсіх цэхах.

## За ауладаньне тэхнікай

„Тэхніка ў пэрыод рэконструкцыі вырашае ўсё“ (т. Сталін). Гэты лёзунг рашуча ажыцьцяўляецца комунараўцамі. Для ажыцьцяўленьня прамовы т. Сталіна аб ауладаньні тэхнікай, на „Комунары“ былі організаваны тэхнічныя курсы па падвышэньню кваліфікацыі рабочых, але адсутнасьць мэтавай устаноўкі курсаў, належных програм, плянаў, адказнасьці з боку заводакіраўніцтва за пастаноўку тэхвучобы не дала магчымасьці ператварыць гэтыя курсы ў масавыя. На курсах навучалася вельмі малая колькасьць рабочых, былі выпадкі зрыву заняткаў. Рабочых курсы не здавальнялі. Гэта прымусіла ўсе заводзкія організацыі „Комунара“ адшукаць лепшыя мэтоды паходу за ауладаньне тэхнікай. Па ініцыятыве комсамольскага колектыву была ўнесена прапанова аб організацыі вячэрняга тэхнікуму на заводзе, які павінен рыхтаваць кадры па халоднай і гарачай апрацоўцы мэталяў і перападрыхтоўваць старыя кадры. Прапанова комсамолу была падхоплена ўсімі заводзкімі організацыямі і шырака популярызавана сярод рабочых мас. Менскі гарком КП(б)Б, гарком ЛКСМБ і Вышэйшы Савет Народнай Гаспадаркі БССР таксама падтрымалі комунараўцаў у гэтым пытаньні.

У дні сьвяткаваньня XIV гадавіны Кастрычнікаўскай рэволюцыі комунараўцы ўрачыста сьвяткавалі адчыненьне вячэрняга тэхнікуму на заводзе. Цяпер у тэхнікуме навучаецца 350 чал. рабочых, якія, не адрываючыся ад вытворчасьці, падвышаюць свае веды і рыхтуюць камандзіраў вытворчасьці. Апрача таго, да 200 чал. рабочых навучаецца ў іншых вячэрніх навучальных установах і абхоплены завочным навучаньнем.

Тэхнікум у асноўным складаецца з 4-х курсаў: на першы курс прымаюцца рабочыя з ведамі ў аб'ёме за 5 груп сямігодкі — тэрмін навучаньня гэтай групы тэхнікуму 36 месяцаў, на другі курс прымаюцца рабочыя з ведамі за 6 груп сямігодкі—тэрмін навучаньня для гэтай групы 32 месяцы, на 3 курс прымаюцца рабочыя з ведамі ў аб'ёме сямігодкі, тэрмін навучаньня для гэтай групы 24 месяцы. На 4 курсе навучаюцца майстры і брыгадзіры, якія па сваіх ведах падзяляюцца на дзьве групы, адна з тэрмінам навучаньня 22 месяцы, і другая—16 месяцаў, а таксама маецца група скончыўшых профшколу, для якой програма навучаньня разьлічана на 12 месяцаў. Апрача пералічанай групы курсаў ёсьць падрыхтоўчая група, якая зьяўляецца базай для ўкомплектаваньня асноўных курсаў тэхнікуму.

Уся вучоба ў тэхнікуме непасрэдна зьвязана з вытворчасьцю ўсяго заводу і работай паасобных груп і брыгад рабочых. Вучоба прыстасавана да зьменнага і цэхавага прынцыпу арганізацыі працы бесьперабойна. Вучэбныя програмы і пляны распрацаваны так, што тэорытычнае навучаньне цесна зьвязана з практычнаю работаю на вытворчасьці, праз арганізацыю адпаведнай вытворчай практыкі. Тэхнікум укомплектаваны адпаведнаю колькасьцю выкладчыкаў. Заняткі ў тэхнікуме адбываюцца 5 раз у дэкаду, у памяшканьні заводзкага клюбу і ў памяшканьні другой фабрычна-заводзкай сямігодкі, прычым заняткі для дзеннай зьмены рабочых адбываюцца вечарам, а для вячэрняй днём.

Сярод студэнтаў і выкладчыкаў тэхнікуму разгорнуты соцыялістычныя мэтоды працы: соцспаборніцтва, ударніцтва, грамадзкі буксір, што значна дапамагае нормальнай вучобе ў тэхнікуме. Зразумела, што тэхнікум, як новая, маладая арганізацыя, меў і мае на сваім шляху цяжкасьці, вузкія месцы, але, дзякуючы правільнаму опэрацыйнаму кіраўніцтву і дапамозе з боку партколектвыу, адміністрацыі, комсамольскага колектыву, заўкому, ІТР і ўсёй пролетарскай грамадзкасьці заводу, тэхнікум у асноўным гэтыя цяжкасьці і перашкоды перамог і дабіўся нормальнай работы. Так, комунараўцы шчыра, па-бальшавіцку, на справе ажыцьцяўляюць гістарычныя словы т. Сталіна: „Наша краіна ўступіла ў такую фазу разьвіцьця, калі рабочая кляса павінна стварыць з сябе сваю ўласную, вытворчую тэхнічную інтэлігенцыю“. Практыку і прыклад комунараўцаў у гэтых адносінах трэба пашырыць на іншыя прадпрыемствы і зрабіць іх здабыткам шырокіх рабочых мас.

Зараз, у сувязі з праходзячай гадаўшчынай прамовы т. Сталіна аб аўладаньні тэхнікай, комунараўцы шырака мобілізаваліся на праверку стану работы на заводзе ў галіне аўладаньня тэхнікай. Вынікі праверкі, бясспрэчна, дадуць магчымасьць яшчэ больш згрупаваць рабочыя масы комунараўцаў на далейшыя перамогі і дасягненьні ў справе аўладаньня тэхнікай.

## За соцыялістычную перабудову быту

Побач з перамогамі на гаспадарчым фронце, на фронце па аўладаньню тэхнікай, комунараўцы, пад кіраўніцтвам партыі, дабіліся значных дасягненьняў у справе паляпшэньня і перабудовы быту ў адпаведнасьці з агульнымі задачамі соцыялістычнага будаўніцтва. У дні сьвяткаваньня XIV гадавіны Кастрычнікаўскай рэволюцыі комунараўцы ўрачыста адчынілі новаадбудаваную сталоўку — гэта ў значнай ступені палепшыла забесьпячэньне рабочых заводу. Сталоўка зьмяшчаецца ў досыць прасторным будынку, мае добрае абсталяваньне. Работа сталоўкі прыстасавана да зьменнага і цэхавага прынцыпу арганізацыі працы, што дае магчымасьць бесьперабойна харчавацца ў сталоўцы абсолютна ўсёй масе рабочых заводу. Унутраны распарадак распрацаваны так, каб ня было чаргі і паабедаць за 10—15 хвілін групе рабочых у 150—200 чалавек. Значна палепшана якасьць харчу. Сталоўка займаецца саманарыхтоўкамі. Для скарыстаньня адкідаў у сталоўцы на заводзе арганізаваны сьвінаадкормчы пункт, на якім зараз адкармліваецца 45 сьвіней. Значныя палепшаньні дасягнуты ў справе кватэрнага забесьпячэньня рабочых заводу. На пасёлку „Комінтэрн“ арганізаваны інтэрнат, дзе жывуць 45 комсамольцаў — рабочых заводу, таможа ў хуткім часе будзе скончана пабудова дому для кватэр рабочых

„Комунару“ на 150 сем‘яў. Зараз рабочыя прымацаваны да паасобных жактаў гораду.

Вялікая работа прароблена комунараўцамі ў справе наладжваньня работы коопэрацыі. Праз спэцыяльныя праверачныя брыгады, праз заводзкую шматтыражку „Комунаравец“ дасягнуты пэўныя зрухі ў рабоце ЗРК. Зьнішчана чарга ў крамах і ларкох, уведзена сыстэма папярэдніх заказаў, зьнішчана ў асноўным ураўнілаўка ў рабочым забесьпячэньні, наладжана забесьпячэньне ўдарнікаў і створаны адпаведныя прэміяльныя фонды. Наладжана рэгулярная справаздачнасьць коопэрацыйных камісій, крам, ларкоў перад шырокай масай рабочых заводу.

Для заводу організаваны дзіцячыя ясьлі на 30 дзяцей, а таксама і ў адным з дзіцячых садоў гораду адведзена 25 месц для дзяцей рабочых, што ў значнай меры паляпшае быт работніц заводу.

Апрача мэдыцынскага пункту на заводзе ў мінулым годзе організаваны зубалячэбны габінэт.

Праводзіцца належная работа сярод рабочых у кірунку зьнішчэньня старых перажыткаў—лаянкі, п‘янкі, рэлігійных забабонаў, нацыянальнай розьні і інш. шляхам чыткі адпаведных лекцый, дакладаў, скарыстаньня радыё, праз бібліотэку, шматтыражку, гутаркі, гурткі і г. д. Трэба, аднак, заўважыць, што ў мінулым годзе на заводзе мела месца паслабленьне інтэрнацыянальна-выхаваўчай работы, што прывяло да праявы вялікадзяржаўнага шовінізму ў асобе рабочага Пяткевіча, які імкнуўся ўзьвесьці паклёп на ленінскую нацыянальную політыку, але гэтае выступленьне, дзякуючы правільнаму кіраўніцтву партыйнай заводзкай організацыі, атрымала належны адпор з боку рабочага колектыву „Комунару“ і яшчэ больш згуртавала яго на барацьбу з праявамі розных адхіленьняў у бок ад генэральнай лініі партыі.

## Мобілізацыя сродкаў

Мобілізацыі сродкаў, як важнейшай політычна-гаспадарчай кампаніі, садзейнічаючай узмацненьню і паскораньню тэмпаў соцыялістычнага будаўніцтва і палепшаньню на гэтай аснове дабрабыту працоўных мас краіны, комунараўцы ў штодзеннай сваёй рабоце ўдзяляюць належную ўвагу. Папярэдняя падпіска на пазыку 3-га рашаючага году пяцігодкі на заводзе дала 104.000 р. пры 120.000 р. агульнай зарплаты, што складае 86,6 проц. ад зарплаты. Навакол гэтай кампаніі было разгорнута спаборніцтва і ўдарніцтва і многія з рабочых падпісаліся больш, як на 100—150 проц. зарплаты. На заводзе маецца ашчадкаса, дзе рабочыя зьмяшчаюць свае вольныя сродкі. Комунараўцы прынялі самы актыўны ўдзел у правядзеньні фінэстафэты, якая праводзілася па БССР у апошнім квартале 1931 году. Вынікі гэтай кампаніі далі наступнае: сабрана дадатковай падпіскі і падпіскі сярод новай часткі рабочых, паступіўшых на завод,—5.000 р. на пазыку 3-га рашаючага году пяцігодкі; прыток укладаў у ашчадкасу за кастрычнік 1931 году выявіўся ў суме 6.000 р. пры квартальным заданьні 10.000 р. (на кастрычнік—сьнежань); у часе правядзеньня фінэстафэты 86 проц. рабочых „Комунара“ ахоплены колектыўным страхаваньнем. Заводзкая ашчадная каса мае за 1931 год 970 укладчыкаў пры гадавым звароце ў 62.174 р. Прыведзеныя лічбы сьведчаць аб тым, што комунараўцы, пад кіраўніцтвам партыі, змагаюцца за выкананьне пяцігодкі ў 4 гады, за генэральную лінію партыі.

## Дэпутацкая група на „Комунары“

У маі 1931 году на заводзе „Комунар“ організавана дэпутацкая група з 65 чалавек. У студзені 1932 году група ўжо мела 108 завербаваных добраахвотнікаў. Група ў сваёй рабоце займалася пытаньнямі як вытворчага, так і бытавога характару. На агульным сходзе групы разам з рабочым актывам заслуханы даклад дырэкцыі заводу аб выкананьні прамфінпляну, аб паляпшэньні бытавых умоў рабочых, па дакладу рабочымі ўнесены рад практычных прапаноў, якія спрыялі ліквідацыі прарываў і лепшаму і хутчэйшаму выкананьню прамфінпляну.

У часе справаздачна-перавыбарчай кампаніі завкому група вылучыла брыгады па кожнаму цэху для праверкі работы цэхкому і завкому і ўцягненьня рабочай масы ў справаздачна-перавыбарчую кампанію. Значную работу група прарабіла ў справе наладжваньня грамадзкага харчаваньня на заводзе. Праведзены агляд работы сталоўкі, выяўлены цэлы рад недахопаў, даны конкрэтныя прапановы па ліквідацыі недахопаў у рабоце сталоўкі. Быў організаваны суботнік па ўборцы і ўпарадкаваньню сталоўкі. Праведзены сходы па цэхам аб санітарным мінімуме ў сталоўцы. Да сталоўкі прымацавана сталая брыгада са складу дэпутацкай групы. На заводзе ўстаноўлена дзяжурства дэпутатаў гарсавету. Група прымае ўсе магчымыя захады да задавальненьня і паляпшэньня кватэрных умоў рабочых. Дэпутацкая група наладжвае выезды ў колгасы „Новы сьвет“ і іншыя, дзе наладжана шэфская работа. Работа праводзіцца групаю брыгадным мэтодам і для кожнай брыгады зараней выпрацоўваюцца анкеты—апытальнікі, паводле якіх брыгада выконвае тое ці іншае заданьне. Група дабілася адчыненьня дзіцячага саду і ясьляў, аб якіх паміналася вышэй.

З складу рабочых-ударнікаў вылучана 13 соцнамесьнікаў у апарат ВСНГ.

На заводзе працуюць наступныя грамадзкія організацыі: ячэйка МОПР‘у, якая яднае 427 рабочых, ячэйка Асоавіяхіму—542, ячэйка Азэт—350, ячейка Аўтадору — 142, ячэйка Прэч няпісьменнасьць—90, ячэйка Чырвонага крыжу — 214, ячэйка Прыхільнікаў дзяцей — 102, Шэфскае т-ва—342, Тэхніка ў масы—212 і ячэйка вынаходцаў—140 чалавек. Такім чынам, пераважная большасьць рабочых членствуе больш як у 2 грамадзкіх організацыях.

Вось кароткі малюнак работы і жыцьця комунараўцаў; зразумела, ён далёка не абхоплівае ўсіх бакоў і зьяўляецца толькі пачаткам сталага і сыстэматычнага вывучэньня сіламі саміх рабочых свайго прадпрыемства. Мы ўпэўнены, што гэты пачатак будзе працягвацца краязнаўчай ячэйкай заводу, якая нядаўна організавана на „Комунары“ і ў хуткім часе комунараўцы, пад кіраўніцтвам партыйнага колектыву, праз краязнаўчую ячэйку мобілізуюць рабочыя масы для напісаньня гісторыі заводу „Комунар“ і гэтым самым выканаюць пастанову ЦК УсеКП(б) аб выданьні „гісторыі заводаў“.

---

**Ад рэдакцыі:** Рэдакцыя зьмяшчае гэты матар‘ял, як першую спробу брыгады краязнаўчай ячэйкі заводу „Комунар“ даць нарыс заводу і ў далейшым чакае матар‘ялаў па асобных галінах жыцьця і работы заводу.

---

**К. Я. Кароль**

# Колгас Анзор

*(Вёска Лядно, Чырвонаслабодзкага раёну)*

## Організацыя колгасу

Колгас Анзор організаваны ў 1929 годзе ў вёсцы Лядно Чырвонаслабодзкага раёну, Малышэвіцкага сельсавету. Колгас знаходзіцца на адлегласьці 20 кілёмэтраў ад польскай мяжы.

У часы белапольскай окупацыі вёска Лядно была нашчэнт абрабавана бела-польскімі войскамі і толькі дзякуючы чырвоным партызанам яна была выратавана ад падпалу. Пасьля вызваленьня ад белапалякаў бядняцкія і серадняцкія гаспадаркі вёскі Лядно прыступілі да аднаўленьня сваіх дробных і разбураных за час белапольскай окупацыі гаспадарак. Зямля, належаўшая абшарніцы Заляцкай і знаходзіўшаяся навокала вёскі, была падзелена паміж бядняцка-серадняцкімі гаспадаркамі вёскі. З боку дзяржавы была зроблена вялікая дапамога беднаце і серадняцтву ў справе наладжаньня гаспадарак. Але бедната і серадняцтва хутка зразумелі, што дабіцца сапраўднага палепшаньня матар'яльнага становішча і свайго дабрабыту на дробных раскіданых аднаасобных гаспадарках, дзе немагчыма ўжыць буйной машыннай тэхнікі—немагчыма. Вось чаму яскравыя дырэктывы партыі і савецкае ўлады аб аб'яднаньні дробных раскіданых аднаасобных гаспадарак у буйныя соцыялістычныя гаспадаркі—колгасы знайшлі поўнае падтрыманьне з боку беднаты і лепшай часткі сераднякоў вёскі Лядно.

Ужо ў пачатку вясны 1929 году 7 бядняцка-серадняцкіх гаспадарак організавалі колгас Анзор у вёсцы Лядно.

Хутка пачалося земляўпарадкаваньне колгасу. Колгасу былі выдзелены лепшыя землі. Гэта было вельмі не да густу кулаком і падкулачнікам. Яны паднялі крык і выступалі супроць таго, каб не адводзіць колгасу зямлі. Доўга крычалі яны, але зрабіць нічога не змаглі. Колгасу была адведзена пэўная плошча зямельных угодзьдзяў. Распачалася работа ў колгасе. Абагулілі інвэнтар і цягавую сілу і распачалі складаньне плянаў будаўніцтва, а разам і падрыхтоўку да вясеньняе сяўбы, якую праводзілі ўжо організаваным парадкам. Вялікую дапамогу ў выкананьні пляну вясеньняе сяўбы колгас меў ад суседняга колгасу імя Карла Маркса. Ён організаваў нядзелю дапамогі, выдзеліўшы для гэтага 14 колгасьнікаў, 14 пар коняй і 2 сявалкі.

Нядзеля дапамогі прайшла надта добра. Толькі дзякуючы колгасу імя Карла Маркса, колгас Анзор справіўся з васеньняю сяўбою,

бо сваіх сіл у яго тады яшчэ было мала. Зімой колгасьнікі былі заняты будаўніцтвам.

Яшчэ задоўга да вясны колгас распачаў падрыхтоўку да сяўбы. Увесь інвэнтар, збруя зьбіраліся ў адно месца і адразу-ж замацоўваліся, насеньне колгас падрыхтаваў своечасова, быў вызначаны дзень выезду ў поле. Танежыцкая МТС прыслала трактары. 5 трактараў стаялі на дварэ і сваім гулам давалі знак, што да выезду ў поле яны гатовы. Каля трактароў зьбіраліся людзі і аглядалі іх з усіх бакоў. „Фордзоны" гулі весела, да перадавога з іх быў прымацаваны чырвоны сьцяг.

Ня гледзячы на цяжкасьці, якія меў на сваім шляху колгас, вясновая сяўба была скончана своечасова, уборка ўраджаю таксама прайшла добра. Надышоў час васеньняе сяўбы. Для правядзеньня яе колгас падрыхтаваўся добра і справіўся пасьпяхова. У гэтым-жа 1930 годзе распачалі пабудову сьвінарніка. Сілы колгасу з кожным днём узрасталі, кулаком і падкулачнікам гэта вельмі не падабалася і яны ня спынялі свае барацьбы супроць колгасу. Барацьба праводзілася рознымі мэтодамі. У 1930 годзе кулакі арганізавалі падпал колгаснага гумна, разам з якім згарэла многа сельскага-спадарчага інвэнтару.

У пачатку 1931 году колгас значна ўзрос. У ім ужо налічвалася больш як 50 гаспадарак. Матар'яльна колгас узмацнеў. Надыходзіў час другой бальшавіцкай вясны. Падрыхтоўка да правядзеньня другой бальшавіцкай была распачата яшчэ з студзеня месяца. Кузьні і майстэрні рамантавалі сельска-гаспадарчы інвэнтар. У колгасе складаўся вытворчы плян, арганізоўваліся брыгады па розным галінам работы. Рамантавалася збруя.

Час да выхаду ў поле з кожным днём станавіўся ўсё карацейшым. У колгас з кожным днём уліваліся новыя колгасьнікі з ліку беднякоў і серадНякоў.

Для правядзеньня другой бальшавіцкай вясны колгас выступіў у поўнай гатоўнасьці. Сяўба пачалася своечасова. Работа варам варылася,—ішла бальшавіцкімі тэмпамі. Шырока ўжывалася ўдарніцтва і соцспаборніцтва як паміж паасобнымі брыгадамі, так і паміж паасобнымі колгасьнікамі. Да ўдарнай работы штурхала кожнага колгасьніка зьдзельшчына, якая была ўжо ўведзена ў колгасе. Праўда, у колгасе сустракаліся і такія колгасьнікі, якія гаварылі, што „хоць ты і лепш за мяне будзеш працаваць, але атрымаем мы пораўну". Але ня тут та было! Вышла ня так, як хацелася лайдаком і прагульшчыкам. Потым яны дужа былі пакрыўджаны, але палепшыць справу ўжо ня было як.

Дзякуючы ўдарнай рабоце асноўнай масы колгасьнікаў, плян вясновае сяўбы быў выкананы своечасова і поўнасьцю. Згодна пляну патрэбна было засеяць:

1. Аўсу—48 га, засеяна—48 га.
2. Ячменю 10 га, заеяна—14 га.
3. Вікі—20 га, засеяна—20 га.
4. Лёну—12 га, засеяна—12 га.
5. Бульбы—50 га, засеяна 50 га.
6. Гароху—5 га, засеяна 5,25 га.
7. Буракоў кармовых—6 га, засеяна 7,5 га.
8. Канюшыны падсеўнай—35 га, засеяна 35 га.
9. Сэрадэлы-—2 га, засеяна 2 га.

Вялікую дапамогу ў выкананьні пляну вясновай сяўбы зрабіла Танежыцкая МТС, якая свае абавязкі ў колгасе выканала з гонарам. Большая палова кліну пад яравыя культуры была ўзьнята „фордзонамі“. Перабояў у рабоце ня было. Руль „фордзонаў“ трымалі ў руках самі колгасьнікі, якія прайшлі трактарныя курсы: Гаркавы Лявон, Шэнк Уладзімер, маладыя комсамольцы-ўдарнікі—Гірэль Іван—сакратар комсамольскай ячэйкі, ён-жа старшы рулявы. Плян другой бальшавіцкай вясны ў колгасе Анзор быў выкананы па-бальшавіцку.

Скончыўшы вясновую сяўбу ўся рабочая сіла была перакінута на ўборку ўраджаю. Работа і тут кіпела. Тэмпы работы падымаліся ўсё вышэй і вышэй. Уся работа праводзілася пад знакам ударніцтва і спаборніцтва. Лайдакі і прагульшчыкі, якія сям-там траплялiся ў час вясновае сяўбы, амаль ужо не знаходзіліся. Яны зразумелі, што калі ня будуць працаваць, дык ня будзе чаго і есьці. У часе ўборкі ўраджаю зьдзельшчына яшчэ больш стала праводзілася. Быў наладжаны самы дакладны ўлік работы кожнага колгасьніка. Усім выдалі працоўныя кніжкі і вялі ў іх саечасовы запіс. Для кожнага віду работы былі ўстаноўлены нормы выпрацоўкі. Работы былі разьбіты на 4 катэгорыі. Работа першай катэгорыі ацэньвалася ў 0,75 працадня ў тым выпадку, калі выканана норма выпрацоўкі, якая ўстаноўлена для данага віду работ. Работа другой катэгорыі ацэньвалася ў адзін працадзень. Работа трэцяй катэгорыі ацэньвалася ў 1,25 працадзён і работа чацьвертай катэгорыі у 1,5 працадзён.

Такая пастаноўка работы штурхала кожнага колгасьніка да ўдарнай работы, каб больш выпрацаваць працадзён, а гэта значыць і больш атрымаць пры разьмеркаваньні прыбыткаў.

Бальшавіцкія тэмпы работы ў часе ўборачнай кампаніі забясьпечылі поўнае і свaечасовае выкананьне плянаў уборкі. З поля ўбрана ўсё да жмені ў тэрмін.

У часе ўборкі азімага (жыта і пшаніцы) на поле была прывезена складаная малатарня. Зжатае жыта і пшаніца падвозілася да малатарні і адразу там-жа на полі малаціл́ася. Такім чынам, увесь азімы засеў быў змалочаны на полі за некалькі дзён.

Гул трактару і грукат малатарні прарэзвалі летнюю цішыню і былі чутны далёка, далёка. А сярод гулу машын часта чутна была жывая песьня колгасьнікаў. Колгасьнікі працавалі з бадзёрасьцю і вялізарным энтузіязмам. Гледзячы на работу, аднаасобнікі гаварылі: „Як тут не запяеш, калі тут такая машына і столькі людзей“. Работай малатарні любаваліся ўсе як старыя, так і маладыя. Абмалочанае, ачышчанае і ссыпанае ў мяшкі збожжа вазілася з поля ў колгасныя засекі.

З-пад малатарні быў арганізаваны чырвоны абоз з збожжам дзяржаве. Анзор адзін з першых колгасаў Чырвонаслабодзкага раёну выканаў заданьне па збожжанарыхтоўках.

Сваечасовае сканчэньне работ, дружная баявая работа колгасьнікаў садзейнічалі прыліву ў колгас аднаасобнікаў. Яны падавалі адну заяву за другой. Когас рос з кожным днём, рос і мацнеў.

Распачыналася падрыхтоўчая работа да васеньняе сяўбы. Зноў распачаўся рамонт інвэнтару і збруі. Чысьцілі насеньне.

Дзякуючы сваечасовай падрыхтоўцы, правільнай арганізацыі работы і ўдарніцтву, васеньняя сяўба была распачата і скончана ў тэрмін. Нормы выпрацоўкі пры правядзеньні сяўбы ня толькі выконваліся, але і перавыконваліся.

Танежыцкая МТС зноў свае абавязкі выканала з гонарам. Скончыўшы азімую сяўбу, колгас перакінуў усю цягавую сілу на зяблівае ворыва, а трактары ня ўзьняцьце цаліны. На выкананьне пляну зяблівага ворыва і ўзьняцьце цаліны ў колгасе была зьвернута асаблівая ўвага, дзякуючы гэтаму пляны на гэтым участку работы ня толькі выкананы, але і перавыкананы.

Потым рабочая сіла колгасу перакінута на апрацоўку лёну, якога ў колгасе сабрана многа. Ураджай лёну быў вельмі добры.

Апрацоўка лёну цягнулася бесьперапынна і некалькі дэкад. Тормазам у гэтай рабоце была тое, што ў колгасе толькі адна сушня, у якой можа працаваць толькі 10-11 чал. Другая сушня, якая мелася ў колгасе, згарэла. Але каб ня зьніжаць тэмпаў апрацоўкі лёну, рабочая сіла на гэтым участку разьмяркована такім чынам: 2-3 чал. складаюць брыгаду сушыльшчыкаў, 10-11 чалавек гэта брыгада мяльшчыкаў і 10 чал. брыгада трапальшчыкаў. Работа ідзе конвэерам. Для кожнага віду работы ёсьць нормы выпрацоўкі. Кожная колгасьніца, якая мне, сушыць лён і г. д.—змагаецца за перавыкананьне сваёй нормы, каб атрымаць больш працадзён. Лепшымі ўдарніцамі зьяўляюцца наступныя ўдарніцы: Шнэк Вольга Сяргееўна, Каленчыц Вольга Раманаўна, Сьцяпура Вольга, Барысевіч Вольга і Гірэль Надзея Давыдава

Малацьба збожжавых культур ужо заканчваецца, на працягу ўжо некалькіх тыдняў 3-4 малатарні гудуць бязупынна.

Колгас Анзор заключыў умову з Леспрамгасам. Гэтая ўмова ўжо даўно выканана. Анзор першым у раёне зьявіўся на лесараспрацоўкі, выканаўшы свае абавязкі, якія былі паказаны ва ўмове з Леспрамгасам. Зараз пачалася вывазка лесу.

## Колгас Анзор сёньня

Зараз Анзор яднае 71 бядняцка-серадняцкую гаспададрку. Усяго насельніцтва 351 чал., з іх працаздольных мужчын 75 чал., жанчын 85 і 12 падросткаў.

Рабочая сіла разьмеркавана такім чынам: на паляводзтве працуе 145 чал., даглядаюць сьвіней 4, за каровамі даглядаюць 6 чал. і за коньмі таксама 6 чал.

Усяе зямлі колгас Анзор мае 809 га, з іх ральлі 549,48 га, сенажацяў 173,30 га. У колгасе маюцца 4 аддзяленьні (падсобныя гаспадаркі).

У колгасе кароў 30 штук, маладняку 19, цялят 29 шт., быкоў 3 шт.

Спэцыялізуецца колгас у кірунку сьвінагадоўлі, у ім організавана сьвіная таварная фэрма, якая мае ўсяго 111 штук сьвіней, з іх сьвінаматак ад 4 да 8 месяцаў—22 шт. Сьвінаматак старэй 8-месячнага ўзросту—46 шт., парасят да 4 месяцаў—19 шт., кныроў-вытворцаў—3 шт., кабаноў на адкорме—20 шт. Фэрма поўнасьцю не ўкомплектавана. У ёй павінна быць 150 сьвінаматак, а ёсьць толькі—68.

На гэтым адказьнейшым участку работы ў сучасны монант маецца вялізарнейшы прарыў. Гэты прарыў павінен быць у самы найкарацейшы тэрмін ліквідаваны.

Усіх коняй колгас мае 74 шт., з іх рабочых 61 і маладняку—13 штук. За коньмі організаваны правільны догляд.

З будынкаў колгас мае: сьвінарнікаў на 100 сьвінаматак, распачата будаўніцтва новага сьвінарніка на 50 сьвіней.

У колгасе ёсьць 5 майстэрняў, 1 ветраны млын, 4 конных малатаркі, 4 жняяркі, 3 касілкі, 2 грабляў, іншыя с/г. прылады.

## Колгас дзяржаве

Заданьне па нарыхтоўкам усіх відаў колгас выканаў поўнасьцю і сваечасова. Здана дзяржаве: жыта—16,3 тон, бульбы 26 тон, аўсу 3,37 тоны, ячменю—1,53 тоны, пшаніцы 2 тоны, вікі—4,24 тоны, гароху—3,83 тоны, ільну—3,64 тоны.

Садовіны здана на 13 641 рубель, жывёлы на 742 рублі, масла на 4.314 р., а малака на 736 рублёў і г. д.

Заданьне па мобілізацыі сродкаў колгас выканаў поўнасьцю. Выплачана: падатку—516 рублёў 48 кап., страхоўкі—1.178 рубёў, куплена акцый Трактарацэнтру і машынных абавязацельстваў на 2.075 рублёў. На пазыку „Пяцігодка ў чатыры гады“ колгас падпісаўся на суму 280 рублёў і на пазыку „3-ці рашаючы“ на 756 рублёў. Выплачаны даўгі па крэдытам у разьмеры 4.422 рублі. Пагашаны крэдыты 1931 г. у разьмеры 1.080 рублёў і выплачана Танежыцкай МТС 2.936 рублёў 97 кап.

## Размеркаваньне ўраджаю

Разьмеркаваньне ўраджаю зьяўляецца асноўным зьвяном організацыйна-гаспадарчага ўмацаваньня колгасаў. Усе прыбыткі і ўраджай у колгасе Анзор разьмеркаваны па прынцыпу — „хто больш і лепш працуе, той больш і атрымлівае“.

Да першага кастрычніка $^2/_3$ колгасных прыбыткаў былі разьмеркаваны па працаднёх. Разьмеркаваньне праходзіла пасьпяхова, бо ў колгасе наладжаны самы дакладны ўлік работы кожнага колгасьніка. Да разьмеркаваньня ўраджаю колгас прыступіў пасьля таго, як расплаціўся з дзяржавай. Інтарэсы дзяржавы ставіліся і ставяцца колгасам „Анзор“ вышэй сваіх уласных інтарэсаў.

Колгас склаў наступныя фонды: непадзельны фонд 10—15 проц., што складае 6.572 рублі і 08 кап., на абагуленую жывёлу 3 проц.— 1314 руб. 43 кап., прэм‘явальны фон 1 проц.—438 рублёў 13 кап., фонд для дапамогі курсантам і вучням у разьмеры 1 проц., што складае 438 рублёў 13 кап., фонд для агра-вытворчага абслугоўваньня колгасу ў разьмеры 1 проц.—438 руб. 13 кап., культбытавы фонд 2 проц.— 876 руб. 27 кап. Разам адлічана ў фонды 10.077 рублёў 19 кап. На адміністрацыйна-гаспадарчыя і іншыя выдаткі вылучана 1.687 рублёў 60 кап.

Да разьмеркаваньня сярод колгасьнікаў на першае кастрычніка засталося 13.249 рублёў, што складае $^2/_3$ усёй сумы, якая падлягае разьмеркаваньню сярод колгасьнікаў.

На кожны працадзень колгасьніка грашыма прыходзіцца па 48 кап. і натурай 61 капейка, такім чынам увесь працадзень аплачваецца 1 рубель 9 кап.

Даходы колгасьнікаў значна павялічыліся ў параўнаньні з іх даходамі ў адзінаасобнай гаспадарцы. Напрыклад, Барысевіч Антон Кастусёў, сям‘я яго складаецца: працаздольных 4 і падростак 1. Да першага кастрычніка імі выпрацавана 1.122 працадні. Пры разьмеркаваньні $^2/_3$ прыбыткаў гэтая сям‘я атрымала: жыта 17,9 цэнтнэра, пшаніцы — 22,4 цэнтнэра, ячменю 2,2 цэнтнэра, аўсу—6,8 цэнтнэра, гароху—64,9 кілёграма, бульбы—12,34 тоны, ільна-валакна—44,8 кілёграма і грашыма— 559 рублёў 56 кап.

Сям‘я гэтая, калі была на адзінаасобнай гаспадарцы, ня мела кавалка хлеба. Сябры гэтае сям‘і, калі організаваўся колгас, ня раз

гаварылі: „Мы і так хлеба ня маем, а вы яшчэ нас у колгасы хочаце аб'яднаць. Там мы зусім з голаду падохнем“. А цяпер, калі яны знаходзяцца ў колгасе, ад іх можна пачуць такія словы: „Каб не колгас, дык наўрад ці пражылі-б мы на сьвеце“.

Кароль Рыгор Лук'янаў мае склад сям'і: працаздольных 3, падросткаў 1, старыкоў 1, дзяцей 2. Гэтая сям'я з студзеня месяца да першага кастрычніка 1931 году выпрацавала 627 працадзён і пры разьмеркаваньні $^2/_3$ ураджаю атрымала наступнае: жыта—1 тону, пшаніцы 1 цэнтн. 25 кг, ячменю—1 цэнтнэр 25 кілёграма, аўсу—3,8 цэнтнэра, гароху 35, 7 кілёграма, бульбы 73 цэнтнэры 98 кілёграм, ільнавалакна—25 кілёграм, грашыма 300 рублёў 96 кап.

Прыведзеныя лічбы і факты сьведчыць аб тым, што хто працаваў у колгасе па-ўдарнаму, дык той і атрымаў належную колькасьць прыбыткаў.

Пасьля першага кастрычніка (пасьля разьмеркаваньня $^2/_3$ ураджаю) колгасьнікі яшчэ больш ударна ўзяліся за работу. Тыя колгасьнікі, якія часта на работу ня выходзілі, пабачылі, што калі і далей яны будуць лайдачыць, дык у колгасе яны нічога не атрымаюць. Правільнае разьмеркаваньне ўраджаю паводле прынцыпу: хто больш і лепш працаваў, той больш і атрымаў—дало вялікі штуршок да ўдарніцтва і соцспаборніцтва. Правільнае разьмеркаваньне ўраджаю зьявілася адным з асноўных зьвеньняў організацыйна-гаспадарчага ўмацаваньня колгасу.

Зараз колгас вядзе падрыхтоўку да разьмеркаваньня ўсіх прыбыткаў ураджаю за 1931 год. Да 15-га студзеня 1932 году колгас Анзор абавязуецца закончыць разьмеркаваньне ўраджаю і прыбыткаў 1931 году.

Лепшымі ўдарнікамі ў колгасе зьяўляюцца наступныя колгасьнікі: Макаед Васіль—палявод, Барысевіч Хрысьціна—сьвінарка, Калесьнік Пятро, Кобарац Поля, Пясецкая Алена.

За ўдарную работу гэтыя колгасьнікі прэміяваны.

У колгас Анзор пралезьлі было два заможнікі—Сьцяпура Адам і Сьцяпура Міхась. Забраўшыся ў колгас, яны стараліся разваліць ягоізнутры. Ім быў даручаны догляд за колгаснымі коньмі, але яны іх не даглядалі, марылі іх голадам, раздаючы корм сваім неабагуленым коням і каровам. Гэтых шкоднікаў з колгасу выгналі і аддалі пад суд за шкодніцтва.

## Колгас Анзор—кузьня кадраў

Пытаньню падрыхтоўкі кадраў з ліку сваіх колгасьнікаў-ударнікаў колгас аддае надзвычайна вялізарную ўвагу. Гэты колгас падрыхтаваў 5 трактарыстаў і мяркуе яшчэ пасланць на курсы 10 чалавек. Многа актывістаў данага колгасу высунуты на адказныя пасады, як напрыклад: Макарэня Міхась—першы організатар колгасу, зараз зьяўляецца старшынёю сельсавету. Скібра Мікалай—высунуты на пасаду загадчыка крамы, Шнэк Макар—старшыня данага колгасу—былы чырвоны партызан, Стасевіч Анатолі—рахункавод, таксама свой колгасьнік, Кароль Васіль—скарбнік, сябра данага колгасу. Акрамя гэтага два колгасьнікі: Коберэц Міхась і Коберэц Аляксей высунуты і зьяўляюцца старшынямі другіх колгасаў гэтага-ж раёну.

Пры колгасе маецца комсамольская ячэйка з 12 асоб, кандыдатаў партыі ў колгасе—3 чалавекі. У 1931 годзе ў колгасе пабуда-

вана школа-сямігодка. Да гэтага году школы ў вёсцы Лядно ня было зусім. Пры школе-сямігодцы ёсьць клюб.

Ліквідацыя недахопаў—ключ да лепшай арганізацыі работы.

Асноўнымі недахопамі ў рабоце колгасу зьяўляюцца наступныя: культмасавая работа ў колгасе бадай адсутнічае. Радыё няма. Лікпункт і школу малапісьменных, якія арганізаваны ў колгасе, многія колгасьнікі не наведваюць, у той час як яны павінны былі наведваць. Хоць клюб у школе і ёсьць, але работы ніякай у гэтым клюбе не вядзецца. Многа колгасьнікаў ня выпісваюць і ня чытаюць газэт і літаратуры. Антырэлігійная работа сярод колгасьнікаў таксама не праводзіцца, у выніку чаго многа колгасьнікаў яшчэ не разьвязаліся з рэлігіяй і ўсякімі рэлігійнымі забабонамі. Нават ячэйкі ваяўнічых бязбожнікаў няма ў колгасе. Работа па інтэрнацыянальнаму выхаваньню зусім не праводзіцца. Ячэйкі МОПР пры колгасе няма. Ячэйка Асоавіяхіму арганізавана, але пакуль да баявой работы не прыступіла. Насьценгазэты, а таксама чорнай і чырвонай дошкі ў колгасе няма.

Гэтыя недахопы, гэтыя прарывы павінны быць тэрмінова ліквідаваны. Колгас Анзор, па-баявому спраўляючыся з работай у трэцім рашаючым годзе пяцігодкі, павінен у чацьвертым заключным годзе пяцігодкі дабіцца яшчэ большых дасягненьняў. Для таго, каб з посьпехам справіцца з надыходзячай бальшавіцкай вясной і паказаць узоры бальшавіцкай работы па выкананьню бальшавіцкіх плянаў, колгас павінен зараз-жа скласьці брыгады па рамонту сельска-гаспадарчага інвэнтару і збруі.

Пастанова лістападаўскага пленуму ЦК і ЦКК КП(б)Б па пытаньню арганізацыйна-гаспадарчага ўмацаваньня колгасаў павінна зьявіцца баявой праграмай для колгасу. Гэтая пастанова павінна быць дэталёва распрацавана на праўленьні колгасу і на агульным колгасным сходзе комсамольскай ячэйкі, на занятках палітшколы, лікпункту, школы малапісьменных і на сходзе ўсіх колгасьнікаў.

Колгас Анзор, каб поўнасьцю скарыстаць жаночую сілу ў часе гарачай летняй працы, павінен абавязкова арганізаваць ясьлі. Поўная магчымасьць для іх арганізацыі ёсьць. Патрэбна цяпер-жа распачаць належную работу, каб арганізаваць іх сваечасова. Ня шкодзіла-б, каб колгас на лета 1932 г. акрамя дзіцячых ясьляў арганізаваў агульна-колгасную сталовую. Арганізацыя дзіцячых ясьляў і колгаснай сталовай дасьць сотні новых працадзён колгасу.

Дзеля таго, што колгас Анзор спэцыялізуецца ў кірунку сьвінагадоўлі, на гэтую вядучую галіну гаспадаркі павінна быць зьвернута выключная ўвага. Колгасьнікі павінны сваімі сіламі дакончыць укомплектаваньне сьвінафэрмы.

У часе вясновае сяўбы колгас павінен улічыць, што асноўнае ў яго гаспадарцы—гэта сьвінафэрма, і таму патрэбна будзе сеяць найбольш тых культур, якія патрэбны для свінафэрмы.

Вытворчая дысцыпліна, ударніцтва і соцспаборніцтва павінны быць узьняты яшчэ на вышэйшую ступень. Абязьлічка павінна быць зьнішчана канчаткова на ўсіх участках. Зьдзельшчына павінна быць яшчэ больш укаранёна. Улік работы кожнага колгасьніка павінен быць самым дакладным.

Рашаючы 4-ы год пяцігодкі і 4-ы год існаваньня колгасу Анзор павінны даць яшчэ большыя дасягненьні ў рабоце гэтага колгасу.

---

В. Міхайлоўская

# Програма да вывучэньня дзіка-растучых расьлін на БССР і спосабы іх гэрбарызацыі

Магутныя тэмпы соцыялістычнай перабудовы нашай краіны, завяршэньне фундаманту соцыялістычнай экономікі даюць пэўны кірунак рабоце навукова-дасьледчых установ, якая павінна быць накіравана на дапамогу і ўзмацненьне соцыялістычнага будаўніцтва. Шпаркі рост соцыялістычнай сельскай гаспадаркі высоўвае на першы плян рад проблем, і сярод гэтых проблем адной з асноўных, у ўмовах БССР, з прычыны спэцыялізацыі яе, як буйнога раёну жывёлагадоўлі і тэхнічных культур, зьяўляецца пытаньне ўздыму ўраджайнасьці. Пасеўная плошча пад тэхнічнымі культурамі за апошні год значна павялічылася, апрача таго значныя плошчы ральлі заняты іншымі палявымі культурамі, дзякуючы чаму пытаньне ўзьняцьця ўраджайнасьці колгасных і савгасных палёў набывае вялізарнейшае значэньне.

Пасьпяховае вырашэньне проблемы жывёлагадоўлі непадзельна зьвязана з стварэньнем моцнай кармовай базы, што, у першую чаргу, выражаецца ў выяўленьні прыроднай кармовай плошчы (прыродныя лугі), яе магчымасьцяў і недахопаў,—правільнай організацыі на гэтых участках лугавой гаспадаркі; па-другое,—у стварэньні культурных кармовых плошчаў.

У галіне прамысловасьці стварэньне сыравіннай базы—найбольш сур'ёзнае і адказнае пытаньне; разам з тым набывае актуальнае значэньне выяўленьне новай, яшчэ нескарыстанай унутраной сыравіны.

У вырашэньні ўсіх гэтых пытаньняў значную ролю адыгрывае расьліннасьць, якая зьяўляецца адным з галоўных гаспадарчых фактараў кожнай краіны, набываючы асаблівае значэньне ў галіне сельскай гаспадаркі.

Уздым ураджайнасьці, напр., у значнай ступені залежыць ад засьмечанасьці нашых палёў, ад складу пустазельнай флёры і колькасьці сьметнякоў на пасеўную адзінку. Дасканалае вывучэньне дасьць нам пэўныя магчымасьці бязьлітаснага змаганьня з расьліннымі шкоднікамі і ачысьціць палі ад пустазельля. Паляпшаючы ўмовы разьвіцьця палявых культур, мы тым самым актыўна змагаемся за ўзьняцьце ўраджайнасьці.

Аб значэньні расьліннасьці для жывёлагадоўлі гаварыць ня прыходзіцца, расьліннасьць зьяўляецца адным з галоўных фактараў існаваньня жывёлін.

Прамысловасьць шырока выкарыстоўвала і выкарыстоўвае расьліннасьць і для некаторых яе галін расьліны зьяўляюцца асноўнай сыравіннай базай.

З усяго прыведзенага вышэй зразумела тая значная роля, якую адыгрывае расьліннасьць у гаспадарчым жыцьці краіны, але трэба сказаць, што яна выкарыстана яшчэ ня цалкам і выяўленьне гэтых вялізарных і нескарыстаных расьлінных рэсурсаў зьяўляецца адным з актуальных пытаньняў дня. Усё гэта мімаволі накіроўвае думку на тое, што вывучэньне дзікай расьліннасьці БССР—неадкладная і першачарговая задача, якая дасьць нам магчымасьць выяўленьня і скарыстаньня новых відаў расьліннай сыравіны для нашай прамысловасьці і сельскай гаспадаркі.

Вывучаючы прыроднае расьліннае акрыцьцё, мы можам паставіць сабе дзьве задачы:

1) вывучэньне „флёры", г. зн. асобных расьлінных відаў, распаўсюджаных на тэрыторыі якога-небудзь раёну,—яго флёрыстычнае вывучэньне і

2) вывучэньне „расьліннасьці". У гэтым апошнім выпадку об'ектам дасьледваньня будуць не асобныя віды расьлін, але прыродныя іх групоўкі так зв. „фітоцэнозы", згуртаваньні (напр., фітоцэнозы лесу, балотныя, лугавыя і г. д.). Дасьледуючы фітоцэнозы раёну ў злучнасьці з умовамі іх месцабытаваньня, мы тым самым праводзім яго геоботанічнае вывучэньне.

З гэтых дзьвюх задач флёрыстычнае дасьледваньне і вывучэньне зьяўляецца асноўным і першапачатковым, бо, ня ведаючы расьлін, якія ўваходзяць у склад прыродных груповак, вельмі цяжка, нават і зусім немагчыма, вывучаць фітоцэнозы. Адсюль выцякае неабходнасьць пачынаць вывучэньне прыроднага расьліннага акрыцьця з дасьледваньня складу флёры краіны.

Карыснасьць гэтага вывучэньня пацьвярджаецца тым фактам, што расьліннасьць зьяўляецца паказчыкам ня толькі экономічных умоў месцабытаваньня, але разам з тым паказчыкам гаспадарчага стану неабходных для нас ужыткоўнасьцяў.

Сапраўды, калі мы, вывучаючы флёру алювіяльных лугоў якога-небудзь раёну, знаходзім, што большасьць участкаў прадстаўлена сенажацямі з перавагай буйных асок (Carex gracilis, Carex vulpina), хвашчом (Equisetum limosum), лотаці (Caltha palustris) і г. д., дык можам сказаць, што гэтыя ўчасткі патрабуюць адпаведнага палепшаньня з боку гаспадара, бо ў такім стане яны дадуць хаця і значныя па колькасьці масы сена, але кармовая вартасьць апошняга будзе нявысокая.

Калі мы, вывучаючы флёру другога тыпу кармовых плошчаў—мурожнага лугу, заўважаем у яго складзе значную колькасьць сіўца (Nardus stricta), гэта будзе яскравым довадам таго, што мы маем справу з глебай, урадлівасьць якой самая мінімальная, дзякуючы таму, што амаль зусім адсутнічае перагнойны горызонт, а ёсьць толькі адна шчыльная, непрагніўшая лугавая дзярніна. Сена з такой сенажаці нізкай якасьці і, апрача таго, яго вельмі цяжка касіць.

Вывучэньне флёры балота дае таксама практычныя вынікі. На сфагнавым балоце (імшары) будуць праводзіцца іншыя мерапрыемствы, чымся на асаковым; апошнія часта выкарыстоўваюцца насельніцтвам пад сенажаць, праводзячы адпаведныя мерапрыемствы, мы можам у значнай ступені палепшыць якасьць такіх сенажацяў.

БССР у значнай частцы—краіна лясоў і, вывучаючы флёру, мы можам гаварыць аб глебе, урадлівасьць якой дае магчымасьць расьці на ёй толькі адной сасьне з бедным травяным акрыцьцём і багатым дываном з лішаёў (Cladonia silvatica, Cladonia rangiferina ды інш.) і аб

урадлівай глебе шыракаліставага лесу з кісьліцай (Oxalis acetosella) у травяным акрыцьці і г. д.

Вывучэньне поля і яго флёры дае нам магчымасьць азнаёміцца з яго расьліннымі шкоднікамі; кожная культура мае свае адпаведныя пустазельлі, іх колькасьць ня бывае таксама аднолькавай. Ведаючы склад пустазельнае флёры і яе асаблівасьці, мы зможам весьці з ёю належную барацьбу.

Такім чынам, першаю часткаю вывучэньня расьліннасьці будзе флёрыстычнае дасьледваньне.

## I. Флёрыстычнае дасьледваньне, яго задачы і мэтодыка

Мэтаю кожнага флёрыстычнага дасьледваньня зьяўляецца поўнае і дакладнае ўстанаўленьне ўсіх відаў расьлін раёну, гэрбарызацыя іх і складаньне сьпісаў флёры раёну, прычым, неабходна мець на ўвазе, што простае пералічэньне ў сьпісе флёры расьлінных відаў, распаўсюджаных на данай тэрыторыі, дае вельмі мала карысьці. Да сьпісу флёры неабходна дадаваць яшчэ ўсе месцазнаходжаньні данага віду на тэрыторыі, а таксама і ў якой колькасьці расьліна сустракаецца. На аснове такіх сьпісаў можна ў далейшым высьветліць географічную мяжу распаўсюджаньня тэй ці іншай расьліны. Асаблівае значэньне такога батаніка-географічнага падыходу зразумела ўжо таму, што для значнай колькасьці нашых расьлін гэтыя межы да апошняга часу яшчэ ня выяўлены. Апрача таго, на тэрыторыі БССР захаваліся вельмі цікавыя прадстаўнікі мінулага пэрыоду, як, напрыклад: Azalea pontica, Salvinia natans, Trapa natans, Aldrowandia. Знаходкі такіх расьлін неабходна адзначыць на карце.

Флёрыстычнае дасьледваньне карыстаецца экскурсійным мэтодам. У часе такіх ботанічных экскурсій зьбіраюцца ўсе віды расьлін. З гэтага матар'ялу потым будзе складзены гэрбары флёры раёну, які будзе пацьверджаньнем і фактычным навуковым докумэнтам складзенага на аснове дасьледваньняў „Сьпісу флёры раёну“.

Складаньне такіх сухіх колекцый расьлін (гэрбарыю) мае вельмі важнае значэньне ня толькі для вывучэньня флёры тэй ні іншай мясцовасьці, гэрбары зьяўляюцца неабходным пры вывучэньні сыстэматыкі расьлін наогул, пры вывучэньні географічных межаў распаўсюджваньня паасобных расьлін і г. д.

Складаньне гэрбарыю распадаецца на 4 часткі:

1) збор ботанічнага матар'ялу на экскурсіі, экспэдыцыі, 2) сушка і азначэньне сабранага матар'ялу, 3) прывядзеньне гэрбарыю ў парадак і сыстэму, 4) складаньне сьпісаў расьлін, каталёгаў гэрбарыю.

### 1. Збор гэрбарыю

Перад кожнай флёрыстычнай экскурсіяй дасьледчык павінен падрыхтавацца: перш за ўсё трэба азнаёміцца з мясцовасьцю і абраць маршрут. Пры гэтым неабходна правесьці маршрут так, каб закрануць самыя разнастайныя па сваіх умовах месцы. (Для гэтага можна выкарыстаць звычайныя 3-вярстовыя пляншэты Вайскова-топогр. кіраўн.). Калі мясцовасьць добра вядомая, азнаямленьне з картай зьяўляецца неабавязковым. З сабою трэба ўзяць неабходныя рэчы: 1) ботанічную папку з паперай для збору расьлін; 2) капалку і нож; 3) запісную кніжку, аловак і карту; 4) лупу і компас.

Ботанічную папку вельмі лёгка зрабіць самому, узяўшы два лісты шчыльнага картону (50 × 35 см). Картон трэба абшыць якой-небудзь тканінай, з аднаго боку нашыць карман для лапаткі і нажа, запісной кніжкі, карты і алоўка, лупы і компасу. Прарэзаўшы дзіркі, прапусьціць праз іх 2 шнуры для завязваньня і рэмень для носкі за плячыма.


Мал. 1. Ботанічная папка і капалка.

У папку неабходна пакласьці паперу, якую трэба зьлёгку змачыць, каб расьліны даўжэй ня сохлі.

Зьбіраць трэба ўсе віды расьлін, якія спатыкаюцца ў данай мясцовасьці і якія раней ня былі ўзяты, бо паўтараць пры кожнай экскурсіі адны і тыя-ж віды непатрэбна. Пры зборы расьлін трэба карыстацца наступнымі правіламі: выбіраць цэлыя, лепшыя, непапсаваныя экзэмпляры, браць трэба не адзін, а абавязкова 3—5 расьлін, каб заўсёды былі дублеты, неабходныя пры азначэньні, праверцы, абмене расьлінамі. Пры зборы расьліна акуратна выкопваецца цалкам з падглебавымі часткамі—коранем, сьцябло-коранем, якія павінны быць цэлымі, непапсутымі, бо зьяўляюцца важнаю сыстэматычнаю адзнакаю. Выкапаўшы, трэба старанна ачысьціць расьліну ад зямлі, калі ёсьць паблізу крыніца—абмыць. З зямлёю гэрбарны экзэмпляр будзе мець няпрыглядны выгляд і апрача таго ён можа зжаўцець пры сушцы.

Далей расьліна кладзецца спачатку ў аркуш паперы, прычым папера павінна быць непраклееная (можна звычайнай газэтнай) і зложана так, як паказана на малюнку 2.

Калі расьліна невялікая, яна кладзецца ў сярэдзіну ліста цалкам, у тым выпадку, калі мы маем справу з вялікім экзэмплярам, яго трэба сагнуць, часам у 2-3 разы. Калі расьліна занадта вялікая, бяруць ад яе верхнюю частку з кветкамі і суквецьцямі, сярэднюю з лісьцямі і ніжнюю—з коранем і прыкаранёвымі лісьцямі—усе характэрныя часткі расьліны.


Мал. 2. Аркуш з закладзенай у яго расьлінай.

Выкапаную расьліну неабходна закласьці ў паперу, а потым у папку, хутчэй, пакуль яна яшчэ сьвежая і яе лёгка добра выправіць, што абавязкова для таго, каб атрымаць добры гэрбарны экзэмпляр. У многіх падручніках па гэрбарызацыі прапануецца ў аркуш з закладзенай расьлінай укласьці этыкетку з весткамі адносна гэтай расьліны,

якая па сутнасьці зьявіцца яе пашпартам. У далейшым, пры сушцы і разборцы такія паперкі вельмі лёгка губляюцца, таму я прапаную другі мэтод, які заўсёды з посьпехам ужываецца мною пры геоботанічных дасьледваньнях. З боку аркуша з расьлінаю ставіцца чарговы нумар, а ў запісной кніжцы запісваюцца весткі ў наступным парадку:

| Чарговы № | Назва расьліны | Месцазнаходжаньне і месцабытаваньне | Числo збору |
|---|---|---|---|
| 1 | Centaurea cyanus | Жыта каля в. Шчаткова Бабруйскага рёану. | 22-VII-1931 г. |
| 2 | Antennaria dioica | Хваёвы лес у $^1/_2$ км на ўсход ад в. Казіміраўка, Менскага раёну. | 12-VII-1931 г. |

Пры палявых запісах назвы расьлін могуць быць недакладнымі, умоўнымі, у далейшым, пры азначэньні, яны будуць выпраўлены.

Такімі спосабамі карыстаюцца пры зборах нашых звычайных сухаземных расьлін, падводныя расьліны вельмі далікатныя, яны вымагаюць іншых спосабаў збору. Для гэтага часьцей за ўсё бяруць аркуш звычайнай пішчай паперы і пад вадою, на глыбіні прыблізна 1-2 см, кладуць на яго вадзяную расьліну, якая вельмі добра распраўляецца ў вадзе, пасьля чаго аркуш асьцярожна вымаюць з вады і кладуць у папку. Пры сушцы расьліна прыстае да паперы і ў такім выглядзе разам з аркушам паступае ў гэрбары.

У складзе нашай флёры маецца цэлы рад расьлін, для збору якіх неабходна яшчэ дадаць некаторыя заўвагі—гэта будуць лозы (Salix), таполі (Populus), ляшчына (Corylus avellana), вольхі (Alnus), маліны (Rubus), шыпшына (Rosa), ястрабкі (Hieracium), званец (Alectorolophus), цяцюшнік (Euphrasia), род Carex—асокі.

*Род Salix—лозы.* Віды гэтага роду ўтвараюць у прыродзе цэлы рад формаў, дзякуючы чаму правільнае іх азначэньне залежыць ад паўнаты і правільнасьці сабранага матар'ялу. Красуюць лозы раньняю вясною, калі яшчэ не распусьціліся лісьці і дзякуючы гэтаму збор іх прыходзіцца паўтараць 2 разы. Для гэтага робяць так: перад экскурсіяй рыхтуюць драўляныя ярлычкі з намаляваным нумарам (трэба толькі зрабіць так, каб № ня змыўся). Ярлычок прымацоўваюць да таго дрэва, з якога ўзята кветаносная галінка, а ў запісной кніжцы рысуецца схематычны плян мясцовасьці, дакладна адзначаецца палажэньне куста і месца, дзе знаходзіцца ярлычок.

Другі збор галінак з лісьцямі робіцца ў ліпні, прычым бяруцца галінкі з падоўжанымі і пакарочанымі цэўкамі. Пры зборы таксама прыходзіцца памятаць, што лозы—рознапнёвыя расьліны, жаночыя і мужчынскія кветкі-сярожкі знаходзяцца на розных кустох і дзеля таго для кожнага віду збор павінен адбывацца з двух кустоў—мужчынскага і жаночага. Таксама зьбіраюцца таполі, ляшчына і вольхі.

*Маліны—Rubus.* Магчыма дакладна азначыць толькі тады, калі ўзяты ў гэрбары пакарочаныя гадавалыя кветканосныя галінкі і падоўжаныя парасткі гэтага году бяз кветак, бо яны маюць неаднолькавую форму лісьцяў і калючак, што зьяўляецца важнаю сыстэматычнаю азнакай пры азначэньні відаў.

*Шыпшыны—Rosa*—у асноўным зьбіраюцца таксама, як і маліна, але для дакладнага азначэньня відаў неабходна яшчэ зьбіраць галінкі з пладамі; такім чынам, часта збор прыходзіцца паўтараць 2 разы.

*Віды Hieracium*—ястрабкі вельмі цяжка азначаюцца, бо ўтвараюць многа формаў. Для гэрбарыю лепш за ўсё выбіраюць расьліны з вялікіх шчыльных груп, сярод якіх часта захоўваецца адна якая-небудзь форма. Выкопваць трэба асьцярожна дзеля таго, што ястрабкі маюць вельмі далікатныя падглебавыя часткі, якія зьяўляюцца вельмі важнымі пры азначэньні. Зьбіраць лепш за ўсё ўдзень, калі адкрыты ўсе кветкі ў кошычках. Браць у гэрбары трэба ня менш 10—12 расьлін.

*Званец (Alectorolophus) і цяцюшнік (Euphrasia)* характарызуюцца сэзонным дыморфізмам—адны віды красуюць вясною і раньнім летам, другія летам і восеньню. Дзеля таго неабходна ўважліва адзначаць час збору.

*Асокі—Carex.* Азначэньне асок, галоўным чынам, грунтуецца на пладох, дзякуючы гэтаму для дакладнага азначэньня іх відаў неабходна рабіць зборы 2 разы—з кветкамі і пладамі. Апрача таго пры выкопваньні сьцябло-кораняў неабходна прасачыць за тым, каб яны былі цэлымі, непапсаванымі.

## Збор імхоў, лішаёў, грыбоў

Імхі зьбіраюцца абавязкова з каробачкамі, пабудова якіх зьяўляецца важнаю сыстэматычнаю азнакаю. Вадзяныя імхі зьбіраюцца таксама як і вадзяныя расьліны, іх кладуць і распраўляюць на аркушы паперы пад вадою. Для кожнага віду неабходна браць дзярнінку і некалькі паасобных сьцябельчыкаў (5—20). Сабраныя дзярнінкі пад адпаведным нумарам запісваюцца ў запісную кніжку, закладаюцца спачатку ў паперу, а потым у папку. Сушацца таксама як і вышэйшыя кветкавыя.

Лішаі бываюць кусьцістыя, пласткаватыя і коркавыя.

У сухое надвор'е яны робяцца вельмі крохкімі, дзеля чаго іх цяжка гэрбарызаваць. Лепш за ўсё зьбіраюць іх у вільготную пагоду. Буйныя віды лішаёў сушацца як вышэйшыя расьліны, дробныя бяруцца абавязкова разам з субстратам—кавалкам кары, каменьнем і г. д.

Дробныя паразытныя і сапрофітныя грыбы, якія разьмяшчаюцца на лісьцях, галінках, расьлінах і ўтвараюць на іх іржу—шараватыя, белаватыя, або мучністыя налёты, плямы рознай афарбоўкі і г. д., бяруцца разам з гэтай расьлінай. Без азначэньня паражонай расьліны немагчыма і поўнае азначэньне грыба. У гэрбары бярэцца паражоная грыбам галінка і сушыцца, як і кветкавыя.

Дрэўны грыб (губка) зьбіраецца цалкам, заварачваецца ў паперу з нумарам і запісваецца ў кніжку, дзе і на якім дрэве знойдзены. Для колекцый іх звычайна сушаць, потым у далейшым, каб яго не папсавалі шасьціножкі, пражыўляюць рошчынам сулямы ў сьпірытусе і высушваюць. Захоўваюць у спэцыяльных скрыначках.

Мясістыя грыбы зьбіраюцца на экскурсіі ў асобную скрыначку, прычым выбіраюцца самыя лепшыя, здаровыя экзэмпляры. Іх неабходна на першы час старанна агарнуць у вільготны мох або ў мяккую вільготную паперу. Па звароце дамоў іх трэба хутка азначыць, калі гэта немагчыма—намаляваць іх у сшытку, бо пры консэрваваньні яны зьмяняюць сваю прыродную афарбоўку. Консэрвуюць у 2-процантным рошчыне сулямы.

## 2. Сушка і азначэньне расьлін

Пасьля звароту з экскурсіі дасьледчык павінен неадкладна заняцца разборкай сабранага матар'ялу; калі ёсьць вольны час і матар'ялу не занадта многа, можна прыступіць да азначэньня расьлін, пакуль яны яшчэ сьвежыя. Калі гэтага часу няма, неабходна закласьці сабраныя расьліны ў сушыльныя прэсы.

Перш за ўсё расьліну старанна распраўляюць пінцэтам, бо ад гэтага залежыць прыгожасьць і якасьць гэрбарнага экзэмпляру. Расьліну з распраўленымі кветкамі і лісьцямі кладуць у сярэдзіну аркуша паперы з адпаведным запісу ў кніжцы нумарам. На сушыльную рамку кладзецца аркуш або два перагнутай напалам (па разьмеры рамкі) газэтнай або звычайнай абёртачнай паперы, якую мы называем сушыльнай паперай. На сушыльную паперу кладзецца аркуш з расьлінай, паверх якога зноў такі кладзецца аркуш сушыльнай паперы і г. д., пакуль сетка ня будзе напоўнена. Тады сетку моцна зьвязваюць вяроўкай або зацягваюць рэменем і ставяць на рабро на цёплую печ або вывешваюць на плот, на сонца і вецер. Пры закладцы расьлін неабходна дбаць, каб у адну папку ўвайшлі больш-менш аднолькавыя расьліны, каб яны раўней сохлі. Паміж мхамі і тоўстымі сакавітымі расьлінамі неабходна рабіць пракладку з некалькіх аркушоў сушыльнай паперы. Гэтай пракладцы расьліны аддаюць сваю вільгаць і яе неабходна мяняць, спачатку 2 разы ў дзень, потым, калі расьліны падсохнуць, — радзей. Мяняць вільготную паперу неабходна дзеля таго, што расьліна сярод вільготнай паперы сапрэе, страціць сваю прыродную афарбоўку, ад чаго ў значнай ступені пагоршыцца вартасьць гэрбарнага экзэмпляру.

Гэрбарныя сеткі, неабходныя для гэтай опэрацыі, можна даць зрабіць кожнаму століяру. Для гэтага робяцца дзьве драўляныя рамкі (55×35 см) з драўлянай-жа пракладзінай. На рамку нацягваецца сетка з меднага дроту (мал. 3).


Мал. 3. Сетка для сушкі гэрбарыю.

Сярод нашай расьліннасьці ёсьць некалькі расьлін, якія вымагаюць іншых спосабаў сушкі. Расходнік (Sedum), скочкі (Sempervivum), зязюлькі (Orchis), потым сьліўшаня многакветная (Monotropa hipopitis), таемнік лускаваты (Lathraea squamaria) вельмі доўга і дрэнна сушыцца. Каб паскорыць процэс сушкі, рэкомэндуецца апускаць іх мінут на 5 у гатаваную ваду, прычым у Sedum і Orchis апускаюцца толькі зялёныя часткі, мінут на 2-3, Sempervivum Lathraea і Monotropa апускаюцца цалкам, разам з кветкамі на 5 мінут. Гэта дае магчымасьць хутчэй і лепш высушыць расьліну і ў той-жа час забясьпечвае яе ад загніваньня.

Расьліны з тоўстымі сакавітымі сьцяблямі і наогул з мясістымі часткамі вымагаюць перад сушкай некаторай падрыхтоўкі—іх тоўстыя часткі разразаюцца ўздоўж, з клубянёў і цыбулін выразаюцца папя-

рочныя і прадоўжныя плястынкі, якія кладуцца на аркуш паперы разам з расьлінаю для сушкі.

Гэрбарызацыя галінак іглястых парод ускладняецца тым, што пры сушцы звычайна адпадаюць іглíцы (напр., у сасны, елкі). Каб папярэдзіць гэтую зьяву, неабходна апусьціць галінку ў вар або сьпірытус. Можна пакласьці галінку ў рэдкі рошчын вады і сталярнага клею (па парадзе проф. Растоўцава трэба пакласьці плітку ў 4 кв. см на 1 шклянку вады). Пасьля таго, як клей абсохне, галінку кладуць ненадоўга пад прэс.

Пры сушцы вельмі часта зьмяняецца блакітная і сіняя афарбоўка кветак (у валошкі-васілька, званкоў). Такія расьліны можна высушваць прасаваньнем, прагладжваючы іх у сушыльнай камэры на гладзільнай дошцы. Бывае, што блакітны колер кветкі зварочваецца пры змачваньні яе 8-працантным рошчынам азотнай кіслаты, але гэта апраўдваецца далёка незаўсёды.

Падсохлыя, але яшчэ ня зусім гатовыя расьліны, потым з агульнай сеткі выбіраюцца ў другую, пракладаюцца сухою сушыльнаю паперау і там дасыхаюць. Добра высушаная расьліна трымаецца проста, ні галоўкі кветак, ні адзін з яе лісткоў не павінны зьвісаць. Калі сетак дастатковая колькасьць, лісты з сухімі расьлінамі можна трымаць там, калі сетак не хапае, нават і для сушкі расьлін (што здараецца часьцей за ўсё), трэба ўважліва адабраць гатовыя, сухія расьліны і завязаць іх паміж дзьвюма фанернымі дошчачкамі або двума аркушамі цьвёрдага і шчыльнага картону. У далейшым, каб мець права называцца „гэрбарным экзэмплярам", такая расьліна павінна быць яшчэ азначана і монтыравана.

Апрача гэтага звычайнага і найбольш простага спосабу сушкі расьлін існуюць і другія—сушка ў ватных матрасіках, сукне, пяску, але тут гэтых спосабаў сушкі я закранаць ня буду і пераходжу да азначэньня расьлін.

Пры азначэньні сухіх расьлін часта бывае неабходна размочваць сухія часткі, звычайна кветкі, для таго, каб лёгка было разглядзець яе пабудову. Для гэтага адламаем кветку ад расьліны і кладзем яе ў звычайную прабірку або лыжку з вадою, якую падаграваем на сьпіртоўцы. Размочаныя часткі распраўляюцца іглою на шкле і разглядаюцца пад лупаю. Тэхніку далейшага азначэньня я тут прыводзіць ня буду, бо яе знайсьці можна самому ў кожным азначальніку, а замест гэтага прывяду сьпіс неабходнай літаратуры па азначэньню. Калі дасьледчык зусім не знаёмы з батанікай, я лічу неабходным хаця-б самае павярхоўнае азнаямленьне з навукаю аб расьлінах. Для гэтага можна рэкомэндаваць курсы батанікі Барадзіна, Страсбургера, Пурыевіча.

Прыступаючы для азначэньня, трэба браць спачатку найбольш вядомыя расьліны, з найбольш простымі, буйнымі выразнымі кветкамі і толькі пасьля некаторай практыкі пачынаюць азначэньне расьлін зусім невядомых. Для азначэньня можна прапанаваць наступныя падручнікі:

1. Маевский—„Флора средней России", апошняе выданьне.
2. Ён-жа—„Весеняя флора средней России".
3. „ „Осенняя флора".
4. „ „Злаки средней России".
5. Талиев—„Определитель высших растений Европейской части СССР".
6. Б. А. Федченко и А. Ф. Флеров—„Флора Европейской России, Крыма и Кавказа".

7. Шмальгаузен—„Флора средней и южной России, Крыма и Сев. Кавказа“ У, II т.

8. Вольф и Полибин—„Определитель деревьев и кустарников России, Крыма и Кавказа“.

9. Ростовцев—„Определитель растений для школ и самообразования“.

10. Ён-жа—„Пособие для определения паразитных грибов по растению-хозяину“.

11. Ячевский—„Определитель грибов“ (2 т).

12. Ануфриев—„Определитель главнейших болотных и лесных мхов“.

У заключэньне азначаныя экзэмпляры забясьпечваюцца этыкеткаю, на якой павінна быць запісана наступнае: № расьліны па парадку ў гэрбары, сямейства, род і від расьліны, яе месцазнаходжаньне і месцабытаваньне. Затым абавязкова дата збору, прозьвішча зборшчыка і таго, хто азначыў расьліну. Прыклад такой гэрбарнай этыкеткі паказаны ніжэй.

**Расьліннасьць БССР**

№ ..........

*Leontodon hispidus L.* ..........

Аршанская акруга ..........

*в. Дубавое. Сухадольная сенажаць* ..........

19 $\frac{19}{VI}$ 27 *М. Прахін*

**M. Priachin.** Plantae Belorussiae.

Мал. 4. Этыкетка для гэрбарнага экзэмпляру.

Пасьля гэтага расьліна лічыцца навукова-апрацаванай, але для таго, каб у далейшым увайсьці ў склад гэрбарыю, яна патрабуе яшчэ апрацоўкі тэхнічнай—монтыроўкі.

### 3. Складаньне гэрбарыю і прывядзеньне яго ў сыстэму

Для монтыроўкі расьлін спачатку рыхтуюць паперу. Нянадта тонкую паперу разразаюць спачатку на аркушы прынятага ў гэрбарні фармату (звыч. 45×35 см). На аркуш кладуць расьліну, калі яна вялікая—тады адну, маленькіх—некалькі. Дробненькай крупкі веснавой (Draba verna) прыходзіцца класьці нават 10—15 экзэмпляраў. Расьліны прымацоўваюцца да аркуша вузенькімі палосачкамі намазанай гумі-арабікай паперы, а калі яны надта вялікія, або маюць тоўстае сьцябло, тады падшываюцца, прычым нітка завязваецца з адваротнага боку аркуша. Расьліны і імхі, якія сабраны дзярнінкамі, таксама падшываюцца, імхі вельмі прыгожа падшываць зялёнай шаўкавінкай. З пра-

вага боку, у ніжнім куточку, падклейваецца этыкетка, і аркуш з мантыраванаю расьлінаю ўкладаецца ў сярэдзіну другога—вокладкі.

Вокладка неабходна для таго, каб у далейшым, пры паступленьні ў гэрбары, расьлін аднаго роду і віду злучаць у аднэй вокладцы. У левым ніжнім кутку вокладкі ставіцца выразна напісаная назва расьліны з дадаткам аўтара, напр., Ranunculus acer L (Лінэй). Аўтара неабходна ставіць і на этыкетцы, побач з назваю расьліны; таксама цікавым будзе дадатак на этыкетцы мясцовай назвы.



Мал. 5. Гэрбарны экзэмпляр.

Монтыраваная і азначаная расьліна называецца „гэрбарным экзэмплярам“.

Складаньне гэрбарыю з усяго апрацаванага матар‘ялу неабходна пачынаць з разборкі расьлін спачатку па сямействах, унутры кожнага сямейства па родах, унутры роду — па відах. Віды аднаго роду злучаюцца ў адну вокладку, у левым верхнім кутку якой становіцца назва сямейства, да якога належыць род, а ў левым ніжнім—назва роду. Віды і роды ўнутры сямейства можна разьмяшчаць у альфабэтным парадку; а разьмяшчаць сямействы можна ў парадку, які прыняты ў азначальніку.

Апрацаваныя сямействы ўкладаюцца ў картонныя папкі па парадку, на папцы ставіцца яе чарговы нумар, а на ярлычку пішацца сямейства, якое знаходзіцца ў папцы. Калі сямействы невялікія, іх можна некалькі злучыць у папку, пералічыўшы іх на ярлычку.

Сямействы ўнутры папкі адмяжоўваюцца няшырокімі палоскамі паперы з надпісам. Папкі па парадку разьмяшчаюцца ў гэрбарнай шафе.

Як аснову, неабходна мець адзін агульны гэрбары флёры мясцовасьці, унутры гэтага гэрбарыю расьліны разьмяшчаюцца ў сыстэматычным парадку. З дублетаў можна зрабіць яшчэ спэцыяльныя гэрбарыі, напр., гербары пустазельнай флёры, гэрбары карыснай флёры (лекавыя расьліны, тэхнічныя—дубіцелі, фарбоўныя, прадзільныя і г. д.), гэрбары флёры лугоў, лясной флёры і г. д.

У заключэньне трэба яшчэ дадаць некалькі слоў аб захоўваньні гэрбарыю. Праз некаторы час у гэрбары могуць завесьціся шасьціножкі, жучкі, лічынкі якіх вельмі псуюць гэрбары. Для барацьбы з гэтымі шкоднікамі ўжываецца атручваньне гэрбарыю серкавугляродам у асобных скрынках. Апрача гэтага можна практыкаваць пера-



Мал. 6. Гэрбарная шафа.

сыпку лістоў гэрбарыю нафталінай, што зьяўляецца больш простым способам.

### 4. Складаньне сьпісаў расьлін гэрбарыю (каталёгаў)

Складаньне сьпісаў расьлін у гэрбарыі, каталёгізацыя, зьяўляецца заключнай часткай работы. Для большай практычнасьці некаторыя з ботанікаў (проф. Растоўцаў) раяць зрабіць два каталёгі — адзін рухомы альфабэтны карткавы каталёг, які вельмі выгодны для ўстанаўленьня таго — ёсьць ці няма даная расьліна ў гэрбары. Можна зрабіць карткавы каталёг у тым парадку, у якім распаложаны гэрбары. У тым і ў іншым выпадку карткавы каталёг выгодны дзеля таго, што колькасьць расьлін у гэрбары з часамі павялічваецца і для рэгістрацыі вельмі выгодна пакласьці на адпаведнае месца ў карткавым каталёгу спэцыяльна напісаную картку паступіўшай у гербары расьліны. На такіх картках абавязкова пісаць ня толькі назву расьліны, але і наступныя весткі: месцазнаходжаньне, месцабытаваньне, час збору і мясцовую назву. Другі каталёг — хронолёгічны, у яго запісваюцца расьліны па меры паступленьня і ўкладаньня ў гэрбары, прычым вядзецца рэгістрацыя гэрбарных экзэмпляраў.

У заключэньне прывяду кароткі сьпіс літаратуры па флёры БССР, якую вельмі карысна прачытаць:

Пачоский — „Флора Полесья и прилегающих местностей“.

Пашкевич — „Очерк флоры цветковых Минской губ“.

Медиш — „Список растений окр. г. Минска“. Запіскі Бел. С. Х. Академии.

Георгиевский — „Древесные и кустарниковые породы, произростающие на БССР“ — там-жа.

О. Полянская — „Склад флёры Беларусі“, выд. БАН 1931 г.

На гэтым я заканчваю апісаньне мэтодыкі першай стадыі вывучэньня расьліннага акрыцьця — флёрыстычнага дасьледваньня і пераходжу да наступнай тэмы — мэтодыкі геоботанічнага вывучэньня.

## II. Геоботанічнае вывучэньне

Пасьля таго, як склад флёры дасьледванай мясцовасьці (раёну) будзе больш-менш ужо вядомым, можна прыступіць да больш глыбокага і ўсебаковага вывучэньня расьліннасьці. Расьліннае акрыцьцё нашай краіны не зьяўляецца чымсьці выпадковым, зусім наадварот, мы маем у прыродзе цэлы рад законамерных прыродных груповак расьліннасьці, якія характарызуюцца пэўным складам, пэўнымі экономічнымі ўмовамі. Лес, луг, балота зьяўляюцца прыкладамі буйных прыродных груповак, якія ў навуцы аб расьлінным акрыцьці называюцца *формацыямі*, формацыя лясная, балотная, лугавая. Гэтыя буйныя групоўкі расьліннасьці ўнутры сябе не зьяўляюцца аднароднымі, дзякуючы неаднароднасьці эколёгічных умоў, а распадаюцца, у сваю чаргу, на цэлы рад больш дробных асноўных адзінак, якія называюцца згуртаваньнямі, фітоцэнозамі.

Такім чынам, нашай задачай, у першую чаргу, зьяўляецца дасьледваньне і вывучэньне ўнутры формацыі яе асноўных адзінак, іх фізыономіі, складу і эколёгічных умоў.

Першаю неабходнаю ўмоваю для геоботанічных дасьледваньняў зьяўляецца знаёмства з мясцоваю флёрай, бо іначай сьпісы зарэгістраваных у фітоцэнозах расьлін будуць няпоўнымі, недакладнымі.

Абавязковаю ўмоваю зьяўляецца азнаямленьне з літаратурай, якая маецца па флёры данай мясцовасьці, каб не паўтараць ужо сказанага і не рабіць таго, што ўжо зроблена. Апрача літаратуры па флёры пажадана азнаямленьне з адпаведнай літаратурай па глебам, геолёгіі, геоморфолёгіі, клімату раёну, што будзе вельмі карысным для работы і бязумоўна адаб'ецца на яе якасьці.

Апрача таго карысным, нават і неабходным, будзе азнаямленьне з картаграфічным матар'ялам гэтай мясцовасьці і ўстанаўленьне цэлага раду маршрутаў, якія неабходна зрабіць, каб закрануць самыя рознастайныя па сваім эколёгічным умовам месцы. Для гэтай мэты карыстаюцца звычайнымі трохвярстовымі пляншэтамі, выданьня Вайскова-топограф. кіраўніцтва.

Мінімум экіпіроўкі для правядзеньня геоботанічнага маршруту заключаецца ў ботанічнай папцы з паперай, лапаткай і нажом, затым карце, алоўку з запісной кніжкай, компасу і лупе. Апрача таго бярэцца мэтар і лапата для капаньня глебавых ям.

Адным з асноўных момантаў пры геоботанічных дасьледваньнях зьяўляецца дакладнае і правільнае ўстанаўленьне асноўных прыродных груповак расьліннасьці, яе фітоцэнозаў, бо ня ўсякі сьпіс расьлін якога-небудзь участку будзе сьпісам расьлін фітоцэнозу. Каб не памыляцца пры далейшых работах, проф. Алехін прапануе зрабіць цэлы рад спэцыяльных маршрутаў, каб навучыцца распазнаваць згуртаваньні. „Мы тады ўбачым,—кажа проф. Алехін,—што луг складзены не з аднаго такога згуртаваньня, а з значнай колькасьці гэтых апошніх, што балота ня ёсьць адно згуртаваньне, а цэлая іх група“...

Сапраўды, узяўшы такім прыкладам луг, мы нават і пры самым павярхоўным нагляданьні заўважаем цэлы рад зьмен расьліннасьці, якія адбываецца на зусім нязначных прасторах. Аглядаючы луг з якога-небудзь найбольш высокага пункту, мы ўбачым яркую плямістасьць травянога акрыцьця — цёмна-зялёныя плямы асок, бела-жоўта-ружовыя—рознатраўя, шэра-зялёныя і бураватыя—злакаў. Усё гэта будуць участкі лугавых згуртаваньняў (фітоцэнозаў), і ўтвараюцца яны дзякуючы розным эколёгічным умовам. Лугавая тэрыторыя (даліна ракі) звычайна мае хвалісты рэльеф, гэтая хвалістасьць і можа выклікаць тут цэлы рад расьлінных згуртаваньняў, што ў сваю чаргу і абумаўляе стракатасьць у расьлінным акрыцьці лугу. У западзінах паміж узвышэньнямі звычайна высока стаіць вада—у такіх умовах разьвіваецца адпавядаючая расьліннасьць—асокі, хвошч, бабок, лотаць, яны ўтвараюць згуртаваньне асок (Caricetum). Пры павышэньні мясцовасьці колькасьць асакі будзе зьмяншацца і ў умовах сярэдняга роўню пануючым элемэнтам расьліннасьці будуць злакі; яшчэ вышэй на сухіх і высокіх участках распалагаецца згуртаваньне злакава-рознатраўнага або чыста-рознатраўнага складу. Такія ўчасткі звычайна маюць нявысокія травастоі з частымі праплешынкамі.

Кожная такая групоўка расьліннасьці мае сваю адпаведную фізыономію і такая яе „фізыономічнасьць“ зьяўляецца характэрнаю азнакаю згуртаваньня. Другою такою-ж важнаю азнакаю згуртаваньня зьяўляецца яго флёрыстычны склад і трэцяе—умовы росту—адпаведныя эколёгічныя абставіны.

Такім чынам, згуртаваньне характарызуецца адпаведнай фізыономічнасьцю, пэўным флёрыстычным складам і эколёгічнымі ўмовамі. Цяпер скажам некалькі слоў адносна самага вывучэньня згуртаваньня.

Існуе некалькі мэтодаў, але найбольш простымі і найбольш шырака выкарыстоўваемымі зьяўляюцца два мэтоды, якія праводзяцца

проф. Алехіным і Сырэйшчыкавым у іх „Методике полевых ботанических исследований“, калі згуртаваньні апісваюцца ў сваіх прыродных межах. Другі мэтод грунтуецца на штучна выдзеленых невялікіх пробных—пляцоўках.

У тым і другім выпадку апісаньне неабходна пачынаць з наступнага: запісваецца географічнае палажэньне мясцовасьці (раён, вёска і г. д.), макрорэльеф (агульны, для ўсёй мясцовасьці) і мікрорэльеф (унутры самога згуртаваньня, напр., яго куп'яватасьць, прысутнасьць западзін і г. д.), характар глебы (на аснове глебавай ямы) і назва згуртаваньня. Неабходна запісаць і нумар апісаньня па парадку і дату.

Далей поўнасьцю запісваецца флёрыстычны склад, прычым запісваюцца ня толькі тыя расьліны, якія знаходзяцца ў часе красаваньня, але і тыя, якія маюць толькі вэгетацыйныя часткі (напр., розэткі, лісьці і г. д.). У сьпіс заносяцца толькі тыя расьліны, якія дасьледчыку добра вядомы, няпэўныя і невядомыя запісваюцца ўмоўна і абавязкова зьбіраюцца ў гэрбары для азначэньня. Калі трапляюцца рэдкія расьліны, іх таксама трэба забраць у гэрбары.

Пры апісаньні флёрыстычнага складу лепш за ўсё запісваць расьліннасьць па паверхах. Напр., у лесе мы адрозьніваем мінімум 3 паверхі—1 паверх—дрэўная расьліннасьць (сюды ўваходзяць падрост і падлесак), 2 паверх—травяністае акрыцьцё і 3—імхі.

На лузе звычайна адрозьніваюць 2 паверхі—1 паверх і 2—падсед, часам бывае 3, 4 паверхі травяністай расьліннасьці на лузе.

Вельмі карысна яшчэ падзяляць травяністую расьліннасьць на 1) злакі, 2) асокі, 3) бабовыя і 4) featureнатраўе, што мае асаблівае значэньне пры апісаньні лугавых згуртаваньняў.

Аднак, такое простае пералічэньне расьліннасьці зьяўляецца зусім недастатковым, для паўнаты неабходна яшчэ дадаць колькасьць і распаўсюджанасьць на тэрыторыі паасобных відаў. Для гэтай мэты часьцей за ўсё карыстаюцца сыстэмаю Drude, ужываючы так зван. „кваліфікацыю расьлін па Drude“. Гэтая сыстэма заключаецца ў наступным:

Знакамі: cop (copiosae) выдзяляюцца расьліны, якія сустракаюцца ў значнай колькасьці, але фону не даюць. Часам выдзяляюцца яшчэ $cop^1$, $cop^2$, $cop^3$ у залежнасьці ад колькасьці.

Sp (Sparsae)—расьліны сустракаюцца раскідана.

gr (gregarieae)—групамі.

sol (solitarieae)—адзінкава, у малой колькасьці.

un (unicum)—адзін экзэмпляр на вучастак, вельмі рэдка.

У заключэньне апісаньня неабходна даць азначэньне, клясыфікаваць згуртаваньне. Звычайна згуртаваньню даецца назва па тэй расьліне, якая грае дамінуючую ролю. У лесе такое значэньне мае дрэўная расьліннасьць, дзякуючы чаму ў першую чаргу бярэцца пануючая парода дрэвастану і да яе дадаецца назва пануючай расьліны ў падлеску або ў травяным акрыцьці, напр. Pinetum—myrtillosum—хваёвы лес з чарніцаю, Pinetum—ledosum—хваёвы лес з багуном (Ledum palustre), Alnetum—athyriosum—алешнік з жаночаю папарацьцю (Athirium filix femina) і г. д.

Такі самы мэтод ужываецца і для азначэньня травяністых згуртаваньняў, з той толькі розьніцаю, што там вельмі часта ўжываецца назва па аднэй толькі росьліне, напрыклад, згуртаваньне вострай асакі на лузе, балоце—Caricetum gracilis, назва ўтворана ад дамінуючай тут асакі вострай Carex gracilis.

У далейшым я спынюся конкрэтна на нашых асноўных тыпах расьліннасьці.

## 1. Лес

У лесе мы маем многа згуртаваньняў, унутры якіх галоўную ролю адыгрывае першы паверх—дрэўная расьліннасьць, які ў сваю чаргу робіць уплыў на характар і гушчыню паверху, травяністай расьліннасьці. Дзякуючы гэтаму ў лесе перш за ўсё прыходзіцца зьвяртаць увагу на 1 паверх, даўшы наступнае:

1. Пануючая парода і яе колькасьць па 10-бальнай сыстэме (сасна, елка, шыракаліставыя пароды).

2. Дамешка іншых парод у колькасьці, напр., 7 Х(хвоі), 3 Б(бярозы).

Узрост лесу (можна падлічыць на пнёх, якія заўсёды ёсьць у лесе, колькасьць гадовых слаёў і прыстасаваць да дрэва адпаведнай таўшчыні).

4. Таўшчыня (звычайна вызначаецца дыямэтрам дрэва на вышыні грудзей, бярэцца сярэдняя лічба ад некалькіх разьмераў).

5. Вышыня (вымяраецца пры дапамозе высатамеру, калі яго можна дастаць, калі высатамеру няма—навокал).

6. Гушчыня дрэвастану таксама па 10-бальнай сыстэме.

7. Вельмі важным зьяўляецца прысутнасьць ці адсутнасьць адпаведнага падросту. Неабходна заўсёды ўважліва адзначаць — ёсьць ці няма аднаўленьня, з якіх парод і ў якім стане (мае добры выгляд, ці занядбалы).

8. Падлесак,—ёсьць, у якой колькасьці, яго вышыня і батанічны склад.

9. Травяное акрыцьцё. Перапісаць поўнасьцю ўсе расьліны, якія сустракаюцца, і адзначыць іх колькасьць па сыстэме Drude. Адзначыць пераваго ў травяным акрыцьці якой-небудзь расьліны.

10. Мохавае акрыцьцё.

11. Вельмі важным фактарам у лесе зьяўляецца мёртвая падсьцілка, яе таўшчыня і характар, што пры апісаньні неабходна адзначыць.

У заключэньне я дазволю сабе прывесьці прыклад апісаньня ляснога згуртаваньня.

### Апісаньне № 53—25-VI-1928 г.

Хваёвы лес з елкаю ў 3 кілёмэтрах на поўнач ад в. Казіміраўка Менскага раёну. Схіл высокага морэнавага ўзгорку заняты лесам тыпу Pinetum myrtillosum

I паверх з сасны (Pinus silvestris) 7, Бяроза 2, Асіна 1, Елка — адзінкамі.

Узрост лесу 90 г., вышыня 20 мэтраў, дыямэтар 30 см. Гушчыня 0,6.

Падрост з сасны рэдкі.

Падлесак з Evonymus verrucosus і зрэдку Daphne mezereum (Воўча лыка) і Juniperus communis (ялавец).

Травяное акрыцьцё складаецца з:

cop. Vaccinium myrtillus—чарніца.
sp. Fragaria vesca—суніцы.
Trientalis europaea—седмачок.
Pirola rotundifolia—грушаўнік.
Potentilla tormentilla—дуброўка лесавая.
Majanthemum bifolium—майнік.
Rubus saxatilis—касьцяніка.
Veronica chamaedrys—вэроніка лесавая.
Luzula pilosa—ажына.
Viola sp.

Sol. Ranunculus acer—казялец едкі.
Vaccinium vitis idaea—брусьніцы.
Імхі: Pleurozium schreberi, Polytrichum, Hylocomium proliferum.

## 2. Луг

На лузе мы спатыкаемся з зусім асобным фактарам, які зьяўляецца формуючым для рэльефу і расьліннасьці ўсёй лугавой тэрыторыі. Гэты фактар — паводка, заліваньне вясновымі водамі поймы ракі. Пасьля ападу вады на лузе застаецца некаторая колькасьць „наілку“—ападку ад скаламучаных у вадзе зямлістых часьцінак, асеўшых на паверхні лугу. Звычайна паблізу ракі, дзе будзе найбольш моцнае цячэньне, ападак складаецца з буйных пяшчаных частачак, далей ад ракі — з найбольш дробных, мулападобных. У залежнасьці ад гэтай „сэдымэнтацыі“ пойма ракі набывае неаднастайнасьць у формах рэльефу, хвалістасьць.

У апошнія часы, на падставе многіх дасьледваньняў і вывучэньня жыцьця лугу выпрацавана схема падзелу поймы на 3 часткі:

1) Прырэчышчную (блізкую ад ракі, найбольш узвышаную па рэльефу з пяшчаністым субстратам).

2) Цэнтральную (часьцей за ўсё разьвітую).

3) Прытэрасавую (найбольш далёкую ад ракі, нізінную, балоцістую).

Унутры кожнай з гэтых частак грывы і западзіны ўтвараюць цэлы рад рознастайных эколёгічных умоў, а ў залежнасьці ад гэтага і цэлы рад зьмен расьлінных груповак, дзякуючы чаму і ўтвараецца характэрная для лугу стракатасьць расьліннага акрыцьця.

Такім чынам, вывучаючы лугі, неабходна зьвярнуць увагу на гэтыя два асноўныя моманты — 1) заліваньне паводкаю (ці доўга стаіць вада на лугох, галоўныя цячэньні вады, якія месцы раней за ўсё вызваляюцца з-пад вады і г. д.), 2) характар сэдымэнтацыі (таўшчыня і характар ападку пасьля паводкі). Такія назіраньні вельмі лёгка зрабіць кожнаму мясцоваму жыхару.

Да вывучэньня расьліннасьці прыступаюць, калі яна дасягне максымуму свайго разьвіцьця, звычайна к моманту пакосу. Можна вывучаць лугавую расьліннасьць, карыстаючыся двума мэтодамі. Першы мэтод профіляў, калі праз пойму ракі ўпоперак яе сячэньня праводзіцца профіль ад ракі і да карэннага берагу. Гэты мэтод карысны яшчэ тым, што дае магчымасьць высьветліць разьвіцьцё і характар выдзеленых намі трох асноўных лугавых зон.

Другі мэтод — мэтод эколёгічных радкоў—ужываецца пры дасьледваньні лугоў вельмі часта. У гэтым апошнім выпадку згуртаваньні вывучаюць па меры зьмен эколёгічных умоў, у прыватнасьці рэльефу, які зьяўляецца тут найбольш важным. Напр, вывучаюцца зьмены расьліннасьці па меры паступовага ўзвышэньня рэльефу.

Пры апісаньні расьліннасьці лугоў таксама неабходна даць весткі адносна геаграфічнага палажэньня мясцовасьці, макро і мікрорэльефу, затым глебы. Запісваючы расьліннасьць, неабходна ўлічыць павярхоўнасьць згуртаваньня, вышыню і гушчыню травастою, батанічны склад па групах расьліннасьці, імхі.

### 3. Балота

Балотная расьліннасьць разьвіваецца ў зусім асобных умовах, дзе галоўнымі фактарамі існаваньня, якія ствараюць і эколёгічныя ўмовы, будуць: 1) вільготнасьць субстрату, яго тэмпэратура і хэмічны склад вады; 2) хуткасьць нарастаньня і шчыльнасьць мохавага акрыцьця; 3) хуткасьць нарастаньня, шчыльнасьць, таўшчыня тарфянога пласту, яго батанічны склад і характар напластаваньня.

Але для высьвятленьня гэтых пытаньняў неабходна мець некаторы інструмэнтары для сьвідраваньня балот (бур), які не заўсёды лёгка дастаць. Дзякуючы гэтаму часьцей за ўсё прыходзіцца абмяжоўвацца вывучэньнем аднаго толькі расьліннага акрыцьця.

Перш за ўсё балоты падзяляюцца на дзьве буйныя групы, якія абумоўлены розным водным рэжымам 1) балоты нізінныя (грунтавога спажываньня) з высокім роўнем грунтовых вод; 2) балоты сфагнавыя, імшары (атмосфэрнага спажываньня). Паміж імі знаходзіцца трэцяя група — пераходных балот. Усе гэтыя тры тыпы генэтычна зьвязаны паміж сабою, — паступова падвышаючыся па меры росту торфу, нізіннае балота аддзяляецца ад роўню грунтовых вод, робіцца пераходным, а гэтае апошняе ў сваю чаргу пераходзіць у імшару. Дзякуючы гэтаму важнай задачай пры дасьледваньні балот раёну зьяўляецца ўстанаўленьне іх тыпаў і характару распаўсюджаньня апошніх на дасьледваемай тэрыторыі з абавязковай зарысоўкай іх на карце ўмоўнымі фарбамі. Пры дасьледваньні балот неабходна зварочваць увагу на характар мікрарэльефу, куп'яватасьці і г. д., бо ў залежнасьці ад апошняга групуецца і расьліннасьць—на купінах і западзінах зусім іншая флёра.

Расьліннасьць травяных нізінных балот прадстаўлена звычайна перавагаю асакі, балотных расьлін і часта вельмі густым і пышным акрыцьцём з імхоў. Асокі і імхі складаюць асноўную расьліннасьць балота, дзякуючы чаму для пасьпяховага іх вывучэньня неабходна азнаямленьне з асокамі і імхамі. Дасьледваньне балота з гэтай прычыны лепш за ўсё пачынаць тады, калі ёсьць разьвітыя мяшэчкі асок, дзеля таго, што без мяшэчкаў азначыць асокі вельмі цяжка. Апісаньне можна праводзіць закладаючы спробныя пляцоўкі ў 1 кв. м, або карыстаючыся мэтодам профіляў.

Сфагнавае балота (імшара) прадстаўляе сабою перавагу мохавага акрыцьця, складзенага рознымі відамі Sphagnum'аў над травяным. Апрача таго, у расьліннасьці сфагнавага балота часта разьвіваецца яшчэ дрэўны паверх, складзены балотнай хвояй і бярозкай. Форма і вышыня такіх балотных дрэў паказвае іх становішча, разам з тым і ступень вільготнасьці балота. Беднасьць балота на травяністую флёру, якая мае тут усяго толькі некалькі прадстаўнікоў, залежыць ад быстрага росту Sphagnum'у ўгару і абрастаньня ім травяністых расьлін.

Цікавы прыклад прыстасаваньня да такіх умоў выяўляе сабою расіца (Drosera rotundifolia). Яна кожны год вясною дае вэртыкальны парастак, які на паверхні сфагнавага дывану разьвівае прыкаранёвы акружак лісьцяў. За год нарослы мох хавае яе пад сабою, але зноў на будучы год на паверхні сфагнуму расіца дасьць новы акружак. Гэта паўтараецца з году ў год і дзякуючы таму, што старыя сьцяблы расіцы вельмі доўга захоўваюцца ў торфе, гэта дае магчымасьць вызначыць прырост Sphagnum'у па адрэзку сьцябла паміж акружкамі.

Заканчваючы на гэтым апісаньне геоботанічнага дасьледваньня, я хочу зрабіць кароткі агляд, што зроблена на БССР па шляху вывучэньня яе расьліннасьці.

Вывучэньню расьліннага акрыцьця тэрыторыі БССР аддадзена зусім мала ўвагі. У літаратуры мы знойдзем нязначную колькасьць прац, прысьвечаных гэтаму пытаньню,—сярод іх неабходна адзначыць як самую грунтоўную „Флору Полесья и прилегающих местностей“ Пачоскага.

Прыблізна з 1923 г. распачынаецца шырокае геоботанічнае абсьледваньне тэрыторыі БССР, маршрутнага характару. Дзякуючы гэтай вялізарнай і карыснай рабоце, якая вядзецца амаль на працягу 9 год, з пачатку ІБК, потым Беларускай Акадэміяй Навук, мы маем цэлы рад прац, надрукаваных у 6 тамох „Матар‘ялаў да вывучэньня флёры і фаўны БССР“, выд. БАН. Апрача паказанага часопісу, вынікі работы, прысьвечанай пытаньню вывучэньня прыроднага расьліннага акрыцьця нашай краіны, можна знайсьці ў „Запісках Горы-Гарэцкай С.-Г. Акадэміі, Працах Горы-Гарэцкага Нав. Т-ва і ў выд. Наркамзему.

А. Сяргееў

# За вывучэньне нашага генафонду, за выяўленьне вытворцаў паляпшальнікаў

Усім вядома, што ў галоўнай сваёй масе якасьць нашай прадукцыйнай жывёлы пакуль што вельмі нізкая і, зразумела, не адпавядае тым запатрабаваньням, якія высоўвае перад жывёлагадоўляй наша соцыялістычная гаспадарка. Абумаўляецца гэта ня толькі тым, што наша жывёла да гэтага часу трымалася ў ня зусім адпавядаючых умовах (дрэнны харч, догляд і г. д.), але яшчэ і тым, што сама жывёла, як генатып, была нявысокай якасьці.

Нявысокі генатып нашай жывёлы вёў да нізкай аплаты гэтай жывёлай корму, а значыць, і да лішняй траты працы і сродкаў у жывёлагадоўлі.

1932 год павінен стаць годам рашучай барацьбы за паляпшэньне генатыпу нашых стад. Зразумела, што сярод нашай жывёлы сустракаюцца паасобныя экзэмпляры і высокага генатыпу (у адносінах прадукцыйнасьці). Гэтыя высокія генатыпы павінны быць выяўлены і скарыстаны ў племяннай рабоце. А. С. Сераброўскі ў сваім дакладзе „Генетические основы селекции" на першым Усерасійскім зьезьдзе па племяннай справе падкрэсьлівае тую думку, што ў выглядзе генафонду мы маем такое самае нацыянальнае багацьце, як паклады вугалю, нафты і г. д. Пры гэтым А. С. Сераброўскі тлумачыць, што пад генафондам ён разумее злучнасьць усіх генаў данага віду жывёлы (напрыклад, буйной рагатай жывёлы). Геты генафонд мы павінны вывучыць, таксама як павінны выявіць і вывучыць і ўсе наяўныя ў нас паклады вугалю, нафты і г. д. з тым, каб потым як-мага хутчэй і лепш скарыстаць яго для патрэб нашай народнай гаспадаркі.

Грунтоўная мэта сэлекцыі, як прыкладной генэтыкі—стварэньне константных груп жывёлы з добрай продукцыйнасьцю, якая-б потым перадавала праз спадчыну шматмалочнасьць, вялікі проц. тлустасьці, здароўе і іншыя станоўчыя гаспадарчыя азнакі патомству. Шляхі да гэтага—масавы і індывідуальны адбор адзінак з вялікай продукцыйнасьцю і сталымі спадчыннымі задаткамі ў гэтым кірунку. Работа па выяўленьню адпаведных па сваёй гаспадарчай каштоўнасьці генатыпаў павінна пры гэтым набыць вельмі актуальнае значэньне. Зразумела, што ў гэтую работу павінны быць уцягнуты ўсе нашы жывёлагадоўчыя гаспадаркі, бо чым большы аб'ём работы ў сэлекцыі, тым больш значныя і хуткія вынікі мы можам набыць. У кожнай гаспадарцы, там, дзе маюцца магчымасьці весьці плянавую малочную гаспадарку, трэба выдзеліць групу шматмалочных кароў (а таксама вытворцаў ад шматмалочных кароў). З прыплоду гэтых рэкордыстак вылучаецца ўсё

каштоўнае ў племянных адносінах. Генэтыка ўжо даўно ведае аб так званай „тэндэнцыі звароту да сярэдняй“ або, як яшчэ інакш кажуць, пра „закон тормазу расы“. Паводле гэтай тэндэнцыі, у тым выпадку, калі мы будзем адбіраць у популяцыі самую лепшую (або самую дрэнную) жывёлу, сярод іх патомства заўсёды назіраюцца імкненьні да сярэдняй продукцыйнасьці, характэрнай для той популяцыі, з якой яны былі выбраны.

Масавы адбор высоўвае толькі фэнотыпова лепшую жывёлу, у патомстве якой мы і будзем назіраць праявы вось гэтай тэндэнцыі звароту да сярэдняй. Гэтым спосабам калі і можна палепшыць нашу жывёлу, дык толькі паступова зрушаючы популяцыю ў бок лепшых генатыпаў. Індывідуальны адбор павінен выявіць генатып жывёлы, які больш стала перадае свае спадчынныя задаткі патомству. У сучасны момант лічаць, што як саміца, так і самцы ў аднолькавай ступені перадаюць свае спадчынныя азнакі патомству. Але-ж з гэтага яшчэ зусім нельга рабіць тых вывадаў, што ў племяннай справе саміца і самцы маюць аднолькавае значэньне. Карова за ўсё сваё жыцьцё зможа даць ня больш як 15 цялят, у той час калі вытворац пры ручной злучцы пакрывае ў адзін год 80—100 кароў. Пры штучным-жа асемяненьні зможа пакрыць і да 1.000 кароў у год. Адсюль зусім зразумела тая роля, якую можа адыграць выяўлены вытворац паляпшальнік.

Па знадворнаму выгляду нельга азначыць спадчынную сутнасьць вытворца. Таксама нельга цалкам базавацца і на яго паходжаньні. Выяўленьне вытворцаў паляпшальнікаў—справа надта цяжкая, чаму за межамі быкі паляпшальнікі і расцэньваюцца на вагу золата.

Як-жа гэтыя вытворцы выяўляюцца?

Вытворцы расцэньваюцца па іх патомству. Для таго, каб выявіць племянныя якасьці быка, яго ставяць на апрабаваньне. Да апрабаваньня вытворца прыступаюць як-мага раней (каб хутчэй выявіць вытворца). Зразумела, што на апрабаваньне ставяць толькі вытворцаў добрага паходжаньня, гэта значыць ад кароў з вялікімі ўдоямі. Пры гэтым вельмі важна, каб і бацькі маткі таксама ня мелі паходжаньня ад малапродукцыйнай жывёлы. Ня толькі сама матка павінна пры гэтым вызначацца сваёй вялікай продукцыйнасьцю, але да ўсяго гэтага трэба, каб яна належала да вялікай групы такіх шматмалочных кароў, дзе выдатныя каровы былі-б не выпадковым зьявішчам, а звычайным.

Такому быку ў раньнім узросьце, не пазьней $1^1/_2$ года і не раней 1 г. 3 м., даюць пакрыць на працягу 3-х месяцаў каля 25—30 кароў. Даваць больш значную нагрузку гэтаму бычку нельга, бо ён яшчэ малады і непасільнай нагрузкай яго можна папсаваць. 25—30 кароў даецца з такім разьлікам, каб 50 проц. з іх далі бычкоў, нейкая частка, зразумела, прападзе і каля 10 цёлачак будзе даволі для ацэнкі вытворца.

Не на ўсякіх каровах можна выявіць племянныя якасьці вытворца. Нельга адбіраць для гэтай мэты як самых лепшых, таксама і самых дрэнных кароў. Як тыя, так і другія вуалююць сапраўднае становішча справы. Па-першае, у гэтым выпадку мы ня будзем ведаць пра тое, каму абавязана цёлка сваёй высокай продукцыйнасьцю — вытворцу ці карове, і, па-другое, у патомстве гэтых кароў мы будзем назіраць вельмі пярэсты малюнак у адносінах да іх продукцыйнасьці, а гэта, у сваю чаргу, зразумела, зусім ня будзе садзейнічаць выяўленьню спадчынных якасьцяў вытворніка. Трэба кароў браць з сярэднімі ўдоямі для данага стада і лепш за ўсё ва ўзросьце 2-3 цялят. Дочкі вытворцаў

пакідаюцца ў гаспадарцы і выхоўваюцца паводле добрых нормаў карменьня. Карменьне кароў, якія пакрываюцца вытворцам, павінна быць аднастайным. Лепш за ўсё каб гэтыя каровы пакрыліся праз 2 месяцы пасьля папярэдняга ацёлу і пажадана ў адзін час, напрыклад, восеньню. Невыкананьне гэтых умоў зацямняе ацэнку вытворца. Удоі цёлак раўнаюцца з удоямі маткі або з сярэднімі ўдоямі стада. Апрабаваньне вытворца цягнецца даволі доўга. Адказ на пытаньне, з якім вытворцам мы маем справу, мы атрымаем не раней як праз тры гады. Вытворцу тады будзе каля 5 год. Пры ўмове адпаведнага ўтрыманьня вытворца ім можна будзе карыстацца яшчэ 4-5 год, а то і больш. Штучнае асемяненьне значна пашырае пры гэтым пэрспэктыву ў адносінах максымальнага выкарыстаньня вытворца паляпшальніка.

У працах Яраслаўскай зоотэхнічнай дасьледчай станцыі ў 1926 г. была надрукавана выпрацаваная Маскоўскай абласной дасьледчай станцыяй інструкцыя па апрабаваньню вытворцаў. Гэтая інструкцыя мела наступныя галоўныя пункты:

1. Апрабаваньне вытворцаў мае мэтай выяўленьне спадчынных якасьцяў вытворцаў у адносінах малочнасьці шляхам параўнаньня продукцыйнасьці дачок з продукцыйнасьцю іх матак.

2. Апрабаваньню падлягаюць усе вытворцы стада, таму што неапрабаваны вытворца можа сапсаваць высокамалочнае стада.

3. Пры адборы вытворцаў для апрабаваньня трэба па-магчымасьці браць вытворцаў добрага паходжаньня. Паходжаньне быка ад малочнай маткі і бацькі, якія маюць добрых малочных сясьцёр, павялічваюць яго шансы як паляпшальніка.

4. Вызначаны да апрабаваньня вытворца дапускаецца да злучкі з 1 год 3 мес. або 1 году 4 мес., але не пазьней 1,5 году (абавязкова ручная злучка).

5. Вытворца апрабоўваецца на спэцыяльна адабранай групе кароў (25—30 кароў).

а) Каровы адбіраюцца сярэдняй продукцыйнасьці для данага стада.

б) Пажадана, каб каровы былі ня вельмі старыя (2-3 цялят) і па-магчымасьці захаваліся яшчэ да моманту параўнаньня іх з ацяліўшыміся дочкамі; апрача таго пажадана апрабаваньне як-мага большай колькасьці быкоў праводзіць на тых-жа самых каровах.

6. Тэрмін работы апрабаванага вытворца трэба па-магчымасьці не расьцягваць больш як на паўгода, каб можна было прыблізна азначыць племянныя якасьці быка ўжо да ўзросту 5,5 году.

7. Удоі дачок для іх параўнаньня з удоямі матак пералічваюцца на поўны ўдой дарослай жывёлы шляхам скарыстаньня спэцыяльных коэфіцыентаў для кожнай пароды.

8. Для поўнай і правільнай ацэнкі вытворца патрэбны ўдоі яго дачок ня менш як за дзьве поўныя лактацыі.

9. Кожны вытворца, які апрабоўваецца выяўляецца ў сярэднім 5,5 гадам, але на працягу гэтага часу бык выкарыстоўваецца на злучным пункце, як звычайны бык.

10. Каб забясьпечыць параўнаньне і дакладнасьць апрабаваньняў вытворца, гаспадарка павінна гарантаваць:

а) Правільную і па-магчымасьці аднастайную гадоўлю маладняку з злучкай для цёлак у сярэднім у 1,5 году.

б) Рацыянальнае карменьне і ўтрыманьне дарослых кароў.

в) Правільнасьць і рэгулярнасьць усіх гаспадарчых запісаў.

Вытворцаў, якія выявілі пры апрабаваньні добрыя спадчынныя задаткі, трэба потым вельмі асьцярожна выкарыстоўваць. За межамі быкі паляпшальнікі каштуюць нярэдка дзесяткі тысяч рублёў. Таму трэба памятаць, што быкі паляпшальнікі гэта вельмі каштоўная рэч у племянной справе. Чаму гэта так?

Проф. Дадыдаў С. Г. у кнізе „Селекции молочного скота“ піша: „Если мы обратимся к любой работе, изучающей потомство отдельных быков той или иной породы, мы увидим, что среди отборных первоклассных производителей лучшего происхождения лишь очень небольшая группа обыкновенно в среднем проц. 25 дает дочерей, представляющих собой ценность в продуктивном отношении“.

Апрабаваньне нашых вытворцаў дасьць яшчэ меньш проц. вытворцаў-паляпшальнікаў, але гэта, на нашу думку, яшчэ больш прымушае нас задумацца над гэтым пытаньнем. У Амэрыцы апрабаваньню быкоў з кожным годам надаюць усё большае і большае значэньне. Нам у гэтых адносінах трэба браць з яе прыклад. Тое, што проц. быкоў паляпшальнікаў невялікі, гаворыць за тое, што ў работу павінны быць уцягнуты вялікія масывы жывёлы. Сэлекцыя замкнутая ў сьценах навуковых устаноў ня дасьць значных вынікаў у сваёй рабоце. Трэба, каб „Сэлекцыя ў галіне буйной рагатай жывёлы зьяўлялася шырокім грамадзка-зоотэхнічным рухам, які-б падтрымліваўся ўсёй сыстэмай грамадзка-зоотэхнічных мерапрыемстваў і ўсёй сыстэмай устаноў, праводзячых гэтыя мерапрыемствы“ (проф. Давыдаў С. Г.— „Селекция молочного скота“). У работу па апрабаваньню вытворцаў неабходна ўцягнуць усе жывёлагадоўчыя саўгасы і колгасы. Усе малакаштоўныя вытворцы павінны быць забракаваны, а выяўленыя паляпшальнікі як-мага паўней выкарыстаны. Мы павінны вывучыць наш генафонд, павінны выявіць усё каштоўнае і выкарыстаць яго. У гэтым зоотэхнікам павінны дапамагчы і краяведы. Генафонд гэта такое-ж багацьце як паклады нафты, вугалю і г. д., чаму на вывучэньне і гэтых багацьцяў, з мэтай дапамогі нашай соцыялістычнай жывёлагадоўлі павінна быць таксама накіравана дапытлівая думка краяведа. Гэта работа будзе тым больш цікава, што ў гэтых адносінах у нас яшчэ нічога ня зроблена, ня было нават і пачыну.

---

С. Маргелаў

# Супроць буржуазных скажэньняў экономічнае географіі

*(з поваду працы: Г. Черданцев—Основы сельско-хозяйственной географіі. Сельхозгиз, 1931 год)*

I

У пэрыод разгорнутае соцыялістычнае рэконструкцыі сельскае гаспадаркі пытаньні спэцыялізацыі і разьмяшчэньня сельска-гаспадарчае вытворчасьці набываюць актуальнейшае значэньне. Гэтыя пытаньні зьяўляюцца адным з момантаў нашага плянаваньня,—адным з момантаў пашыранага соцыялістычнага аднаўленьня ў сельскай гаспадарцы.

Але пытаньні спэцыялізацыі і разьмяшчэньня нашае сельскагаспадарчае вытворчасьці, як і ўся сыстэма плянаваньня ў галіне сельскае гаспадаркі, не павінны разглядацца ізолявана ад спэцыялізацыі і раёнаваньня ва ўсёй народнай гаспадарцы, ад усяе сыстэмы плянаваньня народна-гаспадарчае дзейнасьці. Зразумела, што гэта зусім не азначае сабою немагчымасьці, скажам, гаварыць аб разглядзе даных пытаньняў у пагалінным кірунку. Наадварот, падобны разгляд ня толькі магчымы, але ён неабходны.

Сутнасьць справы ў тым, каб гэты разгляд выходзіў ня толькі з сувязі пытаньняў спэцыялізацыі, разьмяшчэньня і інш. данае галіны з усёю народнаю гаспадаркаю, але каб гэтая сувязь устанаўлівалася і праламлялася праз учот месца разгляданай галіны сярод іншых галін народнае гаспадаркі ў парадку вядучасьці, каб гэтая работа была прасякнута адзінай ідэяй—ідэяй пашыранага соцыялістычнага аднаўленьня ва ўсёй народнай гаспадарцы на базе яе соцыялістычнае індустрыялізацыі.

У сваіх працах, якія тычацца пляну „ГОЭЛРО", У. І. Ленін асабліва падкрэсьліваў, што „адзінай матар'яльнай асновай соцыялізму можа быць буйная машынная прамысловасьць, якая здольна рэорганізаваць і земляробства. Але гэтым агульным палажэньнем нельга абмежавацца, яго неабходна конкрэтызаваць. Адпавядаючая роўню навейшай тэхнікі і здольная рэорганізаваць земляробства буйная прамысловасьць ёсьць электрыфікацыя ўсёй краіны". (Тезисы о тактике РКП. Собр. соч., том XVIII, часть I, стар. 293). Або ў сваім лісту да Ўсерасійскага зьезду электратэхнікаў у кастрычніку 1921 г. У. І. Ленін пісаў: „Буйная машынная прамысловасьць і перанясеньне яе ў земляробства ёсьць адзіная экономічная база, база соцыялізму,

адзіная база для пасьпяховай барацьбы за вызваленьне чалавецтва ад ярма капіталу, ад зьбіваньня і калечаньня дзесяткаў мільёнаў людзей для вырашэньня пытаньня, ці будзе мець перавагу ў падзеле зямлі драпежнік ангельскі ці нямецкі, японскі ці амэрыканскі і г. д.“ (том XVIII, ч. I, стар. 333).

Т. Сталін на XVI партзьезьдзе, зазначаючы, што „разьвіцьцё нашае народнай гаспадаркі ідзе пад знакам індустрыялізацыі“, асабліва падкрэсьліваючы значэньне проблемы разьмяшчэньня, дае адначасна кірунак вырашэньня пытаньняў спэцыялізацыі і разьмяшчэньня ў наступнай сувязі: „Перш за ўсё,—кажа тав. Сталін,—проблема правільнага разьмяшчэньня прамысловасьці па СССР. Як-бы мы ні разьвівалі народную гаспадарку, нельга абыйсьціся бяз пытаньня аб тым, як правільна разьмясьціць прамысловасьць, як вядучую галіну народнае гаспадаркі... Далей, проблема правільнага разьмяшчэньня асноўных галін сельскае гаспадаркі па СССР“ і г. д.

Такім чынам, буйная машынная прамысловасьць на такой энэргетычнай базе, як электрыфікацыя, ёсьць адзіная матар'яльная аснова соцыялізму. Соцыялістычнай індустрыі належыць вядучая роля ва ўсім комплексе соцыяльна-тэхнічнай рэконструкцыі народнае гаспадаркі наогул і ў прыватнасьці сельскае гаспадаркі. Адсюль, соцыялістычнай індустрыі належыць вядучая роля і ў пытаньнях спэцыялізацыі і разьмяшчэньне сельскае гаспадаркі, якія зьяўляюцца адным з важнейшых момантаў у соцыяльна-тэхнічнай рэконструкцыі сельскагаспадарчае вытворчасьці.

Толькі ў такой сувязі можна ажыцьцяўляць пагалінную, у даным выпадку сельска-гаспадарчую, спэцыялізацыю і разьмяшчэньне. Толькі ў такой сувязі можна разглядаць наогул пагалінную, у даным выпадку сельска-гаспадарчую, пэрспэктыву разьвіцьця.

## II

З вызначанага вышэй пункту погляду праца Г. Чэрданцава ня вытрымлівае крытыкі не па сваёй назьве—„Основы сельско-хозяйственной географии“, а дзякуючы таму, што гэтыя „Основы сельско-хозяйственной географии“ выводзяцца ім з устанаўленьня няправільнае сувязі паміж сельскаю гаспадаркаю і іншымі галінамі народнае гаспадаркі. Бо, як мы ўжо зазначылі, каб гэтыя „Основы“ былі вынікам аналізу законамернасьцяў разьвіцьця сельскае гаспадаркі ў сувязі з яе падначаленым становішчам такой вядучай галіне народнае гаспадаркі, як соцыялістычная індустрыя, гэта значыць, каб гэтыя „Основы“ былі сапраўднымі асновамі бяз косак, дык яны, апрача прывітаньня, нічога не заслугоўвалі-б. Але гэтага якраз няма.

Сельская гаспадарка разглядаецца Г. Чэрданцавым як нешта самаважкае, што хаця і мае сувязь з іншымі галінамі народнае гаспадаркі, але гэтая сувязь разглядаецца як сувязь паміж об'ектамі, ідучымі паралельна, паміж якімі, хаця і ставіцца пытаньне аб сувязі, але ў гэтай сувязі адсутнічае проблема вядучасьці. Вядучая роля соцыялістычнай індустрыі ў працы Чэрданцава ігноруецца. „Основы сельско-хозяйственной географии“,—а гэта азначае асновы разьмяшчэньня нашае сельскае гаспадаркі, Чэрданцаў імкнецца вынайсьці ў самой сельскай гаспадарцы па-за вядучай роляй соцыялістычнае індустрыі, якая менавіта і рэорганізуе землягробства на соцыялістычных асновах, а адным з асноўных момантаў гэтай рэорганізацыі якраз і зьяўляецца спэцыялізацыя і разьмяшчэньне.

Згодна Чэрданцаву, сельская гаспадарка ў сваім разьвіцьці выкарыстоўвае прамысловасьць як дапаможніка, толькі „абапіраецца на прамысловасьць“ (стар. 98). Прычым, каб гэтае „абапіраньне“ ня было вытлумачана чытачом такім чынам, што прамысловасьць адыгрывае вядучую ролю, Чэрданцаў падкрэсьлівае, што тут „сельская гаспадарка не адсоўваецца на задні плян“ (стар. 36), гэта ёсьць самастойная, паралельная прамысловасьці галіна народнае гаспадаркі. Ён падкрэсьлівае з самага пачатку тое, што сельская гаспадарка мела вялікую адносную вагу ва ўсёй продукцыі народнае гаспадаркі, „апроч таго... сельскае насельніцтва складае ў СССР значную большасьць усяго насельніцтва“, што значэньне сельскае гаспадаркі „заўсёды будзе вялізарным: гарантыяй чаму зьяўляецца абшырнасьць нашай тэрыторыі, за гэта гаворыць і рознароднасьць прыродных умоў нашых ускраін“ (?!). Ня кажучы ўжо тут аб тым, што Чэрданцаў, як бачым, ставіць далейшае разьвіцьцё СССР у залежнасьць ад прыродных умоў, што ім разумеецца палажэньне „окраин“ (адна тэрміналёгія чаго варта!) у карэннай супроцьлегласьці з політыкай комуністычнае партыі і савецкай улады, мы зварочваем увагу чытачоў на тое, што ён гутаркамі аб вялікай адноснай вазе сельскае гаспадаркі па продукцыі і вясковаму насельніцтву змазвае вядучую ролю прамысловасьці, значэньне і вага якой значна вышэй за адносную вагу ў агуловай продукцыі, або прамысловага насельніцтва да ўсяго насельніцтва. Сельская гаспадарка, зразумела, будзе мець вялікае значэньне ў народнай гаспадарцы СССР, але справа тут ня ў гэтым. Справа ў тым, што гэтае падкрэсьліваньне неабходна Чэрданцаву для таго, каб змазаць вядучую ролю індустрыі ў социяльна-тэхнічнай рэконструкцыі сельскае гаспадаркі, каб высунуць сваеасаблівую „тэорыю“ зрастаньня паміж сельскаю гаспадаркаю і прамысловасьцю, на аснове простых узаемасувязяў пры паралельным разьвіцьці.

Рэконструкцыя сельска-гаспадарчае вытворчасьці, паводле Чэрданцава, ідзе сама-па-сабе, а ўжо ў гэтым самастойным руху выяўляецца неабходнасьць сувязі з прамысловасьцю. „Социялістычная рэконструкцыя сельскае гаспадаркі,—кажа Чэрданцаў,—утварае буйную вытворчасьць у выглядзе колгасаў і саўгасаў, адводзіць пад сельска-гаспадарчую культуру новыя абшырныя плошчы, патрабуе падвышэньня продукцыйнасьці сельска-гаспадарчае работы. Усё гэта мае на ўвазе самае шырокае ўжываньне машын. *Таму прамысловасьць мае вялікае значэньне ў справе социялістычнае рэконструкцыі сельскае гаспадаркі: яна забясьпечвае сельскую гаспадарку неабходнымі ёй машынамі.* Па меры пераходу сельскае гаспадаркі ў социялістычныя формы патрэба яе ў сельска-гаспадарчых машынах будзе ўзрастаць. А гэта азначае, што будзе павялічвацца роля і значэньне прамысловасьці“ (стар. 36, курсыў Чэрданцава).

З гэтае цытаты відавочна ўся мэханістычная сутнасьць концэпцыі Чэрданцава ў пытаньні сувязі паміж сельскаю гаспадаркаю і прамысловасьцю. Гэтая сувязь разглядаецца ім як сувязь памену дзьвюх адасобненых галін, значэньне якіх аднэй для другой узрастае па меры колькаснага росту памену. Няма чаго і даводзіць, што такая мэханістычная халтура нічога агульнага з марксызмам-ленінізмам ня мае. Няма чаго даводзіць, што такое ўстанаўленьне сувязі паміж сельскаю гаспадаркаю і прамысловасцю ня мае нічога агульнага з тым марксыцка-ленінскім палажэньнем, што „хуткі рост індустрыі наогул, выраб сродкаў вытворчасьці ў асаблівасьці, становіць асноўны пачатак і ключ індустрыялізацыі краіны, асноўны пачатак і ключ ператварэнь-

ня ўсяе народнае гаспадаркі на базе соцыялістычнага разьвіцьця". (И. Сталин—„Вопросы ленинизма", изд. 1929 г., стар. 555).

„Узброеная навейшаю тэхнікаю, — кажа Чэрданцаў, — сельская гаспадарка становіцца вельмі падобнаю да прамысловасьці" (стар. 98). Няма чаго і даводзіць, што такі мэханістычны разгляд індустрыялізацыі сельскае гаспадаркі, — зьнішчэньня супроцьлегласьцяў паміж горадам і вёскай ня мае нічога агульнага з тым палажэньнем марксызму-ленінізму, якое кажа, што пры ажыцьцяўленьні соцыялістычнай рэконструкцыі сельская гаспадарка і прамысловасьць зьліваюцца ў адзінстве.

Вось што, напрыклад, пішацца па гэтаму пытаньню ў тэзісах да дакладаў тт. Молатава і Куйбышава на XVII партконфэрэнцыі: „поўная колектывізацыя сельскай гаспадаркі, рост буйных дзяржаўных с.-г. прадпрыемстваў і ўзбраеньне савгасаў і колгасаў перадавой машыннай тэхнікай, якая на справе ператварае с.-г. працу ў рознавіднасьць індустрыяльнай працы, і значнае ўмацаваньне транспортнай сувязі і тавараздвароту паміж прамысловасьцю і сельскай гаспадаркай, — ствараюць умовы для поўнага зьнішчэньня супроцьлегласьці паміж горадам і вёскай".

Развaжаньні Чэрданцава аб шляхох разьвіцьця сельскае гаспадаркі ня толькі поўны нейкім об'ектывізмам, беспартыйнасьцю, адсутнасьцю палітычнай завойстранасьці і г. д., але яны наогул абыходзяць важнейшыя і агульнавядомыя дырэктывы партыі ў гэтым пытаньні. Так, формулюючы тры асноўныя задачы пяцігадовага пляну сельска-гаспадарчае вытворчасьці ў СССР — 1) вырашэньне зярнёвай проблемы, 2) проблемы жывёлагадоўлі і 3) проблемы тэхнічных культур, Чэрданцаў не гаворыць ні слова аб тым, што зярнёвая проблема ў асноўным вырашана, што шлях вырашэньня зярнёвай проблемы ёсьць шлях вырашэньня і астатніх проблем.

„Цяпер, калі ўжо,—кажа т. Сталін на XVI партыйным зьезьдзе,— вырашылі ў асноўным зярнёвую проблему, мы можам прыступіць да аднachасовага вырашэньня і проблемы жывёлаводзтва, якая зьяўляецца ў даны момант поўнаю жыцьця проблемаю, і проблемы тэхнічных культур. Пры вырашэньні гэтых проблем нам трэба ісьці тымжа шляхам, якім ішлі ў галіне вырашэньня зярнёвай проблемы. Гэта значыць, праз організацыю савгасаў і колгасаў, зьяўляючыхся апорнымі пунктамі нашае палітыкі, пaступова перабудоўваць тэхнічную і экономічную аснову сучаснае дробна-сялянскае жывёлагадоўлі і тэхнічных культур. „Скотовод", „Овцевод", „Свиновод", „Масляномолочны трэст", плюс колгасы ў галіне жывёлагадоўлі; існуючыя савгасы і колгасы ў галіне тэхнічных культур, — такія выходныя пункты вырашэньня стаячых перад намі проблем."

Замест гэтае яскравейшае пастаноўкі пытаньня аб шляхох разьвіцьця сельскае гаспадаркі Чэрданцаў націскае на тое, што „патрэбны яшчэ вялізныя выдаткі, уздым масавай (?!) сельска-гаспадарчай культуры, каб сельская гаспадарка СССР была пастаўлена на сучасную тэхнічную аснову" (стар. 29) і г. д.

Зусім відавочна, што падобная пастаноўка пытаньня аб шляхох разьвіцьця сельскае гаспадаркі СССР зьяўляецца чужою марксызму-ленінізму, шкоднаю ў соцыялістычнай рэконструкцыі сельскае гаспадаркі.

## III

Пытаньні прасторавае спэцыялізацыі народна-гаспадарчае вытворчасьці—гэта цэнтральныя пытаньні экономічнае географіі. Разгляд гэтых пытаньняў, які робіцца Чэрданцавым у аспэкце сельска-гаспадарчай вытворчасьці, як мы ўжо бачылі, асуджаны ў сваёй мэтодолёгічнай аснове на поўную няпрыймальнасьць.

Для ілюстрацыі правільнасьці гэтае думкі, а таксама для больш дакладнага разгляду гэтага пытаньня падаем цытату з працы Чэрданцава, якая паказвае яго разуменьне спэцыялізацыі: „Людзі, — кажа Чэрданцаў,—вырабляюць розныя продукты, напрыклад, у адным месцы—зярнёвы хлеб, у другім — жывёлаводныя продукты, у трэцім вырашчваюць бавоўну. Каб забясьпечыць задавальненьне сваіх патрэб, вытворцы вымушаны распачынаць памен продуктамі свае сельска-гаспадарчае вытворчасьці. У выніку гэтага паміж імі ўзьнікае грамадзкі падзел працы“ (стар. 4).

Перш чым крытыкаваць гэтае палажэньне Чэрданцава, мы павінны зазначыць, што ў такім разуменьні спэцыялізацыі ён не зьяўляецца чалавекам, які адчыняе Амэрыку. Гэта азначэньне спэцыялізацыі, на нашу думкі, ім цалкам перанята ў Н. Баранскага і розьніца толькі ў тым, што Чэрданцаў прыстасаваў яго да сельскае гаспадаркі, калі Н. Баранскі гаворыць аб спэцыялізацыі наогул народна-гаспадарчае вытворчасьці. Для таго, каб паказаць, што гэта менавіта так, падаем адпаведную вытрымку з Н. Баранскага. „З разьвіцьцём гаспадарчых сувязяй,—кажа ён,—і з укараненьнем таварнае гаспадаркі ўсё ў больш і больш далёкія і глухія месцы рос і разьвіваўся географічны падзел працы, сутнасьць якога складае работа розных краін (ці паасобных частак кожнай краіны), ня кожнай для сябе, а адной для другой, у выніку чаго складаецца спэцыялізацыя кожнай краіны (і паасобных частак кожнай краіны) на вырабе тых продуктаў, якія яна па сваім прыродным і іншым умовам можа выраблять усяго таней, г. зн. у канцы канцоў—з затратаю найменшае колькасьці працы. Такім чынам, у межах, скажам, нашай краіны ўтварыліся раёны лясныя, раёны прамысловыя з перавагаю той або іншай галіны прамысловасьці (баваўнянай, мэталяапрацоўчай, хэмічнай і г. д.), земляробчыя з перавагаю той або іншай культуры—зярнёвай (пшаніца, ячмень, жыта, авёс), або тэхнічнай (лён, каноплі, цукровыя буракі, сланечнік, табак, бавоўна і г. д.), жывёлагадоўчыя, зноў такі з перавагаю таго або іншага віду жывёлы і кірункам жывёлагадоўлі і г. д. і г. д.“. („Краткий курс экономической географии“, выпуск I, 1931 г., стар. 16).

Як бачым, сутнасьць разуменьня спэцыялізацыі ў Чэрданцава і Баранскага адна і тая-ж.

Спэцыялізацыя ў абодвух гэтых аўтараў зьяўляецца, перш за ўсё, процэсам об'ектывізаваным, па-загістарычным, абстрагаваным ад соцыяльна-экономічных умоў. У прыватнасьці, яны ня бачаць ніякай розьніцы паміж спэцыялізацыяй у капіталістычных умовах наогул і ў прыватнасьці ў былой царскай Расіі і спэцыялізацыяй ва ўмовах плянавага соцыялістычнага будаўніцтва ў СССР.

Па-другое, паводле абодвух гэтых аўтараў, процэс спэцыялізацыі адбываецца шляхам мірнае, спакойнае ўзаемнае гаспадарчае зацікаўленасьці розных краін і раёнаў. З процэсу спэцыялізацыі цалкам выдаляецца яго соцыяльна-экономічны зьмест,—змазваецца антагоністычны характар гэтага процэсу ў капіталістычных умовах, змазваецца клясавая барацьба, якая мае месца навакол спэцыялізацыі нашае

соцыялістычнае сельскае гаспадаркі, і элемэнты клясавае барацьбы ўнутры колгасаў у процэсе спэцыялізацыі іх вытворчасьці.

Каб уявіць сабе, што разуменьне процэсу спэцыялізацыі, якое даецца Баранскім і Чэрданцавым, ня мае нічога агульнага з марксызмам-ленінізмам, даволі прыпомніць словы Энгельса аб тым, што „толькі грамада, надаючая магчымасьць сваім вытворчым сілам дзейнічаць гармонічна па аднаму агульнаму пляну, можа дапусьціць, каб прамысловасьць так расьсеялася па ўсёй краіне, як гэта найбольш адпавядае яе ўласнаму разьвіцьцю і захаваньню, ці што тое-ж—разьвіцьцю астатніх элемэнтаў вытворчасьці" (Анти-Дюринг, изд. 1923 г., стар. 269).

З гэтых слоў Энгельса ўжо відаць, што паміж процэсам спэцыялізацыі і разьмяшчэньня ў капіталістычных умовах і ва ўмовах плянавага соцыялістычнага будаўніцтва існуе карэнная розьніца; што сьвядомае накіраваньне процэсаў спэцыялізацыі магчыма толькі ва ўмовах плянавага соцыялістычнага будаўніцтва; што процэсы спэцыялізацыі і разьмяшчэньня ўнутры капіталістычнае грамады анархічны, як і наогул анархічны даны спосаб вытворчасьці.

Для таго-ж, каб паказаць усю беспадстаўнасьць і поўную супроцьлегласьць марксызму такога тлумачэньня процэсу спэцыялізацыі „наогул", як процэсу, „сутнасьць якога зьмяшчаецца ў рабоце паасобных краін і раёнаў не саміх для сябе, а адных для другіх", напомнім тую „спэцыялізацыю", якая праводзілася ангельскай буржуазіяй у Ірляндыі і апісана Марксам у першым томе „Капіталу", а таксама падамо толькі адну вытрымку з Маркса, дзе ён кажа, што „таннасьць машыннага продукту і пераварот у сродках транспорту і зносін служыць спосабам для заваяваньня чужаземных рынкаў. Разбураючы на апошніх рамесьніцкую вытворчасьць, машынная вытворчасьць прыводзіць гэтыя рынкі да прымусовага ператварэньня ў вобласьці вырабу адпаведнага матар'ялу. Так, Ост-Індыя была вымушана вырабляць для Вялікабрытаніі бавоўну, воўну, пяньку, джут, індыго і г. д. (Капитал, том. I, изд. 1920 г., стар. 449). Вось вам т. Баранскі і спэцыялізацыя краін „на вырабе тых продуктаў, якія яны па сваім прыродным і іншым умовам могуць вырабляць таней за ўсё". Як бачыце, буржуазія пануючых краін ня мае абсолютна ніякіх ілюзій наконт гуманнага прыстасаваньня вытворчасьці колёніяльных краін да іх інтарэсаў. Вельмі часта гэтая спэцыялізацыя, што прымусова ажыцьцяўляецца ў колёніях, далёка не адпавядае рацыянальнаму выкарыстаньню іх прыродных рэсурсаў, сьвядома затрымоўвае выкарыстаньне апошніх.

Нават ва ўмовах пераходнага пэрыоду нельга мэханічна падыходзіць да процэсу спэцыялізацыі. Паглядзіце, як пастаўлена гэтае пытаньне т. Сталіным на XVI партзьезьдзе ў аспэкце сельска-гаспадарчае спэцыялізацыі. „Зразумела,—кажа т. Сталін,—што пры дробна сялянскай гаспадарцы сур'ёзнае правядзеньне спэцыялізацыі немагчыма. Немагчыма, бо дробная гаспадарка, як гаспадарка няўстойлівая, пазбаўленая неабходных рэсурсаў, прымушана разводзіць у сябе ўсё і ўсякія культуры, каб у выпадку правалаў на адных культурах можна было абярнуцца на другіх. Зразумела таксама, што без забесьпячэньня ў руках дзяржавы пэўных рэзэрваў зерня немагчыма паставіць справу спэцыялізацыі. Цяпер, калі мы перайшлі да буйное гаспадаркі і забясьпечылі ў руках дзяржавы рэзэрвы зерня, мы можам і павінны паставіць сабе задачу правільнае організацыі спэцыялізацыі па культурах і галінах".

Словам і ў гэтым пытаньні разгляданы аўтар, а разам з ім і Н. Баранскі стаяць на концэпцыі, якая нічога агульнага з марксызмам-ленінізмам ня мае.

IV

У разьдзеле „Прыродныя ўмовы сельскай гаспадаркі СССР"— Чэрданцаў, зазначаючы, што прыроднаму (географічнаму) асяродзьдзю нельга надаваць вызначальнае ролі ў разьвіцьці сельскае гаспадаркі, адначасна кажа: „падабенства прыродных умоў на вялікіх прасторах СССР ня спрыяе грамадзкаму географічнаму падзелу працы і зьвязанаму з ім памену продуктамі сельскае гаспадаркі" (стар. 6). Або сваю працу ён заключае наступным вызначэньнем пэрспэктывы СССР: „У радзе сусьветных(?) сельска-гаспадарчых раёнаў СССР становіцца самым значным(?!). Для разьвіцьця сельскае гаспадаркі і перамогі сіл природы адчыняюцца неабсяжныя перспэктывы ў *географічных прасторах СССР*" (стар. 135, падкрэсьлена мною—С. М.).

З гэтых цытат відаць уся няпрыймальнасьць, чужасьць марксызму-ленінізму і ўся беспадстаўнасьць развважаньняў Чэрданцава па гэтаму пытаньню. Паводле Чэрданцава выходзіць, што прыродныя ўмовы СССР усё-ж вызначаюць сабою тэмпы і кірунак разьвіцьця гаспадаркі СССР і пры тым, як аграрнага раёну. Разам з гэтым, заўважце (падрабязьней аб гэтым гутарка ніжэй), як раёну сусьветнае гаспадаркі наогул.

Няма чаго і даводзіць, што гэтая шкодная халтура стаіць у простай супроцьлегласьці з тым палажэньнем марксызму-ленінізму, што „з боку прыродных багацьцяў мы забясьпечаны поўнасьцю". Або, як пішацца ў тэзісах да дакладаў тт. Молатава і Куйбышава на XVII конфэрэнцыі ЎсеКП(б) аб дырэктывах да складаньня другога пяцігадовага пляну народнай гаспадаркі СССР (1933—37 г.), „Вялізарныя прыродныя багацьці краіны, бальшавіцкія тэмпы социялістычнага будаўніцтва, узрастаючая актыўнасьць шырокіх мас рабочых і колгасьнікаў і правільная лінія партыі — поўнасьцю забясьпечваюць такое разгортваньне продукцыйных сіл соцыялістычнай гаспадаркі ў другім пяцігодзьдзі, на аснове якога будуць канчаткова ліквідаваны капіталістычныя элемэнты ў СССР".

Трэба зазначыць, што Н. Баранскі ў сваім „Курсе экономической географии" і па гэтаму пытаньню стаіць на аднолькавых позыцыях з Чэрданцавым. Яскравым прыкладам, які сьцьвярджае гэтае палажэньне, зьяўляецца разгляд Баранскім географічнага асяродзьдзя на прыкладзе разьвіцьця былой Расіі. Баранскі кажа: „Аддаленасьць яе (Расіі—С. М.) ад першапачатковых асяродкаў культуры, аддаленасьць яе ад мора, колёсальнасьць адлегласьцяў, аднастайнасьць яе прыроды,—усяго гэтага больш чым дастаткова, каб вытлумачыць спазьненьне пачатку культурнага разьвіцьця Расіі".

Больш таго, у гэтым важнейшым пытаньні нават самыя апошнія курсы экономічнай географіі займаюць нейкую нявыразную позыцыю, фактычна абыходзяць яго, або абмяжоўваюцца нічога не гаворачым літаральна адным выразам. Зусім зразумела, што не надаўшы пэўнае яснасьці ў гэтым пытаньні, мы будзем пакідаць як і раней экономічную географію або ў сфэры чыста географічнай, або ў сфэры грамадазнаўчага комплексу. Абодвы гэтыя палажэньні, як і эклектычная блытаніна паміж імі, будуць асуджаць гэтую навуку на бясплоднасьць у лепшым выпадку, а то і проста на выкананьне чужога для про-

летарыяту социяльнага заказу, як гэта фактычна мае месца ў так званай „навуцы“—геополітыцы, што популярызуецца зараз ідэолёгамі імпэрыялістычнай буржуазіі за межамі СССР.

Для тлумачэньня існуючай розьніцы ў экономічным і культурным разьвіцьці паасобных краін і раёнаў, розьніцы ў палажэньні паасобных краін і раёнаў у сыстэме капіталістычнае сусьветнае гаспадаркі, ідэолёгі імпэрыялістычнае буржуазіі высоўваюць адна за другою рад тэорый, социяльнае прызначэньне якіх зводзіцца да змазваньня тых супярэчнасьцяў, якія існуюць у капіталістычнай гаспадарцы. Да такіх тэорый належаць, напрыклад, натурфілёзофская тэорыя, мальтузіянская тэорыя, расавая тэорыя і г. д.

Пакідаючы разгляд гэтых тэорый да спэцыяльнае працы, спынюся зараз толькі на натурфілёзофскіх развaжаньнях буржуазных ідэолёгаў па разгляданаму пытаньню. Згодна натурфілёзофскае концэпцыі, прыроднае (географічнае) асяродзьдзе, уплываючы праз фізыолёгію на псыхіку людзей, робіць апошніх схільнымі і накіроўвае іх да пэўнага грамадзкага ладу, вызначаючы іх месца ў сыстэме капіталістычнае сусьветнае гаспадаркі і г. д.

Праз такі напрамак тлумачэньня социяльна-гістарычнага процэсу, як і праз іншыя, памянёныя вышэй тэорыі, імпэрыялістычная буржуазія пераносіла тлумачэньне прычыны свайго пануючага палажэньня з сфэры гістарычнае абумоўленасьці ў прыроду, імкнулася тым самым згладзіць існуючыя супярэчнасьці свайго ладу і пануючага палажэньня,—давесьці прыродна-абумоўленую лёгічнасьць гэтага палажэньня.

Ня кажучы ўжо аб такім правадніку падобных поглядаў у былой Расіі, як Салаўёў, рад буржуазных аўтараў па раёнаваньню былой Расіі і нават ужо СССР „карэляцыйна зьвязвалі“ экономічнае разьвіцьцё паасобных краін і раёнаў з „прыродным ляндшафтам“ (Вінэр, Скварцоў, Б. Коган, і г. д. і г. д.).

Калі ў капіталістычных краінах зараз, асабліва ў сувязі з рэзкім абвастрэньнем усіх супярэчнасьцяў у выніку агульнага экономічнага крызісу, пачала шырока популярызавацца новая „навука“—геополітыка, якая ў новай форме і ў разгорнутым выглядзе працягвае па сутнасьці ранейшыя натурфілёзофскія развaжаньні і барацьбу па змазваньню гэтых супярэчнасьцяў, дык у нашых умовах шкоднікамі, накшталт Б. Когана, пад гутаркі аб „карэляцыйнай залежнасьці“ экономічнага жыцьця ад „прыродных ляндшафтаў“ праводзілася контррэволюцыйная рэстаўратарская работа.

Адсюль з усёю выразнасьцю відаць шкоднасьць па сутнасьці аполёгетызму гэтых поглядаў у разгляданай працы Чэрданцава, а таксама ў экономічнай географіі Н. Баранскага.

Пытаньне аб уплыве географічнага асяродзьдзя на рост вытворчых сіл павінна быць разгледжана як апасярэднічанае пэўнымі вытворчымі адносінамі, з улікам існуючага роўню разьвіцьця вытворчых сіл, прыстасоўна да пэўнага пэрыоду і месца, гэта ёсьць зусім конкрэтна. Яскравым прыкладам у гэтых адносінах можа зьяўляцца, з аднаго боку, параўнаньне былой царскай Расіі наогул, з такой перадавой капіталістычнай краінай, як, скажам, Германія, а з другога боку, параўнаньне сучаснае тэрыторыі БССР, якая знаходзілася на колёніяльным палажэньні ў царскай Расіі, з цэнтральнымі губэрнямі, якія займалі пануючае палажэньне; нарэшце, параўнаньне тэрыторыі БССР у сыстэме СССР з гэтаю-ж тэрыторыяй у сыстэме былой царскай Расіі. У залежнасьці ад існуючых вытворчых адносін і ад стану разьвіцьця вытворчых сіл наогул, а таксама ад таго месца, якое займае

разгляданая краіна або раён сярод іншых краін і раёнаў, цалкам залежыць выкарыстаньне тае прадпасылкі, якую складае сабою для разьвіцьця вытворчых сіл прыроднае (геаграфічнае) асяродзьдзе данае краіны ці раёну.

Вось чаму пры наяўнасьці аднаго і таго-ж прыроднага асяродзьдзя ва ўмовах былой царскай Расіі і зараз у СССР і ў прыватнасьці ў БССР, але пры зьмене вытворчых адносін (што адбылося зноў такі ў выніку ня прыроднае абумоўленасьці, а дзякуючы законамернасьцям, якія ўласьцівы і вынікаюць з самога грамадзкага асяродзьдзя) мы маем карэнную розьніцу ў пастаноўцы пытаньня аб выкарыстаньні прыродных прадпасылак разьвіцьця вытворчых сіл у СССР наогул, і ў прыватнасьці ў БССР. Разам з вялізарнымі зрухамі ў разьвіцьці вытворчых сіл наогул, мы, дзякуючы правільнай нацыянальнай палітыцы партыі і савецкае ўлады, маем на БССР усё ўзрастаючую магчымасьць выкарыстаньня нашых прыродных рэсурсаў для разьвіцьця індустрыялізацыі, як асновы падняцьця эканомічнага і культурнага становішча БССР да перадавых раёнаў СССР.

Адначасна мы зьяўляемся сьведкамі, як пад уплывам дзейнасьці грамадзкага чалавека і само геаграфічнае асяродзьдзе пачынае зьмяняцца. Прыкладам такой зьмены можа зьяўляцца, скажам, ператварэньне нашых балот з „рассаднікаў каўтуна і ліхаманкі“ ў багацейшыя энэргетычныя рэсурсы, добраякасьнейшыя глебы, сыравінныя базы для хэмічнае прамысловасьці і г. д.

## V

У разуменьні сутнасьці працэсу эканомічнага раёнаваньня раёну і г. д. Чэрданцаў стаіць цалкам на пункце погляду буржуазных „раёншчыкаў“ тыпу Фартунатава, Нікіціна і інш. Так, паводле Чэрданцава, „пад раёнаваньнем разумецца падзел зямной паверхні на пэўныя часткі, якія чым-небудзь адрозьніваюцца адна ад другой“ (стар. 58). Гэтае азначэньне літаральна перанята ў Фартунатава, які кажа: „раёнам павінна называць дакладна вызначаную на карце частку зямное паверхні, якая адрозьніваецца ад другіх частак якімі-небудзь азнакамі“.

Як і ў пытаньні разуменьня спэцыялізацыі, у гэтым азначэньні поўнасьцю выхалашчаны соцыяльна-эканомічны зьмест. Яно наскрозь мэтафізычна. Яскрава акрэсьленая пастаноўка пытаньня яшчэ ў пляне „ГОЭЛРО“ аб раёнаваньні, як плянавым падзеле грамадзкае працы ў прасторы, як плянавым географічным разьмяшчэньні соцыялістычных вытворчых сіл, падмяняецца буржуазнаю халтураю, якая нічога ня можа даць, апроч шкоднага змазваньня соцыяльна-эканомічнай сутнасьці працэсу географічнага разьмяшчэньня вытворчых сіл, апроч змазваньня карэннай супроцьлегласьці гэтага працэсу ў капіталістычных умовах і ва ўмовах СССР.

Падзел раёнаваньня на віды, накшталт макра-раёнаваньне, мікрараёнаваньне, агульнае раёнаваньне, спэцыяльнае раёнаваньне і г. д., падаецца Чэрданцавым таксама ў разуменьні, якое стаіць на позыцыях стопроцантнай буржуазнай ортодоксальнасьці. Так, ён кажа: „Пры макрараёнаваньні мы вызначаем вялікія раёны. Адзін ад другога гэтыя раёны адрозьніваюцца сваёю агульна-вытворчаю спэцыялізацыяй; унутры сябе—вялікаю грамадзкаю(?!) і прыроднай рознароднасьцю. Пры мікрараёнаваньні мы больш ці менш аднародны ўнутры раён падзяляем на часткі (падраёны). Кожны падраён адрозьніваецца ад другога пэўнаю больш

часковай вытворчай спэцыялізацыяй, якая ўваходзіць як частка ў агульную спэцыялізацыю раёну. Апроч таго, раёнаваньне падзяляецца на агульнае раёнаваньне і на спэцыяльнае раёнаваньне. Праводзячы агульнае экономічнае раёнаваньне, мы зварочваем увагу на прыродныя ўмовы і на ўсе бакі гаспадаркі (прамысловасьць, сельскую гаспадарку, транспорт, продуктаабмен і г. д.). Спэцыяльнае раёнаваньне лічыцца толькі з якою-небудзь аднэю галінюю прыроды і гаспадаркі" (стар. 58).

Разам з гэтым даецца азначэньне агульна-экономічнаму раёну: „Агульна-экономічны раён — гэта частка зямной паверхні, з прылягаючымі да яе часткамі атмосфэры (!) і нетрамі (?), на якой вядзецца гаспадарка, якая адрозьніваецца ад іншых частак краіны" (стар. 59), а таксама дае, як прыклад, азначэньне спэцыяльнага раёну прыстасоўна да сельскае гаспадаркі: „сельска-гаспадарчы раён—гэта частка зямное паверхні, на якой вядзецца сельская гаспадарка, якая адрозьніваецца ад сельскае гаспадаркі другой часткі зямлі" (стар. 59).

У гэтых вытрымках з усёю яскравасьцю выступае бясплоднасьць спроб Чэрданцава зьмясьціць наша раёнаваньне ў формулах буржуазных азначэньняў. Для ўсякага, больш-менш дасьведчанага ў сутнасьці нашага раёнаваньня, зусім відавочна ўся нікчэмнасьць тэрміналёгіі аб „макра" і „мікра"-раёнаваньні. Бо, формальна падыходзячы да справы, Чэрданцаў ня зможа паказаць нават прыблізнае тэрыторыяльнае меркі, якая-б адрозьнівала гэтае раёнаваньне і мела ў сабе хоць кроплю прынцыповасьці. Па сутнасьці-ж такая тэрміналёгія зусім не адпавядае нашым раёнам, як спэцыялізаваным вытворчым комбінатам, якія абымаюць сабою ўсю народна-гаспадарчую дзейнасьць па соцыялістычнаму будаўніцтву на пэўна вызначанай тэрыторыі,—вытворчых комбінатаў, якія выконваюць пэўныя функцыі ў сыстэме прасторавага падзелу грамадзкае работы і ўсе часткі якіх уяўляюць сабою не адасобненыя адзінкі, а спэцыялізаваныя „цэхі". Таму ні аб якім „макра" і „мікра"-раёнаваньні ня можа быць гутаркі. Гутарка можаісьці толькі аб ступені дэталізацыі адзінага экономічнага раёнаваньня, аб давядзеньні да паасобных спэцыялізаваных „цэхаў" агульнага заданьня па комбінату. Гэта работа якраз і выконваецца спэцыяльным раёнаваньнем, разуменьне якога ні ў якім разе не адпавядае таму мэханістычнаму разуменьню, якое даецца Чэрданцавым у прыведзеных вышэй вытрымках і якое вынікае з яго агульнае мэханістычнае концэпцыі.

Спэцыяльнае раёнаваньне ня ёсьць нешта адасобненае, а зьяўляецца часткаю агульна-экономічнага раёнаваньня, вынікае з апошнага ў парадку ўзаемасувязі і падначаленасьці паасобных галін народнае гаспадаркі і іх частак.

Адсюль відавочна поўная няпрыймальнасьць і шкоднасьць тых азначэньняў процэсу раёнаваньня і раёнаў, якія даюцца Чэрданцавым у паданых вышэй вытрымках.

У такой концэпцыі раёнаваньня, калі Чэрданцаў пачынае разважаць аб Дзяржплянаўскіх раёнах, апошнія выглядаюць у яго як штучны прывесак, які даны сам па сабе, і пры гэтым у крывым люстры.

Абсолютна незразумелым робіцца, для чаго наогул патрэбна было Чэрданцаву перабіраць на 25 старонках свае кніжкі старыя раёны Дзяржпляну, калі ён сам зазначае, што „Існуючы цяпер адміністрацыйна-гаспадарчы падзел СССР... шмат у чым адрозьніваецца ад вызначанага Дзяржплянам раёнаваньн" (стар. 162). Аднак, гэтае старое Дзяржплянаўскае раёнаваньне ім бярэцца і выключна недапушчальным мэханічным парадкам зьмешваецца ў адну кучу з проектам

сельска-гаспадарчага раёнаваньня, што робіцца зараз у Акадэміі сельска-гаспадарчых навук імя Леніна.

Усю халтуру Чэрданцава, што наблытана ім навакол пытаньня раёнаваньня, мы ня будзем разблытваць, а пакажам толькі яшчэ на адзін вельмі цікавы момант. Гэта на тое, як ён ставіць у сваіх „асновах“ пытаньне ўліку нацыянальных асаблівасьцяў пры раёнаваньні. Як ён наогул уяўляе сабе пастаноўку пытаньня аб адсталых у гаспадарчых і культурных адносінах раёнах.

Ад разважаньняў Чэрданцава па гэтаму пытаньню нясе выразным вялікадзяржаўным шовінізмам. Яго, напрыклад, цікавяць нацыянальныя асаблівасьці адсталых народнасьцяў „окраин“ ня з пункту погляду дапамогі ім праз уздым іх экономікі і культуры на аснове социялістычнай індустыялізацыі і г. д.—не, ён цікавіцца тым, што гэтыя нацыянальнасьці, бачыце, вельмі трывалы ў цяжкіх умовах жыцьця, што гэтая трываласьць важна „для сельскае гаспадаркі... краіны“.

„Нашы паўночныя, паўднёва-ўсходнія, часткова—усходнія і заходнія ўскраіны,—кажа Чэрданцаў,—населены рознымі нацыянальнасьцямі. Гэтыя нацыянальнасьці па свайму гаспадарчаму і культурнаму разьвіцьцю стаяць часамі (?!) ніжэй, а часамі і вышэй (!) у параўнаньні з галоўнымі масамі насельніцтва СССР... Для разьвіцьця сельскае гаспадаркі нашае краіны вельмі важна, што гэтыя нацыянальнасьці ўладаюць спэцыяльнымі працоўнымі навыкамі. Яны пражылі вякі на крайняй поўначы, пустынным поўдні ці ў горных масывах СССР. Тут яны набылі веды і звычаі працаваць у сваіх выключных па цяжкасьці ўмовах (тундра, паўночная тайга, сухія пустыні, высокае нагор'е). Такімі зьяўляюцца качэўнікі, аленяводы крайняе поўначы (эскімосы, лапары, самаеды і інш.), паляўнічыя і зьвераловы (комі-зыране, гольды, чукчы і інш.), горцы жывёлаводы (розныя нацыянальнасьці Каўказу і інш.), умелыя земляробы, якія прызвычаіліся да абваднянай гаспадаркі (узбэкі, таджыкі, дунгане і інш.)“ (стар. 34).

Няма чаго і даводзіць, што такое „снисходительное“ пахлопваньне па плячы адсталых нацыянальнасьцяў (якія, паводле Чэрданцава, ня так ужо і адсталі, каб асабліва аб гэтым гаварыць) ня мае нічога агульнага з нацыянальнай палітыкай партыі і савецкай улады, якая накіравана на экономічны і культурны ўздым гэтых нацыянальнасьцяў да перадавых раёнаў СССР.

## VI

Пры разглядзе пытаньня аб азначэньні экономічнае географіі як навукі, мы павінны выходзіць таксама з таго, што Кастрычнікаўская рэволюцыя ў СССР вырвала з сфэры „адзінае“ капіталістычнае сусьветнае гаспадаркі $^1/_6$ частку земнае кулі, што на гэтай $^1/_6$ частцы ўтворана сыстэма гаспадаркі, якая знаходзіцца ў карэннай супроцьлегласьці з капіталістычным грамадзтвам, што стварыліся, такім чынам, два, каранным парадкам адрозьніваючыяся, об'екты экономічнае географіі. Гэта значыць, што з часу Кастрычнікаўскай рэволюцыі ў СССР нельга больш гаварыць аб адным об'екце экономічнай географіі, а трэба гаварыць аб экономічнай географіі *СССР і экономічнай географіі капіталістычных краін.*

З гэтага пункту погляду разгляданая праца Чэрданцава, а разам з тым і праца Н. Баранскага, ня вытрымліваюць крытыкі.

У газэце „Правда“ ад 16/I-1932 г. адносна Н. Баранскага мы чытаем наступнае: „т. Баранскі пасьля XIV год існаваньня дзяржавы пролетарскае дыктатуры падзяляе сьвет на 5 гаспадарча-палітычных абласьцей (уключаючы СССР). Гэтым Баранскі па сутнасьці замазвае супярэчнасьці паміж капіталізмам у цэлым і краінаю, дзе будуецца соцыялізм. Напэўне т. Бранскі не заўважае, што ў рамках раней „адзінае“ сусьветнае гаспадаркі змагаюцца дзьве антагоністычныя сыстэмы: сыстэма капіталізму і сыстэма соцыялізму, ён не заўважае таго, што „ў выніку першага туру імпэрыялістычных войнаў вырасла новая прынцыповая супярэчнасьць сусьветна-гістарычнага маштабу і значэньня: супярэчнасьць паміж СССР і капіталістычным сьветам“ (з програмы Комінтэрну).

Што-ж робіць у гэтых адносінах Чэрданцаў? Ён зусім ня бачыць магчымасьці абыйсьціся без „уключэньня“ СССР у сыстэму „адзінае сусьветнае гаспадаркі“. Вось паслухайце: „У канцы пяцігодкі, — кажа Чэрданцаў, — СССР зойме зусім іншае (?!) палажэньне ў сусьветнай сельскай гаспадарцы. СССР ужо ня будзе экстэнсыўным (!), амаль цалкам зярновым раёнам, зьменіцца ўсё абліччa сельскае гаспадаркі СССР. Гэта будзе сусьветны сельска-гаспадарчы раён з моцным разьвіцьцём тэхнічных культур, з разьвітою пераапрацоўкаю сельска-гаспадарчых продуктаў“ і г. д. (стар. 129). Такое-ж параўнаньне даецца па агульнаму роўню вытворчасьці, па вырабу сталі і інш.

Для таго, каб паказаць, што Чэрданцаў сапраўды не адрозьнівае па сутнасьці гаспадарку СССР ад гаспадаркі капіталістычных краін, даволі прачытаць яго наступнае разважаньне: „можа ўзьнікнуць пытаньне, —кажа Чэрданцаў, —адкуль мы ведаем тэмп разьвіцьця перадавых краін капіталізму? У нас ёсьць пяцігодка, плянавая соцыялістычная гаспадарка. У капіталізму, дзе пануе прыватны капітал, няма плянавае гаспадаркі, пяцігодка для ўсяе гаспадаркі ня складзена. Тым ня менш мы з здавальняючай дакладнасьцю можам ведаць, як будуць разьвівацца капіталістычныя краіны. Па-першае, мы ведаем як яны разьвіваліся ў папярэднія гады, па-другое, мы маем разважаньні і артыкулы саміх капіталістаў і буржуазных экономістаў захаду, якія вызначаюць разьвіцьцё паасобных рашаючых галін іх народнае гаспадаркі. Супастаўленьне ўсіх гэтых даных, іх ацэнка і параўнаньне з нашымі тэмпамі даюць адказ на запытаньне, хто будзе разьвівацца хутчэй — мы ці яны“ (стар. 130).

Наўрад ці патрэбна даводзіць, што далей ісьці няма куды. Наўрад ці патрэбна гаварыць, што такое разуменьне „сусьветнае гаспадаркі“, такое разуменьне розьніцы паміж СССР і капіталістычным сьветам, якое даецца Чэрданцавым, ня мае нічога супольнага з марксызмам-ленінізмам.

Для таго, каб з усёй відавочнасьцю ўявіць няпрыймальнасьць і шкоднасьць разважаньняў Чэрданцава аб СССР, як частцы сусьветнае гаспадаркі, якая, паводле яго думкі, толькі ў канцы пяцігодкі зойме „іншае палажэньне ў сусьветнай гаспадарцы“ (прычым, гэтае „іншае палажэньне“ разумеецца Чэрданцавым не па соцыяльна-экономічнай сутнасьці, а па абліччы, „інтэнсыўнасьці“, „разьвіцьцю тэхнічных культур“ і г. д.), мы падамо толькі, у дадатак да паданай раней вытрымкі з програмы Комінтэрну, наступную вытрымку з прамовы т. Сталіна на XVI партыйным зьезьдзе: „Капіталізм,—кажа т. Сталін,— ужо не становіць сабою адзінай і ўсёабымаючай сыстэмы сусьветнае гаспадаркі... на раду з капіталістычнай сыстэмай гаспадаркі існуе соцыялістычная сыстэма, якая расьце, якая робіць посьпехі, якая су-

процьставіць капіталістычнай сыстэме і якая самым фактам свайго існаваньня дэмонструе гніласьць капіталізму, расшатвае яго асновы".

Чэрданцаў ні слова не гаворыць аб „гніласьці" капіталізму, для яго ня існуе ні агульна-экономічнага крызісу капіталізму, ні, у прыватнасьці, таго палажэньня, што „цяпер сельска-гаападарчы крызіс ва ўсіх аграрных краінах, што мы наогул маем у капіталістычных краінах, „заместа росту сельскае гаспадаркі—разбурэньне мільённых мас сялянства" і г. д., што сярэднія Чэрданцава аб пэрспэктыве росту капіталістычнай гаспадаркі — сьмеху варты, што яны служаць буржуазіі, адыгрываючы ролю змазваньня супярэчнасьцяў капіталістычнага грамадзтва.

Чэрданцаў нібы-та не заўважае, што пасьля слоў аб адмаўленьні плянавасьці з боку „ўсяе гаспадаркі" капіталізму ён падае гэтую „плянавасьць" з боку „паасобных рашаючых галін".

Чэрданцаў сваімі разважаньнямі аб „супастаўленьні даных" з нашае пяцігодкі і „плянавых намётак" буржуазіі па „рашаючых галінах іх народнае гаспадаркі" змазвае пытаньне карэннай супроцьлегласьці сыстэмы капіталізму і сыстэмы социялізму.

„У чым, — кажа т. Сталін, — прычына таго, што СССР, ня гледзячы на яго культурную адсталасьць, ня гледзячы на недахоп капіталаў, ня гледзячы на недахоп тэхнічна-выхаваных гаспадарчых кадраў, знаходзіцца ў стане растучага эканамічнага ўздыму і мае на фронце экономічнага будаўніцтва рашаючыя посьпехі, а передавыя капіталістычныя краіны, ня гледзячы на збытак капіталаў, багацьце тэхнічных кадраў і больш высокі ровень культурнасьці, знаходзяцца ў становішчы растучага экономічнага крызісу і церпяць у галіне гаспадарчага разьвіцьця паражэньне за паражэньнем? Прычыны — у *розьніцы* экономічных сыстэм у нас і ў капіталістаў. Прычына — у *бязгрунтоўнасьці* капіталістычнай сыстэмы гаспадаркі. Прычына — у *перавагах* савецкай сыстэмы гаспадаркі перад сыстэмай капіталістычнай".

Вось у чым розьніца ў пасьляваенным становішчы сусьветнае гаспадаркі. Вось у чым розьніца тэмпаў нашага разьвіцьця наогул і разьвіцьця капіталістычнае гаспадаркі.

Для Чэрданцава гэтае прынцыповае розьніцы ня існуе, для яго сусьветная гаспадарка зьяўляецца „адзінай" сусьветнай гаспадаркай, а адгэтуль і азначэньне сельска-гаспадарчае географіі, якое ім даецца, ня мае нічога супольнага з марксысцка-ленінскім разуменьнем гэтае навукі.

Так ён гаворыць: „сельска-гаспадарчая географія перш за ўсё паказвае нам, як разьмешчана сельская гаспадарка ва ўсім сьвеце і ў вывучанай намі краіне. Гэта значыць, што яна паказвае нам, дзе і якая вядзецца сельская гаспадарка". І далей: „*сельска-гаспадарчая географія тлумачыць нам, чаму ў розных краінах, або частках краіны характар сельскае гаспадаркі розны.* Гэта значыць, яна ня толькі паказвае нам, як разьмешчана сельская гаспадарка па краіне, але і чаму яна разьмясьцілася менавіта так, а ня інакш" (стар. 3, курсыў Чэрданцава).

Фактычна гэтае азначэньне сельска-гаспадарчае географіі Чэрданцавым таксама нічым не адрозьніваецца ад азначэньня экономічнае географіі, што даецца Н. Баранскім. Апошні ў сваім падручніку (выданьне 1931 году) піша: „Асноўнае пытаньне, якое цікавіць економіч-

ную географію, ёсьць пытаньне аб тым, у чым заключаецца гаспадарчая своеасаблівасьць данае краіны (або часткі краіны), чым адрозьніваецца яна ў гаспадарчых адносінах ад іншых краін, чым тлумачыцца гэтае адрозьненьне“ (стар. 7). Або на стар. 20 Баранскі гаворыць: „Экономічная географія вывучае разьмяшчэньне гаспадаркі па зямной паверхні як у сусьветным маштабе, так і ў маштабе кожнае паасобнае краіны“.

Як бачым, і па гэтаму пытаньню Чэрданцаў аказаўся пасьлядоўным пераказчыкам Н. Баранскага.

Што-ж па сутнасьці ўяўляе сабой тое азначэньне, якое даецца Баранскім у аспэкце экономічнае географіі наогул і Чэрданцавым у аспэкце сельска-гаспадарчае географіі?

У гэтым азначэньні, перш за ўсё, няма, як бачым, адбітку таго, што раней „адзіная“ сусьветная гаспадарка падзелена зараз на дзьве супроцьлеглыя часткі,—няма зьвязанасьці з пэўнаю сыстэмаю гаспадаркі ні з капіталізмам, ні з сыстэмаю будуючагася соцыялізму, а гэта значыць, што гэтае азначэньне няпрыгодна зусім.

Па-другое, у гэтым азначэньні аўтары не пайшлі далей тых позыцый буржуазнае навукі, якія ахарактарызаваны Марксам, як толькі „тлумачэньне сьвету“, які мы „павінны перарабіць“. Гэта, ізноў такі, значыць, што марксысцка-ленінскае разуменьне экономічнае географіі як навукі ня мае нічога супольнага з азначэньнем, якое даецца Баранскім і Чэрданцавым. Гэта, ізноў такі, значыць, што зьмест экономічнае географіі, як навукі, не адбіты ў іх азначэньні ні для ўмоў капіталістычнае гаспадаркі, ні для гаспадаркі СССР, гэта значыць, што іх азначэньне ня вытрымлівае крытыкі, што яно абсолютна няпрыймальнае.

Па нашай думцы, у задачу марксысцка-ленінскае экономічнае географіі ва ўмовах капіталістычнае сыстэмы гаспадаркі павінна ўваходзіць—адказ на тыя запатрабаваньні, што прад'яўляюцца да яе з боку сусьветнага руху пролетарыяту. Гэта значыць, што экономічная географія павінна зьявіцца баявою зброяю сусьветнага пролетарыяту ў яго барацьбе з капіталізмам. Гэта значыць, што экономічная географія павінна паказаць ня толькі асаблівасьці выяўленьня імпэрыялістычнае стадыі разьвіцьця капіталізму з агульна-экономічным крызісам, з абвостранымі ім супярэчнасьцямі і г. д. у конкрэтнай капіталістычнай краіне ці яе раёне, але экономічная географія павінна паказаць прыстасоўна да кожнае краіны ці раёну і тыя асаблівасьці клясавае барацьбы пролетарыяту, якія-б забясьпечвалі перамогу над капіталізмам.

Экономічная географія ва ўмовах СССР павінна адказаць на запатрабаваньні соцыялістычнага будаўніцтва ў сувязі з плянавым разьмяшчэньнем соцыялістычных вытворчых сіл. Экономічная географія ва ўмовах СССР павінна стаць навукай аб плянавым географічным разьмяшчэньні соцыялістычных вытворчых сіл на прасторах СССР наогул і ў яго паасобных раёнах у прыватнасьці.

Экономічная географія, як асобная і сапраўды навуковая дысцыпліна, па сутнасьці і пачала афармляцца на базе марксысцка-ленінскае мэтодолёгіі толькі пасьля Кастрычнікаўскай рэволюцыі ў СССР. Мэтодолёгія экономічнае географіі, як навукі, а таксама яе зьмест, як навучальнае дысцыпліны, ва ўмовах СССР выкоўваецца ў той вялізарнай рабоце па экономічнаму раёнаваньню СССР, якая пачалася

з пляну „ГОЭЛРО“ і якая зараз шырака разгорнута па ўсёй тэрыторыі СССР.

Экономічная географія, як і кожная навука, зьяўляецца партыйнай. На літаратуры па экономічнай географіі, яе гісторыі і г. д. па любому пытаньню можна з усёй відавочнасьцю прасачыць гэтае палажэньне. Выключна выразны адбітак клясавае барацьбы можна прасачыць па ўсіх пытаньнях экономічнае географіі БССР. Але гутарку аб гэтым мы пераносім у спэцыяльную працу.

У заключэньне разгляду працы Чэрданцава неабходна сказаць толькі наступнае, што яна па ўсіх пытаньнях стаіць на позыцыях, чужых марксызму-ленінізму; што яна ўяўляе сабою шкодную буржуазную халтуру; што ёй ня месца ні ў ліку школьных падручнікаў, ні сярод падручнікаў нашае пазашкольнае асьветы.

---

В. Серафімаў, Ф. Садоўскі

# Узмацніць барацьбу з варожымі вылазкамі ў краязнаўстве

*(„За бальшавіцкую партыйнасьць у краязнаўстве"—Цэнтральнае бюро краязнаўства РСФСР. Матар'ялы да месячніка краязнаўства).*

Краязнаўчы рух на даным этапе набывае вялізарнейшае значэньне. Рад пастаноў ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б з усёй катэгорычнасьцю патрабуе ад навукова-дасьледчай работы рашучага выкананьня дырэктыў партыі, поўнага падпарадкаваньня навукова-дасьледчай работы ўдарным тэмпам соцыялістычнага будаўніцтва. Увага краязнаўчай работы, як аднэй з форм масавай організацыі рабочых, колгасных і бядняцка-серадняцкіх мас на навукова-дасьледчую работу, павінна быць сконцэнтравана на актыўнейшай барацьбе за чарговыя задачы соцыялістычнага будаўніцтва на заводзе, фабрыцы, МТС, колгасе. Партыйныя організацыі павінны стаць на чале краязнаўчае работы і падпарадкаваць яе барацьбе за рэалізацыю 6 ўмоў тав. Сталіна як у прамысловасьці, так і ў сельскай гаспадарцы, барацьбе за выкананьне і перавыкананьне прамфінпляну, барацьбе за організацыйна-гаспадарчае ўмацаваньне колгасаў.

У нацыянальных рэспубліках і раёнах краязнаўства—у агульнай барацьбе за разгортваньне соцыялістычнага будаўніцтва, у барацьбе за ліквідацыю царскай і буржуазнай спадчыны—павінна ўдзяліць ня меншую ўвагу разьвіцьцю культуры нацыянальнай па форме і соцыялістычнай па зьместу, з мэтай далейшага ўзмацненьня забясьпечаньня кіруючай ролі пролетарыяту гэтымі процэсамі, каб шпарчэй прасоўваць наперад у соцыялістычным будаўніцтве раней адсталыя нацыі.

З боку ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б мы маем яскравыя паказаньні аб разгортваньні масавай навукова-дасьледчай работы. Пастанова ЦК УсеКП(б) аб выданьні гісторыі заводаў, аб выданьні гісторыі грамадзянскай вайны, аб тэхнічнай пропагандзе, аб школе, выдавецкай справе—баявая програма дзейнічаньня краяведных організацый. Задача кіруючых краяведных організацый і навукова-дасьледчых інстытутаў—даць папулярную мэтодычную літаратуру, патрэбную програму нізавому партыйнаму актыву, рабочаму, колгасьніку, якая дапамагла-б яму займацца навукова-дасьледчай работай па сваёй вытворчасьці, якая забясьпечыла-б яму сталую сувязь з навукова-дасьледчым інстытутам, які ў сваю чаргу стала дапамагаў-бы яму ў яго рабоце, даць такую програмна-мэтодычную літаратуру, якая-б дапамагла партыйнаму і профсаюзнаму актыву організаваць краязнаўчую ячэйку, краязнаўчую работу на заводзе, у колгасе, савгасе. Бязумоўна, што спроба з боку ЦБК РСФСР выдаць зборнік матар'ялаў да месячніка краязнаўства па разгортваньню

краязнаўчай работы зьяўляецца правільнай і вельмі патрэбнай. Выданы зборнік кіраўнічых матар'ялаў пад агульнай назвай *„За бальшавіцкую партыйнасьць у краязнаўстве"* ўключае ў сябе пастановы ЦК УсеКП(б) аб гісторыі заводаў, гісторыі грамадзянскай вайны, чым рашуча падкрэсьліваецца кірунак і чарговыя задачы ў краязнаўстве. Зборнік уключае ў сябе рад другіх кіраўнічых матар'ялаў па масавай навукова-дасьледчай рабоце па лініі гаспадарчых, савецкіх і грамадзкіх організацый. Аднак-жа „тэзісы для дакладчыкаў", зьмешчаныя ў зборніку, у сваіх падразьдзелах ідуць у разрэз кіраўнічым матар'ялам і агульным дырэктывам ЦБК і дапускаюць рад блытаных і антыбальшавіцкіх установак.

Зусім недапушчальная антыпартыйная ўстаноўка ў нацыянальным пытаньні. Гаворачы аб барацьбе на два франты ў нацыянальным пытаньні, у „тэзісах" сказана, што абавязкова трэба змагацца супроць, „з аднаго боку—*рэштак* (падкрэсьлена намі—В. С. і Ф. С.) вялікадзяржаўных вялікарасійскіх тэорый і цячэньняў буржуазнай навукі, якія звысака разглядаюць нацыянальныя меншасьці і ігноруюць нацыянальную політыку савецкай улады".

Такая ўстаноўка аб „рэштках" вялікадзяржаўных тэорый яўна супярэчыць дырэктывам партыі аб барацьбе з вялікадзяржаўным шовінізмам, як галоўнай нябясьпекай на даным этапе, што рашуча падкрэсьліў XVI зьезд УсеКП(б): „Галоўную небясьпеку на даным этапе ўяўляе *вялікадзяржаўны ўхіл*, які прабуе рэвізаваць асновы ленінскай нацыянальнай політыкі і пад флагам інтэрнацыяналізму ўяўляе імкненьне аджываючых клясаў пануючай раней вялікарасійскай нацыі вярнуць сабе страчаныя прывілеі" (з рэзолюцыі XVI зьезду УсеКП(б)). Зусім зразумела, што ўстаноўка аб „рэштках" ня мае нічога супольнага з дырэктывамі партыі і змазвае ўсю сутнасьць барацьбы з вялікадзяржаўным шовінізмам.

Таксама блытаная ўстаноўка даецца і барацьбе з мясцовым шовінізмам. Барацьба супроць мясцовага нацыяналізму ў тэзісах характарызуецца як „нацыянал-шовіністычныя настроі", як „васьпяваньне нацыянальных асаблівасьцяў, нацыянальных герояў". Зусім відавочна, што такая пастаноўка пытаньня змазвае ўсю клясава-варожую сутнасьць мясцовага нацыяналізму. „Ухіл да мясцовага нацыяналізму адбівае нездавальненьне аджываючых клясаў раней прыгнечаных нацый рэжымам дыктатуры пролетарыяту, іх імкненьне адасобіцца ў сваю нацыянальную дзяржаву і ўстанавіць сваё клясавае панаваньне" (з дакладу тав. Сталіна на XVI зьезьдзе). Як бачна, справа ня толькі ў настроях, а і ў імкненьні скінуць дыктатуру пролетарыяту і ўстанавіць дыктатуру буржуазіі, у стаўцы на інтэрвэнцыю і г. д. і таму „задача партыі заключаецца ў тым, каб весьці рашучую барацьбу з гэтым ухілам і забясьпечыць умовы, неабходныя для інтэрнацыянальнага выхаваньня працоўных мас народаў СССР" (т. Сталін).

**„Тэзісы для дакладаў"** не концэнтруюць увагу краяведных організацый на барацьбе за рэалізацыю 6 ўмоў т. Сталіна як у прамысловасьці, так і ў сельскай гаспадарцы, ня гледзячы на тое, што кніжка вышла ў пачатку 1932 г.

У разьдзеле аб сельскай гаспадарцы ні слова аб організацыйна-гаспадарчым умацаваньні колгасаў, у той час як барацьба за організацыйна-гаспадарчае ўмацаваньне колгасаў павінна быць у цэнтры ўсёй работы краяведных організацый. Адсутнасьць яскравай установкі ў гэтым пытаньні прывяла да грубейшага скажэньня ў пытаньні колгаснага будаўніцтва ў № 11-12 **„Савецкага Краязнаўства"** (орган

т-ва краяведаў-марксыстаў пры Ком. Акадэміі СССР і ЦБК РСФСР), дзе зьмешчана адзіная програма вывучэньня колгасаў і савгасаў. У програме скрозь і ўсюды атаесамляюцца колгасы і савгасы, а ў разьдзеле колектывізацыі быту ў упор пастаўлена пытаньне „Ці ў асобных дамох жывуць колгасьнікі, ці ў агульным“? Такое шкоднае атаесамленьне яўна супярэчыць дырэктывам партыі аб „арганізацыйна-гаспадарчым умацаваньні колгасаў на арцельнай стадыі“. „Задача організацыйна-гаспадарчага ўмацаваньня колгасаў у даны час перш за ўсё зьяўляецца задачай разьвіцьця і замацаваньня *арцельнай* формы колгасаў“ і што „спробы штучнага паскарэньня пераходу ад арцельнай формы колгасаў да комуны на сучаснай стадыі разьвіцьця колгасаў зьяўляецца сур'ёзнай *небясьпекай*“. (З пастановы ЦК УсеКП(б)).

Прыведзеныя факты з усёй яскравасьцю сьведчаць аб неабходнасьці ўзмацненьня клясавай пільнасьці на краяведным фронце, узмацненьня барацьбы з малейшымі вылазкамі супроць дырэктыў партыі, супроць генэральнай лініі партыі. Як бачна, ліст т. Сталіна ў рэдакцыю часопісу „Пролетарская рэволюцыя“ ня стаў для ЦБК РСФСР зброяй у барацьбе з варожымі пролетарыяту ідэолёгіямі. І гэта зусім не выпадкова: ні ў выданым зборніку *„За бальшавіцкую партыйнасьць у краязнаўстве“*, ні ў № 11-12 *„Савецкага Краязнаўства“* няма ні слова аб лісьце т. Сталіна, які на краяведным фронце павінен быць зброяй у барацьбе з контрабандай, у барацьбе з малейшымі вылазкамі клясавага ворага. Як бачым, гэта зброя партыі ігноруецца ЦБК РСФСР.

З усяго сказанага беларускія краязнаўчыя організацыі павінны зрабіць належны вывад і яшчэ больш узмацніць барацьбу з варожымі пролетарыяту ідэолёгіямі ў кразнаўстве, узмацніўшы пільнасьць да найдрабнейшых ухілаў і вылазак. Партыйныя і комсамольскія організацыі павінны стаць на чале краязнаўчага руху, шырака організуючы на краяведную работу рабочыя і колгасныя масы.

Краязнаўства павінна быць аднэй з формаў організацыі мас на аўладаньне навукай, на аўладаньне тэхнікай.

Поўнасьцю падпарадкаваць краязнаўчую работу ўдарным тэмпам соцыялістычнага будаўніцтва.

---

# ХРОНІКА

## БАН—да 3-й бальшавіцкай вясны

Падрыхтоўчая работа да ўдзелу інстытутаў і сэктароў БАН пачата яшчэ ў канцы студзеня б/г. Масавы сэктар БАН арганізаваў штурм падрыхтоўкі інстытутаў і сэктароў БАН да ўдзелу ў 3-й бальшавіцкай вясьне. Паводле зацьверджанага пляну работы па ўдзелу БАН у гэтай важнейшай палітычна-гаспадарчай кампаніі будзе зроблена наступнае: выдана 9 папулярна-масавых брошур, арганізавана выстаўка масавай папулярнай літаратуры пры бібліотэцы БАН, праз часопіс „Савецкая Краіна“ будзе даваща агляд і рэцэнзаваньне літаратуры па пытаньням 3-й бальшавіцкай вясны, а таксама будзе зьмяшчацца матар'ял ходу работ вясновай сяўбы, Інстытут геолёгіі наладжвае консультацыю па пытаньню вапнаваньня глебы.

Усім краязнаўчым організацыям па лініі Масавага сэктару і ЦБК дана паказаньне аб практычным удзеле ў правядзеньні вясновай сяўбы.

Мяркуецца перадача па радыё 5 дакладаў, прысьвечаных вясновай сяўбе, організацыя выездаў навуковых працаўнікоў БАН на месцы для дапамогі ў правядзеньні кампаніі і наладжваньня масавай навукова-дасьледчай работы.

Папярэдняя праверка ходу работы па ўдзелу ў 3-й бальшавіцкай вясьне выявіла, што тэмпы работы ў гэтым кірунку досыць такі марудныя. На 25 лютага здана ў друк з 9— толькі 3 брошуры (Інстытут біолёгіі), надрукаваны 1 артыкул у часопісу „Савецкая Краіна“ № 1, падрыхтавана выстаўка літаратуры, а ў астатнім работа толькі разгортваецца. Неабходна паскорыць тэмпы работы і дабіцца поўнага і своечасовага выкананьня пляну работы па ўдзелу ў 3-й бальшавіцкай вясьне.

Больш таго, трэба адзначыць зусім недапушчальным такое зьявішча, як няўключэньне ў правядзеньне веснавой сяўбы Інстытуту экономікі БАН, які нічога ня робіць у гэтых адносінах. Амаль такі самы малюнак назіраецца з боку Аграглебавага інстытуту, які абмежаваўся выданьнем 1 брошуры і тая вызначана не спэцыяльна да 3-й бальшавіцкай вясны, а ўзята з вытворчага пляну інстытутаў на 1932 год.

Адпаведным кіраўнічым органам БАН і ўсёй грамадзкасьці неабходна прымусіць паказаныя інстытуты павярнуцца тварам да 3 бальшавіцкай вясны і ўключыцца ў гэтую кампанію пакуль яшчэ ня позна. Таксама патрэбна наогул усім абсолютна інстытутам і сэктаром БАН больш падумаць над гэтым пытаньнем і аддаць яму максымум увагі.

## Да папярэдніх вынікаў падпіскі на часопіс „Савецкая Краіна“

Часопіс „Савецкая Краіна“ пачаў выдавацца пасьля зьмены опортуністычнага нацдэмаўскага кіраўніцтва БАН і ЦБК.

На працягу мінулага году рэдколегія „Савецкая Краіна“ і ЦБК прымала цэлы рад захадаў да максымальнага прасоўваньня часопісу на прадпрыемствы, саўгасы, колгасы, школы, бібліотэкі, клюбы, хаты - чытальні і г. д., але, на жаль, трэба адзначыць, што посьпехі ў гэтых адносінах былі надзвычайна нязначныя — пры 1.000 тыражы „Савецкай Краіны“ агульная падпіска на часопіс, апрача абмену з іншымі часопісамі і газэтамі, у сярэднім даходзіла да 400-450 экзэмпляраў. Гэта значыць, што часопіс пры яго надзвычайна вялікай значнасьці і танным кошце (4 рублі за 12 кніжок у год), усё-ж такі вельмі слаба пашыраны сярод працоўных мас БССР; у сярэднім 4—5 экзэмпляраў на раён. Горш таго—маем нават цэлы рад раёнаў, дзе зусім „Савецкая Краіна“ невядома.

Тут, зразумела, добрая доля віны прыпадае на ЦБК, якое не скарыстала ўсіх магчымасьцяў у справе прасоўваньня часопісу ў масы, таксама выяўлена поўная бязьдзейнасьць з боку мясцовых краязнаўчых організацый, якія ў сваёй пераважнай большасьці ігнаравалі дырэктывы ЦБК у справе пашырэньня падпіскі на часопіс „Савецкая Краіна“.

У бягучым годзе справа крыху палепшана. Папярэдні падлік падпіскі па паасобным раёнам характарызуецца наступнымі лічбамі:

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| 1. | Па Тураўскаму | раёну | 33 | экзэмпл. |
| 2. | „ Менскаму | „ | 50 | „ |
| 3. | „ Уваравіцкаму | „ | 27 | „ |
| 4. | „ Клічаўскаму | „ | 25 | „ |
| 5. | „ Жлобінскаму | „ | 21 | „ |
| 6. | „ Бягомльскаму | „ | 19 | „ |
| 7. | „ Вушацкаму | „ | 16 | „ |
| 8. | „ Лельчыцкаму | „ | 16 | „ |
| 9. | „ Віцебскаму | „ | 15 | „ |
| 10. | „ Слуцкаму | „ | 12 | „ |
| 11. | „ Дубровенскаму | „ | 12 | „ |
| 12. | „ Бабруйскаму | „ | 12 | „ |

Апрача таго, ад іншых раёнаў паступіла на 232 экзэм. і разам на 1/II маем 504 падпісчыкі.

Прыведзеныя лічбы гавораць за тое, што там, дзе раённыя бюро краязнаўства сур'ёзна падыйшлі да справы пашырэньня часопісу „Савецкая Краіна", там маюцца пэўныя вынікі, там падпіска даведзена да ўстаноў, організацый прадпрыемстваў, саўгасаў, колгасаў, школ і паасобных працаўнікоў. Іншы малюнак бачым у такіх буйных раёнах, як Магілеўскі, Горацкі, Гомельскі, Рэчыцкі, Полацкі, Мазырскі і інш., адкуль да гэтага часу падпіска зусім не паступіла, а між іншым Гомельскі і Рэчыцкі раёны вынесьлі пастанову на агульных сходах краязнаўчага актыву „распаўсюдзіць часопіс „Савецкая Краіна" па раёну 75 экз. у першым і 50—у другім". Такія пастановы маюцца і ў Полацкім, Церахаўскім, Сіроцінскім ды ў іншых раёнах, але яны пакуль што застаюцца на паперы.

Трэба раённым краязнаўчым бюро сур'ёзна ўзяцца за пашырэньне „Савецкай Краіны", як неабходнай зброі ў справе штодзеннай краязнаўчай навукова-дасьледчай работы шырокіх працоўных мас. Неабходна вылучыць спэцыяльных упаўнаважаных па зборы падпіскі, разгарнуўшы ў гэтым кірунку соцыялістычныя мэтоды работы—соцспаборніцтва і ўдарніцтва, шырэй популярызаваць „Савецкую Краіну" сярод шырокіх мас працоўных, організаваўшы дасылку корэспондэнцыі ў часопіс як ад паасобных рабочых, колгасьнікаў і наогул працоўных, так і ад цэлых брыгад і груп, стварыўшы кадры сталых корэспондэнтаў дапішчыкаў часопісу „Савецкая Краіна".

На чарговым паседжаньні Масавага сэктару і ЦБК БАН будзе разглядацца пытаньне аб прэм'яваньні лепшых зборшчыкаў падпіскі на часопіс „Савецкая Краіна". Вынікі прэм'яваньня будуць апублікаваны ў хроніцы чарговага нумару „Савецкая Краіна".

Т. К.

---

Выдавец—Беларуская Акадэмія Навук.



Друкарня БАН. Галоўлітбел № 333. Заказ № 781. Тыраж 1200 экз. 5 арк.

# З ь м е с т



## Х Р О Н І К А

